У СЯМ'І АДЗІНАЙ, БРАТНЯЙ

# ЦЮМЕНСКІ МЕРЫДЫЯН

Над заходнесібірскай тайгою ляціць верталёт. На яго борце нашы землякі-беларусы. Буравікі. Яны дабіраюцца на свае рабочыя месцы...

Сёння цюменскія нетры даюць палову нафты і газу, што здабываецца ў краіне. Асваенню нафтавых багаццяў Заходняй Сібіры дапамагае ўся краіна. Шэраг прадпрыемстваў і ўпраўленняў аказваюць дапамогу цюменскім буравікам. Яны працуюць па вахтава-экспедыцыйным метадзе: буравікоў на два тыдні з дапамогай авіяцыі перакідваюць на рабочыя месцы, потым — дарога дадому, на адпачынак.

У барацьбе за вялікую нафту Сібіры актыўны ўдзел прымаюць і беларускія нафтавікі. Не гэтак даўно непадалёку ад Ніжня-

(Працяг на 26-й стар.)



□ Брыгада чакае верталёта...

Тэкст і фота Мікалая БУХАЎЦА.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

БЕЛАРУСЬ № 11 (436)

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ЛІСТАПАД 1981 г.

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1944 г.

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР
па справах выдавецтваў, паліграфіі
і кніжнага гандлю.
Мінск.

## У НУМАРЫ:



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: машыніст вежавага крана Надзея ЗЫКУН (гл. стар. 36.)



Журнал «Беларусь» на белорусском языке.

Здадзена ў набор 11.09.81. Падпісана да друку 14.10.81. АТ 06370. Фармат 70×108¹/₁₆. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 10,8. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 21 000 экз. Зак. 471.

Рукапісы не вяртаюцца.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск-5, вуліца Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры—33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, камуністычнай маралі, нарысаў, культуры—33-20-53; аддзела мастацкага афармлення—33-20-54; карэктара, машыністкі—33-20-53.

220041, Мінск-41, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

# ХАДА ПАДЗЕЙ

**ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК**

**III ПЛЕНУМ ЦК КПБ**

адбыўся 22 верасня ў Мінску. Пленум заслухаў даклад другога сакратара ЦК КПБ таварыша У. І. Бровікава «Аб мерах па паляпшэнню падбору, расстаноўкі і выхавання кіруючых кадраў калгасаў і саўгасаў рэспублікі ў святле патрабаванняў XXVI з'езда КПСС».

З прамовай на пленуме выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі таварыш Ц. Я. Кісялёў.



**БУДАЎНІЦТВА НОВАГА ЗАВОДА**

буйнапанельнага домабудавання пачалося на ўсходняй ускраіне Брэста. Новае прадпрыемства разлічана на выпуск кватэр для 9—12-павярховых будынкаў палепшанай планіроўкі, якія адпавядаюць усім сучасным патрабаванням горадабудаўніцтва. Яго праектная магутнасць складзе 120 тысяч квадратных метраў жылля ў год.



**ДНІ ФРАНЦЫІ У САВЕЦКІМ САЮЗЕ**

пачаліся сходам прадстаўнікоў грамадскасці Мінска. Сход адкрыў старшыня выканаўчага камітэта Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў Г. С. Таразевіч. Выступаўшыя на вечары прамоўцы адзначалі, што Дні Францыі ў СССР, як і Дні Савецкага Саюза ў Францыі, стануць важным фактарам далейшага ўмацавання дружбы паміж народамі нашых краін, паслужаць справе разрадкі, умацавання міру на зямлі.

Сям'я беларускіх грамадскіх арганізацый, якія падтрымліваюць сяброўскія кантакты з Францыяй, у Дні Францыі ў СССР папоўнілася яшчэ адным аддзяленнем таварыства «СССР — Францыя» — Мінскім гарадскім аддзяленнем.

На ўстаноўчай канферэнцыі было выбрана праўленне аддзялення таварыства. Яго старшынёй выбраны намеснік старшыні гарвыканкома Б. І. Матусевіч.



**З УЗНАГАРОДАЙ!**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР за заслугі ў развіцці савецкага тэатральнага мастацтва і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння ўзнагародзіў артыстку Дзяржаўнага драматычнага тэатра Беларускай ССР імя М. Горкага народную артыстку СССР Клімаву Аляксандру Іванаўну ордэнам Дружбы народаў.

За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння пісьменнік Гілевіч Ніл Сямёнавіч узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.




*УРАДЖАЙ НАШ, УРАДЖАЙ*

## БЕЛАРУСКІ КАРАВАЙ



На высокія рубяжы выйшлі сёлета хлебаробы многіх калгасаў і саўгасаў рэспублікі. Па 31 цэнтнеры на круг намалацілі з кожнага гектара ў Нясвіжскім раёне, амаль па 30 цэнтнераў—у гаспадарках Слуцкага, Капыльскага, Карэліцкага і іншых раёнаў.

Асабліва парадаваў ураджай хлебаробаў калгаса «Семежава» Капыльскага раёна. Яны сабралі па 42 цэнтнеры збожжа з гектара. Больш як 40 цэнтнераў з гектара намалацілі ў калгасе «Аснежыцкі» Пінскага раёна. Важкім коласам аддзячыла ніва руплівую працу хлебаробаў калгаса імя Калініна Нясвіжскага раёна, Мінскага вытворчага аб'яднання па птушкагадоўлі, калгаса «Чырвоны сцяг» Клецкага раёна—тут ураджай склаў па 38—39 цэнтнераў з гектара.

На здымку: перадавы камбайнер калгаса «Семежава» Капыльскага раёна Уладзімір Дзям'янавіч Чыкун, які намалаціў сёлета 439 тон збожжа.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

*ПРАВАФЛАНГОВЫЯ*

## РАДОК У ЛЕТАПІС

Не згледзець вокам—так імкліва круцяцца верацёны. Іх тут, у намотачным цэху Гродзенскага вытворчага прадзільна-ніткачнага аб'яднання імя XXV з'езда КПСС, мноства. За шэсць месяцаў працаўнікі аб'яднання выпусцілі звыш плана паўтара мільёна рублёў прадукцыі. Заданні першага года пяцігодкі выкананы да 64-й гадавіны Вялікага Кастрычніка.

Па-ўдарнаму працуюць у гэтыя дні лепшыя работніцы размотачнага цэха Вольга Крышаловіч, Любоў Манцавода і Людміла Кіслая.



Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

*ЗАЛАТЫЯ ЗОРКІ РЭСПУБЛІКІ*

# НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ



Не часта выпадае вольная хвіліна ў аператара машыннага даення калгаса імя Жданава Брэсцкага раёна Лідзіі Дзмітраўны Брызга, каб вось так, са сваёй сям'ёй, прайсціся ўздоўж вясковай вуліцы. А сёння выпала якраз такая нагода: праводзіць сына на заняткі ў тэхнікум. Вернецца ў вёску спецыялістам. І наогул пашанцавала ёй з дзецьмі: растуць на радасць бацькам і людзям шчырымі і працавітымі.

Нялёгка спалучаць абавязкі маці і працаўніцы. Спраў і клопатаў у жанчыны хапае. Больш як паўсотні кароў даглядае яна. І надоі ў яе групе самыя высокія. Лідзія Дзмітраўна ўдастоена ганаровага звання Героя Сацыялістычнай Працы. Яна дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.

Сёлетні год быў асабліва знамянальны: Лідзіі Дзмітраўне Брызга выпаў высокі гонар прымаць удзел у рабоце XXVI з'езда КПСС, на якім яна абрана членам Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС.

На здымку: Лідзія Дзмітраўна Брызга з дзецьмі.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

*ІМЯ СЛАВУТАЙ ЗЯМЛЯЧКІ*

# ШЧАСЛІВАГА ПЛАВАННЯ




Фота Ю. ЗЕЛКІНА.

Вера Захараўна Харужая... Слаўнае, легендарнае імя, якім ганарыцца ўвесь беларускі народ. Мужная падпольшчыца ў былой Заходняй Беларусі, энтузіястка першых савецкіх пяцігодак, адважная партызанка і кіраўнік патрыятычнай групы ў акупіраваным фашыстамі Віцебску...

Сваім нядоўгім, але яркім жыццём у імя шчасця Радзімы Герой Савецкага Саюза Вера Захараўна Харужая даказала права на неўміручасць, на вечную ўдзячную памяць людскую. Вуліцы многіх гарадоў рэспублікі, школы, піянерскія дружыны і атрады носяць імя нашай слаўнай землячкі. А нядаўна карабелы Ленінградскага ордэнаў Леніна і Кастрычніцкай Рэвалюцыі суднабудаўнічага завода імя А. А. Жданава спусцілі на ваду цеплаход, на борце якога напісана дарагое ўсім нам імя — «Вера Харужая».

Калектыў старэйшай беларускай газеты «Звязда» ўзяў шэфства над экіпажам цеплахода «Вера Харужая». Газета рэгулярна расказвае на сваіх старонках аб жыцці маракоў цеплахода, іх нялёгкіх акіянскіх буднях.

*ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ*

## „ПРАШУ ПАВЫСІЦЬ НОРМУ“

Заява такога зместу паступіла ў прафком мінскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл». Разам з майстрамі змен Л. Савік і Н. Мялешка прапанову аб павышэнні нормы на 15 працэнтаў падпісалі 33 зборшчыцы ўчастка.

Чым кіраваліся работніцы, просячы павысіць нормы выпрацоўкі? Вядома ж, у першую чаргу — каб унесці як мага большы ўклад у ажыццяўленне рашэнняў XXVI з'езда КПСС, сваёй высокапрадукцыйнай працай адказаць на клопаты роднай партыі аб дабрабыце савецкіх людзей.

У аб'яднанні сёння — сотні паслядоўнікаў руху «Прашу павысіць нормы».

## ФАБРЫКА СВІНІНЫ

Нядаўна каля вёскі Матыкалы ў Брэсцкім раёне пачаў дзейнічаць свінагадоўчы комплекс «Заходні». Тут адначасова гадуецца 54 тысячы свіней. Шэсць з палавінай тысяч тон свініны за год — такая будучая магутнасць гэтага міжгаспадарчага гіганта.

Для тых, хто тут працуе, пабудаваны жылы пасёлак. Аператары, слесары, электрыкі, іншыя спецыялісты атрымалі кватэры ў новых шматпавярховых дамах з усімі камунальнымі выгодамі.

Комплекс «Заходні» — сучаснае сельскагаспадарчае прадпрыемства, адно з васемнаццаці аднатыповых у краіне. Дзякуючы прымяненню сучаснай тэхналогіі, высокаму ўзроўню механізацыі сабекошт цэнтнера свініны будзе ў два разы ніжэйшы, а прадукцыйнасць працы ўзрасце ў сем разоў у параўнанні з сярэднеабласнымі паказчыкамі.

## НА БУДОЎЛЮ СТАГОДДЗЯ

Яшчэ адна група юнакоў і дзяўчат Прыдзвінскага краю па камсамольскіх пуцёўках адправілася на БАМ. Жаданне працаваць на гэтай усенароднай будоўлі выказалі дзяжурная па станцыі Віцебск Надзея Зайцава, памочнік майстра станцыі Полацк Тамара Пуставіт, фрэзероўшчык Аршанскага інструментальнага завода Віктар Літвінаў і іншыя.

Новае месца работы пасланцоў камсамола Віцебшчыны — Ургальскае аддзяленне ўсходняга ўчастка Байкала-Амурскай магістралі.

## „НАДЗЕЯ“, „ІЗОЛЬДА“ І ІНШЫЯ

«Надзея», «Ізольда», «Паланіца» — гэтыя і іншыя тканіны з маркай Магілёўскага аб'яднання шаўковых тканін карыстаюцца вялікім попытам у пакупнікоў.

Свой высокі аўтарытэт прадукцыя магілёўскіх тэкстыльшчыкаў яшчэ раз пацвердзіла на міжрэспубліканскім аптовым кірмашы па продажу тканін, які праходзіў у Маскве. Тут былі і магілёўскія тканіны больш як двухсот малюнкаў і расфарбовак.

545 мільёнаў рублёў — такая агульная сума дагавораў на пастаўку прадукцыі тэкстыльшчыкаў Магілёва, заключаных у Маскве з гандлёвымі і швейнымі прадпрыемствамі краіны.

Больш як па 500 адрасах разыходзяцца сёння магілёўскія тканіны, у тым ліку і за мяжу — на Кубу, у Фінляндыю, іншыя краіны.

## ШЛЯХ ДА ЦУДОЎНАГА

Паводле рашэння Брэсцкага аблвыканкома ў Століне адкрылася школа мастацтваў. На двух аддзяленнях — музычным і мастацкім — каля 150 дзяцей рабочых і служачых авалодваюць майстэрствам ігры на розных народных інструментах, вывучаюць тэхніку малюнка, жывапісу, законы мастацкай перспектывы.

Яшчэ адна такая школа крыху раней пачала дзейнічаць у вёсцы Моталь Іванаўскага раёна.

## У ГОСЦІ ДА ПАБРАЦІМАЎ

Цёпла сустракалі жыхары Узлян — цэнтральнай сядзібы калгаса імя Куйбышава Пухавіцкага раёна дарагога госця, які прыехаў да іх з Украіны, Героя Савецкага Саюза Антона Канстанцінавіча Леанцюка. Мужны франтавік — ганаровы грамадзянін гэтай беларускай вёскі.

...37 гадоў назад пры вызваленні тутэйшых мясцін ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў батарэя гвардыі капітана А. Леанцюка, за тры гадзіны адбіўшы шэсць варожых атак, знішчыўшы шмат гітлераўцаў, здолела ўтрымаць важны рубеж. За подзвіг ля Узлян адважнаму артылерысту і было прысвоена высокае званне.

Антон Канстанцінавіч — часты госць у сваіх пабрацімаў. І кожны раз, калі ён прыязджае ў калгас імя Куйбышава, бачыць прыемныя, радасныя змены.

## ЗНАХОДЦЫ — ДЗЕСЯЦЬ СТАГОДДЗЯЎ

Стаянку чалавека эпохі неаліту адкрылі на беразе возера Мядзел студэнты Гродзенскага універсітэта. Крамянёвыя прылады працы, тагачасная кераміка папоўнілі экспазіцыю універсітэцкага музея. Летняя экспедыцыя, якая выявіла старажытныя паселішчы, была незвычайна плённая. На востраве ў цэнтры возера пры раскопках выяўлены вуліцы старажытнага гарадзішча X стагоддзя. Легенда, якую запісалі студэнты, сцвярджае, што яго жыхары назаўсёды пакінулі сваё паселішча пасля эпідэміі халеры і пасяліліся на беразе возера, заснаваўшы новы горад Мядзел, які існуе і дагэтуль. Будучыя археолагі знайшлі тут рэшткі унікальнай па форме вартавой вежы з магутнымі чатырохметровымі сценамі, манеты, разнастайныя рэчы хатняга ўжытку.

## МУЗЕЙ У ЖЫРОВІЧАХ

Жыхарам Слонімшчыны добра вядомы музей атэізму, што ў вёсцы Жыровічы. Яго наведала ўжо шмат тысяч людзей. А нядаўна тут адкрыўся яшчэ адзін музей — баявой і працоўнай славы. Цікавыя і разнастайныя яго экспанаты, прысвечаныя гісторыі вёскі і краю, славутым землякам. Адлюстраваны таксама і сённяшні дзень Жыровічаў, працоўныя здзяйсненні яе жыхароў. Большую частку экспанатаў сабралі навучэнцы мясцовага саўгаса-тэхнікума.



□ Фёдар Аляксандравіч Арманд. Мінск, 1919 год.

# «МІНСК. ГУБВАЕНКОМ. КОПІЯ— ГУБКОМ БАЛЬШАВІКОЎ...»

ГІСТОРЫЯ АДНОЙ



□ У 1909 годзе ў Бруселі яны сфатаграфаваліся на ўспамін разам— Інеса Фёдараўна Арманд і яе дзеці (злева направа) Варвара, Андрэй, Аляксандр, Іна і Фёдар.



□ 38-мы атрад на парадзе 23 лютага 1919 года ў Мінску. У цэнтры ў пілотцы—Фёдар Арманд.



□ Так выглядалі тагачасныя самалёты.



□ Вось такімі яны былі ў Мінску зімой 1919 года—авіятары 38-га атрада.

**Уладзімір МЕХАЎ**

# ТЭЛЕГРАМЫ





## 1.

Імя камісара, вінаватага ў гэтай гісторыі, я называць не буду. Не хочацца мне, каб меркавалі пра чалавека, з жыцця якога ведаю адзіны эпізод, толькі па гэтым не надта прыгожым эпізодзе. А я не цікавіўся, як склаўся ў камісара лёс далей, пасля мая 1919 года. Можа, тое, пра што пойдзе наш расказ, стала яму ўрокам і на астатні век перайначыла. А можа, і астатні век яго быў кароткі — ішла грамадзянская вайна...

Я зазірнуў у тагачасныя газеты. Дыхнула гарачым і трывожным. Мінск прыгнечаны адыходам чырвоных з Вільні, сталіцы новастворанай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Літвы і Беларусі. Фронт набліжаецца да самога Мінска. На газетных старонках аб'явы аб мабілізацыі камуністаў — у «Звяздзе» пасля спіса ў 299 імён папярэджанне: «Ніякіх асобных абвестак і позваў мабілізаваным таварышам пасылацца не будзе. Ніякія адгаворкі аб няведанні пра сваю мабілізацыю не будуць брацца пад увагу, бо кожны камуніст... павінен чытаць сваю газету...» І на газетных старонках — загады аб расстрэлах пагромшчыкаў і мяцежнікаў, паведамленні пра голад, тыф, сабатаж, спекуляцыю, здраду... Пільнасці, цвёрдай рукі, крутых мер патрабавала надзвычайнасць становішча.

Новы камісар заявіўся ў прыгарадную вёсачку Козырава, на выгане якой асталяваўся аэрадром размешчанага ў Мінску 38-га авіяцыйнага атрада, недзе ў канцы сакавіка або на пачатку красавіка. Уяўляю: бывалая скуранка, мандат, што дае вялікія правы, у вачах заклапочанасць — чалавек ведае, што на ім складаная і адказная місія.

Большыя, чым пры іншым прызначэнні, складанасць і адказнасць былі ўжо ў тым, што ў атрад ён прыбыў авіяцыйны. Авіятары ад самага з'ўлення іх прафесіі — вайсковая арыстакратыя. Улюбёнцы, сокалы. У форме армій усіх часоў і краін відаць, як дбалі мадэльеры не толькі, каб была гэтая форма зручнай, а яшчэ — каб сведчыла, як любіць воіна бацькаўшчына. Дык авіятараў паўсюль апраналі асабліва любоўна. Зіхатлівыя крагі, з найлепшых гатункаў скуры курткі, тужуркі, паліто, какетлівыя шапачкі, што назаўжды засталіся пілоткамі, хоць даўно на галовах не адных пілотаў... Рамантычнае і незвычайнае адзенне адпавядала рамантычнасці, таямнічасці, незвычайнасці справы, якой людзі ў гэтым адзенні сябе прысвяцілі.

Праўда, першыя савецкія авіятары, у тым ліку з атрада, куды мы з новым ваенкомам прыйшлі, адметнасцю адзення не вылучаліся. Занадта бедная была маладая рабоча-сялянская дзяржава. У архіве Савецкай Арміі я ўважліва гартаў атрадныя дакументы. Перапісаў сярод загадаў дзевятнаццатага года і такі:

«Мною заўважана, што некаторыя таварышы дазваляюць сабе адмаўляцца ад работы і нарадаў, спасылаючыся на тое, што ў іх няма ботаў або што абутак іх парваны. Сорамна, таварышы! Цяпер, калі краіна перажывае цяжкі крызіс, калі не толькі абутку і адзення — іншы раз хлеба не хапае, вы, хто павінен служыць прыкладам, дазваляеце сабе... яшчэ больш ускладняць становішча рэспублікі...»

Абмінём тут тое, чым абураны быў камандзір,— заўважым адно: з ботамі вунь як было кепска, не мелі ў што, здаралася, абуцца...

Але хоць сокалы з 38-га, як, пэўна ж, з усіх чырвоных авіятрадаў, не маглі па-сакалінаму апранунцца, іх цэхавага форсу гэта не змяншала. У таўшчэзнай канцылярскай кнізе, адкуль узяты прыведзены загад, я наткнуўся яшчэ на некалькі загадаў, што чытаюцца сёння з усмешкай.

На загад, у якім гаворыцца, што ў тэатрах, кінематографах і іншых відовішчных установах садзіцца трэба на месцы, пазначаныя ў білетах. Хлопцы, мусіць, лічылі гэтае правіла не дужа для сябе абавязковым.

На загад, якім строга забаранялася парушаць форму адзення. Відаць, беднасць капцёркі занадта будзіла фантазію атрадных франтаў.

На загад з нагоды таго, што атрадныя аўтамабілі носяцца па вуліцах горада з «неймавернай (так гаворыцца ў загадзе) хуткасцю ходу». Не ведаю, ці былі ў Мінску аўтаінспектары тады, а сучасных, несумненна, усцешыў бы наказ, дадзены ў загадзе зухам-шафёрам: «Развіваць хуткасць не больш як восем вёрст у гадзіну, стрымліваць аўтамабілі на паваротах і падаваць гудкі...»

І вось, як можна меркаваць па дакументах, новаму ваенкому ўсё гэта не спадабалася. Чалавек, відаць, суровы, ён згледзеў у бяскрыўднай браваdзе праявы небяспечнага карпаратыўнага духу. А носьбітамі гэтага духу — былых афіцэраў, што служылі ў атрадзе. Тым больш, што іх было тут нямала...

## 2.

А цяпер станем на месца тых, да каго ваенком пачаў прыглядацца. Прынамсі, на месца лётчыка-назіральніка, які асабліва адчуў яго недавер.

Той лётчык, вядома, разумеў, чым гэта заслужыў. Разумеў, што ўжо самой анкетай не мог не выклікаць цікавасці і насцярожанасці. Што камісару было над чым задумацца, калі знаёміўся з гэтай анкетай. Калі вычытаў, што лётчык — афіцэр, сын патомнага ганаровага грамадзяніна; што вывучку праходзіў у Аляксееўскім агульнавайсковым вучылішчы, дзе з ніжэйшых саслоўяў навучэнцы пракідаліся рэдка, потым — у авіяцыйнай школе ў Гатчыне, куды тым больш трапляла толькі «белая косць», нарэшце ў Англіі — у авіяшколе больш высокага класа; што да рэвалюцыі ён паспеў пакамандаваць ротай; што звальняўся са старога войска, калі яно расфарміроўвалася, паручнікам,— быў перакладчыкам у англійскай місіі пры парк-складзе авіяцыйнай маёмасці ў Маскве. І нават тое, што па нацыянальнасці лётчык — француз і роднымі лічыць французскую і англійскую мовы, нават гэтая акалічнасць здавалася ненармальнай...

Лётчык разумеў, вядома, і іншае. Што непрыязнасцю і насцярожанасцю да сябе расплачваюцца такія, як ён, яшчэ і за выпадкі здрады былых афіцэраў, мабілізаваных у Чырвоную Армію. Тысячы былых афіцэраў сталі адважнымі і самаахвярнымі чырвонымі камандзірамі. Але здаралася — некага з іх выкрылі як саўдзельніка контррэвалюцыйнай змовы, нехта кінуў свой батальён ці полк і перабег да белых — і глядзіш, цень ужо на ўсіх, хто насіў раней афіцэрскія пагоны, усе яны для пільных, накшталт прызначанага ў 38-мы авіятрад ваенкома, патэнцыяльныя змоўшчыкі і перабежчыкі.

Толькі ж высноваа: такі, як ты, стаў здраднікам — значыць, можаш здрадзіць і ты,— выснова гэтая несправядлівая, абразлівая. Наш лётчык быў не апошні у атрадзе асобай і ведаў, канечне, пра дасланы камандзіру зверху пратакол допыту падбітага і ўзятага ў палон варожага авіятара-разведчыка. Я напароўся на пратакол гэты там жа, у архіўнай папцы. Палонны да белых пераляцеў ад чырвоных, а перад тым быў, вядома, афіцэрам. Тут, у трыццаць восьмым атрадзе, таксама быў ужо факт уцёку — і нашаму лётчыку загадана было заняцца маёмасцю, кінутай уцекачом. Але ж наш лётчык ведаў і іншае. Ведаў, што для Масквы збіраліся неяк адпаведныя звесткі, і паводле звестак гэтых у франтавых чырвоных авіятрадах і групах былыя афіцэры складалі васемдзесят працэнтаў лётнага кантынгенту. З кожных пяці лётчыкаў чацвёра былі з афіцэраў, і іншых узяць не было дзе: авіятараў з рабочых і сялян новая ўлада падрыхтаваць яшчэ не паспела. Дык нельга ж трымаць усе гэтыя васемдзесят працэнтаў пад падазрэннем!..

Я ўзнаўляў аблічча лётчыка не па адных архіўных сведчаннях. Пабыў у ягоных сваякоў. У малодшай сястры бачыў альбом фатаграфій, зробленых ім тады, у дзевятнаццатым годзе, пад час службы ў трыццаць восьмым авіятрадзе. Разглядаючы іх, думаў, як яшчэ часам бывае. Выцвітае ў кватэрнай шафе найкаштоўнейшы гістарычны матэрыял. Законы часу бязлітасныя, і праз колькі гадоў не будзе каму растлумачыць, што ў ім да чаго. А мы — літаратары, журналісты, навукоўцы, кінематографісты — не тое, што не паклапаціліся каштоўнасць пераняць, задакументаваць, пазнаёміць з ёю ў публікацыях і на экране,— мы проста пра яе існаванне не ведаем.

Гераічнае і шчымлівае паданне спавядалася мне тымі фатаграфіямі. Вось на вуліцы, абрысы якой я адразу пазнаў,— маё маленства застала іх такімі ж,— наш лётчык і яго таварышы ў парадной калоне: Мінск святкуе першую гадавіну Чырвонай Арміі. Вось самалёцік, на сённяшняе ўспрыманне ніякаваты, як цацачны, а тады ледзь не самае ў нашым войску грознае ўзбраенне,— адзін з пяці ці шасці «фарманаў», што ўвесь паветраны парк атрада і складалі. Вось такі самы — а можа і гэты ж! — абяскрылены, скурожаны ў аварыі. Вось яшчэ адзін пасля аварыі. Яшчэ. Яшчэ... Вось людзі-агаркі, ахвяры ці то аварыі, ці то паветранага бою. Вось апускаецца ў магілу труна. Вось зноў пахаванне, мітынг...

Абразкі, у якіх ні прыхарошвання, ні прыстрашвання. Сведчыцца праўда, нічога апроч праўды. Аўтар здымкаў і ўсе, хто побач з ім, паўстаюць з пажоўклых фатаграфій чыстымі, сумленнымі, мужнымі...

Ваенком не мог не бачыць гэтую праўду атраднага жыцця. Але зразумелая, апраўданая пільнасць перарасла ў яго ў хваравітую падазронасць.

У архіўных дакументах захаваўся рапарт нашага лётчыка аб сутычцы з новым ваенкомам. Лётчыку загадана было ляцець у баявое аддзяленне. Пры ім было належным чынам афармленае прадпісанне. Але ваенком, пазнаёміўшыся з прадпісаннем, раптам выказаў сумненне, ці сапраўдны пад ім подпіс, ці не фальшывая яму пададзена папера. Няцяжка ўявіць, як абражаны быў лётчык і што ў яго было на душы, калі дакладваў ён аб здарэнні камандзіру атрада.

Ды тым часам адбыўся выпадак, які даўжэй напал страсцей да тэмпературы яшчэ вышэйшай. Ужо крытычнай, нясцерпнай...

Атрад знаходзіўся ў Мінску са снежня васемнаццатага. Мы з вамі ў ім, як ужо сказана,— у красавіку і маі дзевятнаццатага. Праз паўгода. І ўсе гэтыя паўгода атрад падоўгу паралізаваны быў адсутнасцю гаручага. З бензінам было вельмі цяжка. Калі падпісваўся дэкрэт аб авіяцыі, прадугледжвалася, што будзе ў Чырвонай Арміі 36 авіяцыйных груп і 88 атрадаў. Але неўзабаве давялося скараціць колькасць атрадаў да 61: не хапала самалётаў, лётчыкаў, гаручага. На аўтамабілі станавіліся газагенератары, самалёты запраўляліся сумесямі-замяннікамі.

Адну такую новую сумесь, атрыманую атрадам, камандзір вырашыў апрабаваць сам. Думаю, кіраваўся ён тымі ж меркаваннямі, што і медык-вучоны, які вынайдзены лекавы прэпарат выпрабоўвае найперш на сабе. З новай сумессю ні пілоты, ні механікі яшчэ не мелі справы. Як на яе рэагуе матор? Ці не павялічваецца пагроза непрыемнай нечаканасці ў паветры? Не выключаўся элемент рызыкі, і, відаць, таму камандзір палічыў, што высветліць усё павінен асабіста. Калі я быў у сястры нашага лётчыка, яна прыгадала, што брат гаварыў пра свайго мінскага камандзіра як пра чалавека высокіх маральных прынцыпаў.

Ваенком забараніў камандзіру палёт, паставіў каля самалёта вартавога. Заявіў, што не можа паручыцца за былога прапаршчыка, хоць ён і камандзір атрада. Што не ўпэўнены, ці не задуманы пералёт да белых. Адзін жа пералёт да белых у атрадзе ўжо быў! А рэспубліка занадта бедная на авіяцыйную тэхніку, каб на ўцёкі такія не зважаць. Рэспубліка не можа дапусціць да самалёта чалавека, за якога камісару цяжка паручыцца...

...Я сяджу ў чытальнай зале архіва. Цішыню вакол парушае хіба шамаценне паперы. Але я чытаю тэлеграму, пасланую нашым лётчыкам у дзень, калі выпадак адбыўся, і я чую, як у яго ў грудзях клякоча крыўда:

**«Масква, Старшыні Саўнаркома Леніну.**

**Я, Фёдар Аляксандравіч Арманд, ад сябе і ад усяго каманднага складу 38-га авіяцыйнага атрада звяртаюся да Вас з просьбай аб абароне. Нас нямнога, усяго пяцёра, і ўсе нашы сілы, усё наша ўменне мы прыкладаем да таго, каб як мага вышэй узняць сцяг Чырвонай Арміі. Але мы былыя афіцэры, мы не камуністы, і таму ўсе вакол нас, пачынаючы ад камісара... бачаць у нас толькі ворагаў, гатовых кожную хвіліну здрадзіць і скіраваць свае сілы супраць рэспублікі. Кропка. Мы не можам працаваць, калі кожны крок, кожнае слова вытлумачваюцца крыва і зласліва. Кропка. Даволі. Або дайце нам магчымасць працаваць, абоганіце нас прэч як ворагаў. Кропка. Лётчык-назіральнік 38-га авіяатрада Фёдар Аляксандравіч Арманд»** *.

Дата пад тэлеграмай — 1 мая 1919 года. У горадзе трывожна, на сэрцы ў лётчыка нядобра. Але дзень стаіць усё-такі святочны, на вуліцах палымнее чырвань, Першамай застаецца Першамаем...

## 3.

Ну вось вы і зразумелі, чаму мяне ўсё гэта зацікавіла. Вядома — Ленін, вядома — Мінск, і вядома — Фёдар Арманд, імя ў пададзенай тэлеграме. Як вы здагадаліся, сын жанчыны з самых легендарных, самых прывабных у гісторыі нашай рэвалюцыі — Інесы Фёдараўны Арманд.

Нагадаю пра таварыша Інесу, як звалі яе ў партыі. Дачка французскіх акцёраў, Лізавета Стэфен дзяўчом-сіратой апынулася ў Расіі, стала тут жонкай багатага маскоўскага фабрыканта, абруселага француза Аляксандра Арманда. Маючы пяцёра дзяцей, парвала з асяроддзем, да якога сацыяльным становішчам мужа была далучана, выбрала жыццё прафесійнай рэвалюцыянеркі, стала турботным для ахранкі функцыянерам бальшавікоў, прайшла праз турмы, ссылкі, эміграцыю.

Ленін з самага пачатку іх знаёмства — яно адбылося ў Парыжы ў 1909 годзе — з павагай ставіўся да гэтай яркай, бліскучай натуры. Чытаеш, як піша ён Інесе Фёдараўне — ленінскіх пісем да Арманд апублікавана больш за сто,— і бачыш зацікаўлена прыжмураныя вочы Уладзіміра Ільіча, а ў іх зычлівасць, чуйнасць, гумарок: і ў жарце, і ў гневе, і ў клопаце яны з Арманд былі аднадумцы.

Ленін цаніў яе як таварыша па партыі. Мала каму ён такое пісаў: «Апроч цябе, нікога няма. Таму прашу, з усіх сіл прашу згадзіцца...», «Я табе вельмі і вельмі ўдзячны за тваю работу, гэтак непрыемную і гэтак умелую...», «Ты лепш зрабіла справу, чым гэта мог зрабіць бы я...»

Леніну падабалася ў яе характары і чыста жаночая сіла. Перад так званай «аб'яднаўчай» канферэнцыяй у Бруселі ён папярэджвае Інесу Фёдараўну: «Пляханаў любіць бянтэжыць таварышак, гаворачы ім «раптам» галантнасці (па-французску і да т. п.)... Але я ўпэўнены, што ты пакажаш свае «кіпцікі» найлепшым чынам. Загадзя прыходжу ў захапленне пры думцы, як яны нарвуцца публічна, сустрэўшы халодны, спакойны і крыху пагардлівы адпор...»

Ленін шануе не мацярынскія пачуцці, ніколі не забываецца, як шмат гэта ў жыцці Інесы Фёдараўны — дзеці. У найдзелавых, найтаропкіх радках з архіважнымі даручэннямі і наказамі не, не дый прамільгне: «Надзвычай рады, што да цябе едуць дзеці і што ты з імі хутка рушыш на лета...», «Калі ёсць найменшая магчымасць уладкаваць дзяцей...», «Я паслаў твайму сыну 150 фр. Мусіць, гэта вельмі мала. Калі ласка, дай мне знаць неадкладна, наколькі болей ты выдаткавала...», «Надзя расказала мне, што дзеці клічуць Вас у Швецыю...»

Захавалася фота — Інеса Фёдараўна з усімі пяццю. На той час не так ужо малымі: старэйшаму, Сашу,— пятнаццаць, малодшаму, Андрэйку,— шэсць. Нашаму зваму, Фёдару Аляксандравічу,— тады, вядома, Федзю — трынаццаць. «Дарослы» касцюм, камізэлька, гальштук-банцік. І па-даросламу сур'ёзныя вочы на тонкім, выразным твары. Вельмі падобным, дарэчы, на матчын.

Не ведаю, ці даводзілася Леніну бачыць Фёдара Арманда да падзей, пра якія расказваецца,— падлетка ці ўжо сталага, за мяжой ці ў Расіі. Але што бачыў ён гэтую картку — упэўнены. Не магла Інеса Фёдараўна пры блізкасці яе да сям'і Ульянавых не прынесці ім фота і не пахваліцца — вось якая, маўляў, у мяне слаўная дзятва! Разумеў гэта, вядома, і Фёдар Аляксандравіч. І, думаю, яму не захацелася паўставаць у памяці Уладзіміра Ільіча хлопчыкам з некалі бачанай фотакарткі — Федзечкам Інесы Арманд. Таму, мусіць, і не спаслаўся на сваё да яе дачыненне — пераняў ад маці не толькі рысы твару, а і незалежнасць натуры.

## 4.

А дзень стаяў усё-такі святочны — на вуліцах палымнела чырвань Першамая.

Леніну на гэты дзень дзевятнаццатага года давялося аж тройчы выступаць на Краснай плошчы. «Пасля прывітання маскоўскаму і сусветнаму пралетарыяту таварыш Ленін праводзіць паралель паміж леташнімі першамайскімі святамі і сёлетнімі,— гаворыцца ў газетным паведамленні.— За гэты год палітычнае становішча значна змянілася на карысць Савецкай улады...»

Так, змянілася. Але ж Ленін, як ніхто, ведаў, наколькі было яшчэ цяжка Савецкай уладзе. У ленінскай «Біяграфічнай хроніцы», на старонках якой памесячна, патыднёва, падзённа, а ў некаторыя гады і пагадзінна летапісана дзейнасць Уладзіміра Ільіча, я пацікавіўся, што яшчэ за тэлеграмы і тэлефанаграмы ляглі на стол Старшыні Саўнаркома блізка з тэлеграмай Арманда. Маленечкі штрых, а ў атмасферу часу ўводзіць... Тэлеграмай з Петраграда прасілі прыняць тэрміновыя захады па дасылцы ў горад фуражу. Яшчэ адной з Петраграда паведамлялі аб укамплектаванні двух бронецягнікоў—Ленін павінен быў адказаць, ці згодны з меркаваннем, каму іх накіроўваць. З Казані вінаваціліся, што загадзя не адвялі і ў выніку пакінулі белым у Чыстапалі некалькі параходаў, гружаных збожжам, мазутам і газай. З наркамата харчавання паведамлялі аб адпраўцы дзесяці вагонаў са збожжам у Бранск — паводле ленінскага ж на гэты конт указання. Прасілі аб дапамозе чырвонаармейскім сем'ям. Прасілі аб памілаванні асуджаных да вышэйшай меры...

Сярод гэтых тэлеграм — і Армандава... У цішыні архіўнай залы ўглядваюся ў бланк з тэлеграфнымі палоскамі. Яшчэ раз учытваюся ў словы, якія клякочуць крыўдай. Што адчуваю, няцяжка ўявіць: гэтага бланка краналіся калісь рукі Леніна, па гэтых папяровых палосках, па гэтых балючых словах уважліва прабягалі калісь вочы Леніна!..

Паставім тэлеграму, што называецца, у акалічнасці моманту.

З вяршыні ленінскага кабінета, з вяршыні ленінскага разумення таго, што ў краіне адбывалася, у ёй чыталася больш, чым Армандам было напісана. Да Леніна неаднойчы ўжо з гэтым звярталіся, ён не раз пра гэта чуў пры дакладах — што былых афіцэраў, ваенспяцоў у Чырвонай Арміі нярэдка чужаюцца. Яго адказы задавальнялі, мабыць, не ўсіх, не заўсёды, не да канца. Бо заклікаў Уладзімір Ільіч не забывацца пра першапрычыну з'явы — стагоддзі зняважлівых, грэблівых адносін афіцэрства да ніжніх чыноў — стагоддзі кпін, зубакрышэння, шомпалаў. Бо настойліва раіў тым, хто не мог на гэта не зважаць, быць вышэй за хвіліны крыўды, не даваць ім засціць святла.

Арманд тэлеграфаваў з Мінска. Ленін ведаў трывожнасць і няпэўнасць сітуацыі, а значыць і настрою ў горадзе. Таму якая ні гучыць у армандаўскіх радках усхваляванасць, гранічная нервовая напятасць, напісанае з нагоды гэтых радкоў Леніным — ён у нас уперадзе, ленінскі адказ,—інтэлігентнае, стрыманае, некатэгарычнае. (Ці трэба нагадваць, якім катэгарычным Ленін бываў, калі лічыў, што быць такім неабходна!). Ленін бачыць і таго, хто звяртаецца,— Ленін бачыць і тых, чыімі дзеяннямі зварот гэты выкліканы. Леніну ясна, што зацятасць новапрызначанага ў 38-мы авіяатрад камісара, ягоная, карыстаючыся лексікай нашых дзён, запраграмараванасць падазраваць усіх і ўсё — яны найперш ад складанасці абставін, ад напружанасці і разгубленасці, таксама ад напятасці нерваў.

Леніну шмат што гаворыць гэтае імя — Фёдар Арманд. Ленін не сумняваецца ў шчырасці, аддинасці, сумленнасці сына Інесы Фёдараўны і, безумоўна, яму спагадае. У Леніна ў думках, канечне, і сама Інеса Фёдараўна, тое, як будзе яна засмучана, даведаўшыся пра Фёдарава тэлеграму, пра непрыемнасці, якія даводзіцца сыну трываць. Добра яшчэ, што Інесы няма на гэты момант у Маскве — тры месяцы назад камандзіравана ў Францыю. Разам з двума таварышамі займаецца там лёсам салдат колішняга экспедыцыйнага корпуса. У Францыі, а таксама на Балканах і ў Афрыцы — шэсцьдзесят тысяч расійскіх мужыкоў, пасланых калісь царом Мікалаем на дапамогу французскім саюзнікам. Мужыкоў у салдацкіх шынялях, што ніяк не могуць вярнуцца дахаты, хоць даўно ўжо — ні мікалаеўскай вайны, ні самога Мікалая. Ленін уважліва сочыць за работай камандзіраваных таварышаў, ведае — Інеса зноў паказала, як трэба даручэнне партыі выконваць. А тут... Нядобрае, прыкрае непаразуменне...

І ўсё-такі Ленін нікога не «распякае», не вінаваціць у галавацяпстве. Мусіць, Армандава тэлеграма была ў яго перад вачамі. Мусіць, перш чым пісаць, Уладзімір Ільіч яшчэ раз кінуў на яе позірк.

* Прыведзеныя ў нарысе тэлеграмы Ф. Арманда, В. Кнорына і М. Крывашэіна захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве.

Мусіць, перачытаў словы: «...Але мы былыя афіцэры, мы не камуністы...» — і рука пайшла, пабегла па аркушыку паперы.

Ленін тэлеграфуе ў Мінск.

Не загадвае, не патрабуе — просіць.

Вось яно, тады ім напісанае, паводле «Біяграфічнай хронікі», 3 мая 1919 года пасля 10 гадзін 50 мінут раніцы:

**«Мінск. Губваенком. Копія — губком бальшавікоў.**

**Лётчык-назіральнік 38 авіяатрада Фёдар Аляксандравіч Арманд асабіста мне вядомы, заслугоўвае даверу, хоць ён былы афіцэр і не камуніст. Прашу таварышаў чырвонаармейцаў і камісараў не падазраваць яго. Тэлеграфуйце аб перадачы гэтай маёй тэлеграмы ў адпаведную воінскую часць. Старшыня Савета абароны Ленін».**

Арыгінал тэлеграмы з напісанымі чырвоным чарнілам імклівымі ленінскімі радкамі — там, дзе і тысячы запаветных для нас ленінскіх рукапісаў — у Маскве, у Цэнтральным партыйным архіве Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС.

## 5.

З цяжкасцю веру ў рэальнасць таго, што адбываецца: я гутару з Варварай Аляксандраўнай Арманд.

З той самай Варачкай, малодшай дачкой Інесы Фёдараўны, якая на згаданай ужо намі фотакартцы — васьмігадовае дзяўчо. У яе, таксама сур'ёзны, як у брата, тварык — надта ж урачысты момант!..

З той самай Варачкай, пра якую гэтак цёпла пісала Надзея Канстанцінаўна: «Памятаю, як Інеса прыйшла да нас аднойчы з малодшай дачкой, Варай, зусім маладой тады дзяўчынай, якая потым стала адданым членам партыі. І Ільіч пры іх, як я па-даўнейшаму гаварыла, «палкі разводзіў»; памятаю я, як паблісквалі вочы ў Варачкі...»

З той самай Варай Арманд, якой — так атрымліваецца — савецкая культура абавязана важным для свайго станаўлення эпізодам. Сёння ён у дысертацыях і манаграфіях, у паэтычных строфах і на жывапісных палотнах — прыезд Уладзіміра Ільіча да студэнтаў-вхутэмасаўцаў, размова з імі пра дарогі, якімі ісці сацыялістычнаму мастацтву. Ды радзей успамінаецца, што гэта да яе, Варвары Аляксандраўны,— пабачыць, як ёй у студэнцкім інтэрнаце жывецца,— прыехалі позна ўвечары 25 лютага 1921 года Уладзімір Ільіч і Надзея Канстанцінаўна.

Яна пытаецца, п'ю я каву або чай, а ў мяне адчуванне — даруйце, Варвара Аляксандраўна! — як такое будзённае пытанне пачуў бы ад рабфакаўкі з іагансонаўскай карціны або з экрана ад Ганкі-кулямётчыцы. Быццам госць я ў легенды. Быццам зрушыўся час.

Зрэшты, яна чалавек з легенды і ёсць — немаладая ўжо жанчына з маладымі вачамі Інесы Арманд і ўсіх яе дзяцей. Аднак легенда тое для мяне, для вас, для мільёнаў людзей на зямлі — падобна ёю ў жыцці. Для яе ж самой — адно ўспамін пра няблізкую ўжо маладосць. Цудоўную, як кожная маладосць, але нічым — так яна мяркуе — не адметную. Такую ж, як у многіх з пакалення: не надта каб уежную, не надта цёплую, не надта бяспечную, але бурлівую, дзёрзкую, з яснай мэтай,— і тым шчаслівую... Хіба вось толькі ўвага Леніна і Крупскай пасля таго, як у дваццатым не стала Інесы Фёдараўны,— гэта, мабыць, сапраўды ёй выпала зайздроснае. І ёй, і сястры, і братам...

Я распытваю пра гэтую ўвагу яшчэ і яшчэ. Распытваю, хоць ледзь не на памяць ведаю, дзе і з якой нагоды яны Леніным у пісьмах, тэлеграмах і шыфроўках упамінаюцца—Аляксандр, Фёдар, Іна, Варвара і Андрэй Арманды. Ведаю настойлівыя Ільічовы напамінкі Рыгору Канстанцінавічу Арджанікідзе — пры размове ў Маскве, потым пісьмова, потым пры перагаворах прамым провадам,— каб Сярго, які быў тады членам рэўваенсавета Каўказскага фронту, асабіста падбаў аб уладкаванні Інесы Фёдараўны з хворым Андрэем у Кіславодску, калі іх выправілі туды ўрачы. Ведаю, якой горкай была для Леніна і Крупскай вестка аб раптоўнай смерці Інесы ад халеры ў Нальчыку — вяртацца з Кіславодска давялося праз раёны, ахопленыя эпідэміяй,— і як Надзея Канстанцінаўна адразу ж паклікала яе дачок да сябе (сыноў не было на тую часіну ў Маскве). Ведаю, як непакоіўся Ленін, калі Сашу і Вару запрасілі на работу ў Тэгеран,— Фёдару Аронавічу Ратштэйну, савецкаму паўпрэду ў Персіі, раз за разам пісаў: «Надзвычай быў бы Вам абавязаны, калі б Вы на іх звярнулі ўвагу і памаглі ім усяляк...», «Пісаў Вам пра Аляксандра Аляксандравіча і Варвару Аляксандраўну Арманд... пра якіх я вельмі клапачуся...», «Прашу Вас паклапаціцца пра Вару Арманд...». Нарэшце, ведаю самае тут, мабыць, важнае — што ні сама Інеса Фёдараўна, ні дзеці ленінскай увагі не дамагаліся. Хутчэй наадварот — не хацелі, сароміліся пра сябе напамінаць. Але ж гэта Уладзімір Ільіч — зноў і зноў патрабаваў: званіце, пішыце, не прымушайце вас шукаць...

Усе гэтыя факты я ведаю, і тым не менш настойліва распытваю Варвару Аляксандраўну. Яна расказвае скупавата — гаварыць жа трэба і пра сябе! — і ўсё-такі, прыйшоўшы ў гасцініцу, я тое-сёе занатоўваю. Напрыклад, не чутую раней дэталь, як Ленін і Крупская, дазнаўшыся, што Саша і Вара збіраюцца ў Тэгеран, затрывожыліся, ці не захварэюць яны там на малярыю,— яна была тады ў Закаўказзі нярэдкая. Перагаварылі нават з легендарным Камо — ці дужа гэтая пагроза моцная? Каўказец Камо, чалавек непахісна спакойны, пацісну плячамі: чаму абавязкова хварэць? Хінін жа яны возьмуць!.. Словам, трошкі супакоіў...

Аднак найперш мяне цікавіць, вядома, Фёдар Аляксандравіч. Дзеля яго я ў Маскве, дзеля яго ў Варвары Аляксандраўны. Той альбом з фатаграфіямі, пра які я расказваў вышэй, які разглядаў, а правільней, чытаў як споведзь, мне паказала Варвара Аляксандраўна. Углядаўся ў франтаватага, недаткліва-незалежнага выглядам маладога авіятара (англійская пілотка — піжоніста набакір, рамяні зацягнуты — так і чую, як парыпваюць!) — і бачыў у рысах твару прыкметы валявога, мужнага, незачэпна-гарачага характару.

Варвара Аляксандраўна згаджаецца, што такі ён, мабыць, і быў, Фёдар Аляксандравіч. Менавіта «згаджаецца» і менавіта «мабыць».

— Самі разумееце, у шаснаццаць — васемнаццаць гадоў мне было не да брата. Тым больш у час, калі ўсё гэта адбывалася... Дый бачыць яго даводзілася тады рэдка — ваяваў...

Наваяваўся Фёдар Арманд, вядома, удосталь. Як пайшоў у чатырнаццатым з апошняга курса тэхнічнага вучылішча вальнапісаным у царскае яшчэ войска, то звольніўся ў цывільныя аж праз трынаццаць гадоў. Пасля чатырох раненняў і кантузіі. Пры яго натуры і пры тагачасных машынах, можна сказаць, пашанцавала. У блакноце ў мяне — сямейнае паданне Армандаў. Пасля Мінска, ужо ў Талачыне (атрад стаяў там некалькі месяцаў) пры заходзе на пасадку разваліўся на часткі самалёт, у якім пілотам быў Фёдараў дружбак, а лётчыкам-назіральнікам сам Фёдар. Дружбака назаўтра пахавалі, а Фёдару пашчасціла — абышоўся драпінамі: пры падзенні неяк удала ўпёрся нагамі ў бак з гаручым... Занатавана і пазнейшае, маскоўскае. Як брат прывёз Варвару Аляксандраўну на аэрадром, пакружыць яе ў паветры — яна яшчэ ніводнага разу не лятала. Ажно сюрпрыз: самалёта, на які разлічваў Фёдар, няма на месцы, хтосьці паспеў на ім узняцца. Засталіся чакаць, пакуль спусціцца. Самалёт жа той так і не спусціўся — на вышыні выйшаў са строю матор...

— А наколькі самалёцікі тыя былі безабаронныя!.. Таварышы Фёдара расказвалі: тады, у Беларусі, яны перад вылетам падкладвалі пад месцы, чым сядзяць, звычайныя патэльні — на выпадак, калі знізу пачнуць страляць...

Да чаго ж у яе ўсё-такі — паўтаруся — маладыя, гарэзныя вочы, у васьмідзесяцігадовай Варвары Аляксандраўны Арманд!..

## 6.

Ленінская тэлеграма ў Мінск адрасавана была губернскаму ваенкому і губернскаму камітэту бальшавікоў.

Двума адрасамі гаварылася: тое, што адбываецца ў трыццаць восьмым авіяатрадзе,— клопат і вайсковы, і партыйны.

Адпаведна, з двух адрасоў прыйшлі і адказы.

З адраса партыйнага:

**«Масква, Крэмль, таварышу Леніну. На 483. Выканана па змесце вашай тэлеграмы губваенкомам. Ад Цэка Літбел Кнорын».**

І з адраса вайсковага:

**«Тэрмінова Маскву. Старшыні Савета абароны Леніну. На 483. Арманд быў арыштаваны камісарам Заходняй дывізіі коска падставе вашай тэлеграмы вызвалены пятага гэтага мая. Мінскгубваенком Крывашэін».**

Вільгельм Георгіевіч Кнорын і Мікалай Іванавіч Крывашэін... Імёны абодвух мы вымаўляем сёння з пашанай — вельмі ж прыкметныя яны на вогненнай панараме нараджэння новай Беларусі.

А ў трыццаць восьмым атрадзе, значыць, страсці не апалі. Дайшло вунь аж да арышту...

Я не натрапіў на дакумент аб непасрэднай прычыне арышту Фёдара Аляксандравіча — ці то прычынаю была новая сутычка з ваенкомам атрада, ці, так сказаць, сукупнасць грахоў ранейшых. Не ведаю таксама, арыштаваны ён быў адзін ці з ім яшчэ хто з лётчыкаў, былых афіцэраў. Аднак архіўных сведчанняў даволі, каб пераканацца ў галоўным — у выніках тэлеграмы Леніна. Што пры напружанай агульнай атмасферы,— адступленне наша працягвалася, і пасля Вільні мы неўзабаве мусім пакінуць Мінск, дый увогуле кепска і хмарна было ў краіне паўсюль,— пры ўсім гэтым маральны клімат тут, у 38-м, безумоўна ж, адразу палепшыўся.

Авіяцыйную часць з яе грувасткай гаспадаркай пры набліжэнні фронту адводзіць трэба было, натуральна, як мага раней.

Дата апошніх загадаў па атрадзе, пазначаных Мінскам,— 4 мая.

5 мая — гэта значыць, у дзень, калі Арманд, паводле паведамлення ў Маскву, быў вызвалены з-пад варты, атрад стаяў у Барысаве.

6-га і 7-га — у Крупках.

З 8-га — у Талачыне. І тут ужо надоўга.

Загадам, аддадзеным 11 мая пры адлучцы ў Смаленск, ва ўпраўленне начальніка авіяцыі арміі, камандзір атрада пакінуў заместа сябе лётчыка-назіральніка Арманда. Доказ куды як важкі, што з нядаўнім недаверам было скончана.

Якая ні была тэлеграма Леніна памяркоўная — ні ацэнкі таго, аб чым Арманд давёў да ведама, ні патрабавання пакараць вінаватага,— ясна, што камісару пасля ўсяго заставацца ў атрадзе не выпадала. Па службовай неадпаведнасці ён быў неўзабаве ад пасады вызвалены.

А Фёдару Аляксандравічу з атрадам быць і ў радасці і ў смутку яшчэ доўга. У афіцыйных характарыстыках пачуцці не выказваюцца, але яны, канечне ж, адчуваюцца, калі камандзір, атэстуючы Арманда, піша, што ён «ускладзеныя абавязкі выконвае дакладна і акуратна, самастойны і рашучы, маральныя якасці мае добрыя, карыстаецца дастатковым аўтарытэтам сярод таварышаў па службе і падначаленых, безумоўна адпавядае займаемай пасадзе...»

Была потым у чырвонага лётчыка-назіральніка Фёдара Арманда — так тады прынята было гэтую вайсковую прафесію называць — Гомельшчына, была Украіна, было змаганне супраць антонаўскіх банд на Тамбоўшчыне. За мужнасць, якую выявіў пры разведвальных палётах над воўчымі логавамі ўзнятага эсэрам Антонавым кулачча, узнагароджаны быў іменным сярэбраным гадзіннікам. У дваццаць сёмым па стане здароўя звольніўся ў запас, пайшоў працаваць у таварыства садзейнічання авіяцыі. У трыццаць шостым смяротна захварэў...

Тое, што з ім здарылася ў Мінску і ў што тактоўна, але неадкладна ўмяшаўся Ленін,— гэтай ленінскай неабыякавасцю нам сёння і цікавае. Напісанае адносна Фёдара Арманда: «Прашу таварышаў чырвонаармейцаў і камісараў не падазраваць яго...»,— як і напісанае адносна двух іншых Армандаў, дакладней, адносна ўсіх дзяцей Інесы Фёдараўны: «...пра якіх я вельмі клапачуся...»,— гучыць сёння і заўжды будзе гучаць ленінскім урокам.

Урокам Леніна — друга, Леніна — чалавека.



Аляксей ЗАРЫЦКІ

## Шушанскія кветкі

Аб кветках у сёлах глухіх краснаярскіх
Сяляне й гаворкі калісь не вялі.
І толькі на хустках стракатых і яркіх,
Дзявочых і бабскіх яны і цвілі.

І ў Шушанскім першыя свойскія кветкі
Ільіч і Надзея садзілі ў двары.
Даваліся дзіву суседзі й суседкі,
Здзіўляліся шчыра гаспадары.

Па Шушанскім крочу.
Як горача рдзее
Ў гародчыках мальва,
Разгарысты мак!
Напэўна, цвітуць яны хораша так,
Бо іх пасадзілі Ільіч і Надзея.

## Зычны розгалас

Я некалі чуў, як славуты паэт,—
Расказчык на рэдкасць ён быў адмысловы,—
Расказваў, як мусіў падлеткам чуць свет
На пашу ганяць каровы.

На золку сцюдзёная надта раса,
Няма куды босаму хлопчыку дзецца,
Па выгане з пугай падшпарак гайсаў,
Каб трохі яму разагрэцца.

А ногі заходзяцца,
Ногі, як лёд,
І дрыжыкі ён прадаваў не патроху.
Калі ж працінала яго навылёт,
То ў цёплую ён станавіўся ляпёху.

Ды золкасцю золак ізноў прабіраў.
Тады, каб і стыласць прагнаць і маркоту,
Падпасак трубу берасцяную браў,
На поўныя грудзі трубіў у ахвоту.

Трубіў, забываючы золь і тугу.
Трубіў і ў лагчыне,
Трубіў і з узвышша.
Пявуча зычыць —
Ту-ру-гу...
Ту-ру-гу...
Глядзіш, пацяплела,
І сонца ўжо вышай.

А можа, і я з часам гэтак зраблю!
Калі ўжо наваляцца зябкасць і скруха,
Вазьму, быццам той пастушок, затрублю,
Каб розгалас зычны пачула акруга.

У тышчу радкоў затрублю —
Ту-ру-гу...
І буду трубіць я, пакуль не развею
Настырную золкую тую тугу,
Пакуль я жывую душу не сагрэю.

## Яшчэ наперадзе

Віруе душа — не тупее стыло.
Узрост не кардон для натуры крылатай.
За семдзесят год Льву Талстому было,
Калі ўрэшце скончыў ён Хаджы Мурата.

І Гётэ нябёсы й зямлю варушыў,
Аддаўшы рабоце гады даастатку.
Ён Фаўста, найлепшы свой твор, завяршыў
На ўзлёце крутым,—
На дзевятым дзесятку.

Гамер бессмяротны сталеў пакрысе:
Пачаў стогадовым, паводле падання,
Співаць ён аб тым, як прыплыў Адысей
Па хвалях ліхіх к Пенелопе адданай.

Мне семдзесят толькі праз тыдзень міне,
Наперадзе, значыць, усё у мяне.

## Калышацца песня

Памяці Яўгена Халецкага

Любіў я, бывала, яшчэ юнаком,
Ля тых некрутых берагоў прыкархнуць,
Дзе з шыракагрудым задумным Дняпром
Сустрэчу святкуе таропкая Друць.

Дзяўчаты яе пераходзілі ўброд,
З лугоў прыбярэжных дамоў ідучы.
І песні спявалі.
Каторы ўжо год
У памяці гэты напеў гучыць.

Здаецца і сёння —
Дзяўчаты ідуць,
На стройных нагах залаціцца загар,
Калышацца песня ды зыбіцца Друць,
У мроіве лёгкім і дрогкім абшар.

Ці зноў я гасцюю ў чужой старане,
Ці ветру дняпроўскага чую павеў —
З гадамі часцей гэта песня ўва мне
То ўголас гучыць,
То як дальні адпеў.

## Верныя сведкі

Такое пяшчотнае неба над полем,
Такім тхне спакоем ад млявай ракі,
Такая стаіць цішыня перад боем,
Так міла і мірна цвітуць васількі.

Але неспакойна байцу маладому,
Задуманы ён,
Устрывожаны ён:
Пісьмо кагадзе напісаў ён дадому,
Уклаў у пісьмо васілёк і рамон...

Панікла жанчына ссівелая, змоўкла,
Буйнеюць слязіны на зморшчыных шчок.
Пісьмо перад ёю...
Паблякла, пажоўкла...
Яно — як прывялы асенні лісток.

Гады ападаюць, бы ягады з гронак
Рабіны ў прыціхлым зімовым ляску.
Як ссохліся ўжо васілёк і рамонак
На гэтым памерклым салдацкім лістку.

Бацькоўскай трывогі і любасці сведкі,
Вы — матчына ўцеха, яе неспакой,
Здаля перад боем пасланыя кветкі,
Сарваныя калісь сыноўняй рукой.

□ □ □

Гляджу, як Млечны Шлях паволі тоне
У апраметнай цьмянай глыбіні.
Як горне гэта зорнае бяздонне.
Яшчэ, душа, ў бязмежжа зазірні.

Яно так горне, быццам просіць зліцца
На векі вечныя да кроплі з ім.
Душа ж не хоча й кропляй паступіцца:
Яго ў сябе ўліць прагне назусім.

## Вучыцелька Насця

Расказвала маці-нябожчыца мне,—
Не голас я чую, а ўжо адгалоссе,—
Як у прыдняпроўскім сяле Лучыне
Настаўнічаць ёй да замужжа прыйшлося.

Чужое сяло, і калі маркаты
Халодныя рукі ёй грудзі сціскалі,
На бераг спяшала яна,
На круты,
Зірнуць на зарэчныя ўцешныя далі...

І вось я іду Лучыном і ў старых
Пытаю й пытаю...
А можа пашчасціць
І сёння яшчэ помніць хто-небудзь з іх
Вучыцельку юную Насцю!

Але абляцелага калісь лісця
Даносіцца шолах заслаба, заглуха.
Была ды сплыла даўніна.
Забыццё
Мне ў вочы глядзіць непраглядная скруха.

Дзе ж тыя, што даўнюю помняць вясну!
Шумяць несуцішна ўжо іншыя вёсны.
На вецер мурожысты,
На круцізну
Я выйшаў тады пад надрэчныя сосны.

А можа быць Насцю прыпомніць Дняпро:
Ён самы, відаць, даўгавечны са сведак!..
Глядзіць на чупрыну зарэчных бароў
Паводдаль дзяўчына, задумліва гэтак.

Тхне мёдам у прыпар дняпроўскі абшар,
І сонца над ім залатое, як лотаць.
Мне вельмі знаёмы, здаецца, і твар
У гэтай дзяўчыны, знаёма і постаць.

Мо гэта вучыцелька Насця прыйшла,
Зноў мару дзявоцкую горне і туліць!
Такая ж і сёння, якою была
Раней, як маёю стала матуляй.



# ЗОРКА ПАЭТА

Юбілей Максіма Багдановіча... Думаецца не пра юбілей, зноў і зноў згадваюцца яго вершы. Кожны з іх — гэта не толькі «стан душы», а сардэчная споведзь яго, боль яго, сум яго па светлай будучыні сваёй зямлі. Кожны з іх нібыта вынікае з песеннага фальклору роднага краю — яна, яго паэзія, такая ж простая і складаная, хвалюючая і ўзнёслая, як душа, як думы і мары народа.

У Максіма Багдановіча магла б быць і іншая жыццёвая дарога. Вось сказала — «магла б...». Не. Акрамя Паэзіі — не! З'яўленне паэта такога маштабу, як Максім Багдановіч, было неабходна не дужа шчодраму полю, лірычнаму полю беларускай літаратуры. І ён з'явіўся — і ўзышла над зямлёй буйной велічыні Зорка Паэта.

Кароткае і драматычнае жыццё яго стала ягоным подзвігам, пра што, відаць, не думаў сам творца, адухоўлена крышталізуючы беларускае слова. Яно, роднае слова, прыйшло да яго так рана! А можа, перш прыйшла трывога... Вось што ён пісаў пазней у артыкуле «Забыты шлях» (1915 год): «Беларускіх вершаў у нас не было,— былі толькі вершы, пісаныя беларускай мовай». І высновa паэта зусім не вызначала адмаўленне ўсяго таго, што было ўжо створана беларускімі паэтамі (у гэты ж час плённа ўжо працавалі Янка Купала і Якуб Колас, жылі ў народзе творы Цёткі і Багушэвіча...). Павінен быў адбыцца новы штуршок, зрух душы чалавечай не толькі да апявання гора ці радасці, а да тонкага, філасофскага асэнсавання таямніцы жыцця, прызначэння чалавека, прызначэння паэта. Павінен быў з'явіцца класічны ўзор беларускай лірыкі, гаворачы пра якую мы заўсёды бяром шырэй, гаворым не толькі пра беларускую паэзію, а пра нашу літаратуру ва ўсеагульным, сусветным вымярэнні.

Здавалася б, чаму такое кароткае і цяжкае жыццё дваццацішасцігадовага маладога чалавека з'яўляецца для нас прыкладам самаахвярнага гарэння ў імя чалавечнасці, чаму яго, на першы погляд дaступны і вытанчаны радок хвалюе сэрцы заўсёды, калі б ні ўзяў у рукі томік вершаў, калі б ні прачытаў той ці іншы верш нанова? Справа, безумоўна, не толькі ў асабістай жыццёвай драме Максіма Багдановіча, бо, як вядома, драму для сябе не прыдумаеш, дый не створыш штучна! А драма мне бачыцца — не адно ў яго хваробе. І перш за ўсе — не ў ёй. Драматызм — у звышпранікнёным успрыманні паэтам жыцця.

Ці ж дзіўна, што ўпершыню ў беларускай паэзіі вершы Багдановіча арганічна спалучаюць у сабе і тонка высвечваюць з рознапластавога быцця прыроду і чалавека, а значыць — чалавечнае ў прыродным, а значыць — вечны пошук гарманічнага слова, які вымагаў не толькі глыбіннага пазнання жыцця і вывучэння іншых літаратур, а моцы, душэўных сіл, напружанай і самаахвярнай працы.

Так, былі ў паэта вялікія папярэднікі — Пушкін і Лермантаў, вялікія паплечнікі — Купала і Колас, быў, рос творчы вопыт, мог ён засвойваць і засвойваў узоры класічнай еўрапейскай паэзіі. І гэта, натуральна, адбівалася на яго творчасці. Каб правільна зразумець лёс літаратуры, карэнны напрамак яе гістарычнага развіцця, важна не толькі ўлічыць больш альбо менш «прыватныя» дасягненні асобных паэтаў (вольны верш, распрацоўка жанравай палітры і г. д.), але абагачэнне прынцыпаў паказу рэчаіснасці, асабліва ў раскрыцці духоўнага свету чалавека і яго сувязяў з грамадствам — важна разумець рух гісторыі. Гэта, пэўна ж, не можа не адбіцца на абнаўленні стылю, жанраў, прынцыпу тыпізацыі.

Рана далучыўся Максім Багдановіч да нацыянальных скарбаў іншых народаў. Як зазначаў яго бацька Адам Ягоравіч, яшчэ ў маленстве Максім прачытаў «Дзіцячыя казкі» Афанасьева, беларускія казкі ягонага, бацькавага запісу, рускія быліны, «Слова аб палку Ігаравым», быліны і песні сербскія і балгарскія, «Эду», «Песню пра Нібелунгаў», «Песню пра Раланда», «Рустэм і Зараб», «Іліяду»... Рана пачаў дбаць Максім і пра духоўны скарб свайго народа. З біяграфіі паэта вядома, што ён у дзіцячым узросце пакінуў Беларусь. Але памятная дарога маленства вярнула Максіма Багдановіча для Беларусі, для яе славы і гонару.

Шукаючы ўсемагчымыя адценні слова, яго таямніцу і сілу, Максім Багдановіч ствараў свой магічны і таямнічы свет, які нібыта працінае балючае святло. Думка — заўсёды праз аголены болевы цэнтр:

**Я хлеба ў багатых прасіў і маліў —**
**Яны ж мне каменні давалі;**
**І тыя каменні між імі і мной**
**Сцяною вялізнаю ўсталі.**

**Яна усё вышай і вышай расце**
**І шмат каго дужа лякае.**
**Што ж будзе, як дрогне, як рухне яна!**
**Каго пад сабой пахавае!**

Выразна ў паэзіі Максіма Багдановіча адчуваецца нацыянальны склад душы — а для гэтай выразнасці мала аднаго ўмення пісаць, мала аднаго толькі таленту! Патрэбен боль, балючае адчуванне душы народа. Услухайцеся ў яго радкі:

**К тым, каго жыццё заціснула глыбока**
**Ўніз, у норы падзямельныя пад Вамі,**
**Вы, панове, хоць і бачыце далёка,**
**Загляніце ў душы — студні са слязамі.**

Трывога — праз боль—у звароце да творцы:

**Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей**
**Сэрцы цвёрдыя, быццам з камення.**
**Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,**
**Не збудзіўшы святога сумлення.**

Філасафічнасць — праз боль — у звароце да свайго сучасніка (трэба думаць, і да наступніка):

**Жывеш не вечнасць, чалавек,**
**Перажыві ж у момант век!**
**. . . . . . . . . .**
**Жыві і цэльнасці шукай,**
**Аб шыраце духоўнай дбай.**

Канцэпцыя існасці — праз боль — у звароце (не толькі!) да самога сябе:

**Хай чарада гадзін пануры́х, нудных, шэрых,**
**Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,**
**Хаваючы сабой агонь гарачай веры,—**
**Хай не відаць яго... а ўсё ж ткі ён не згас!**

Верыў паэт у годнасць свайго народа, будзіў яго свядомасць. І з'яўляюцца, як бы перакліка-ючыся з радкамі Горкага, вось гэтыя, здавалася б, ціхія радкі: «Не бядуй, што хмары сонца свет схавалі. Нарадзіцца мусіць бура з гэтых хмар. Праўда, ўсё прыціхла... Бор замоўк і хвалі, але будзе бура, тым мацней удар!» І спавядаюць словы пра балючую і адначасова ціхую радасную веру: «...і тчэ, забыўшыся, рука замест персідскага узора цвяток радзімы васілька». І ўзыходзіць зерне роздуму ў вершы «Паміж пяскоў егіпецкай зямлі»...

І хай сабе, азораны дрогкім промнем кахання, паэт выгукне з душы сваёй, ізноў жа, навылёт прабіваючыя словы: «Я, бальны, бескрыдлатьі паэт...»,— гэта ўсё ж яшчэ не безвыходнасць. На высокім узлёце пачуцця ствараюцца несмяротныя яго «Зорка Венера», «Вераніка» і многія іншыя шэдэўры лірыкі.

Хіба вось гэта гучыць не сучасна?

**Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы**
**У ціхую сінюю ноч**
**І сказаць:**
**«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,**
**Ясныя зоркі Геркулеса!**
**Да іх ляціць наша сонца,**
**І нясецца за сонцам зямля.**
**Хто мы такія!**
**Толькі падарожныя — папутнікі сярод нябёс.**

**На што ж на зямлі**
**Сваркі і звадкі, боль і горыч,**
**Калі ўсе мы разам ляцім**
**Да зор!»**

З'яўяцца, поўныя пяшчоты і любові, радкі да жанчыны, жанчыны-самаахвярніцы, жанчыны-прадаўжальніцы роду чалавечага. І ці не таму будзе ў іх столькі душэўнай цеплыні, што на світанку свайго жыцця, паранены глыбокім асабістым болем, паэт напісаў, што ён, малады і хворы чалавек, не пакідае пасля сябе нашчадкаў Максімавых...

Паэт працаваў у імя нашчадкаў, у абарону Маці-краіны, у абарону жыватворнай раллі будучыні. Працаваў да апошняга промня. Ён шмат перакладаў. Пераклаў на беларускую мову вершы Пушкіна, Верлена, Шылера, Верхарна, каб далучыць ніву беларускай паэзіі, дыханне беларуса да лепшых скарбніц народаў еўрапейскіх літаратур, каб сцвердзіць, урэшце, гонар сваёй літаратуры. Нездарма ж вырвуцца на свет і вось гэтыя радкі:

**Беларусь, твой народ дачакаецца**
**Залацістага, яснага дня.**
**Паглядзі, як усход разгараецца,**
**Колькі ў хмарках залётных агня...**

Зажурана і прасветлена ў свой апошні зорны час, стварыўшы ўжо свой неўміручы «Вянок», скажа ён і словы: «Я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты»... Перафразуючы паэта, мы можам сказаць, што мы — не самотныя, калі ёсць у нашай скарбніцы шэдэўры паэта незвычайнага, цяжкага і прыгожага лёсу.

Гукніце Паэта — і. ён павернецца да вас незамглёным паглядам васілька, рассячэ ў вышыні хмурныя аблокі натруджанымі крыламі гордага Лебедзя, і яшчэ здалёк засвеціць вам яго душа, што пранізлівай зоркай вось ужо колькі гадоў палае над намі гэтак трывожна і ярка.

Яўгенія ЯНІШЧЫЦ.





**У 30-я гады вядомы савецкі мастак А. Грубэ зрабіў скульптурны партрэт Максіма Багдановіча. Партрэт вызначаўся незвычайным лірызмам, на задуменным твары юнага паэта нібыта адбіліся яго думы — думы пра родную зямлю, пра яе будучыню.**

**На вялікі жаль, работа была страчана ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Захаваўся толькі здымак, які прапануе чытачам часопіса даследчыца творчасці Максіма Багдановіча Ніна Барысаўна Ватацы.**

# «ВЯНОК»

Максіму Багдановічу было блага. Ён хварэў, моцна хварэў. Гэта было на пачатку 1913 года. Аб цяжкім захворванні паэта неаднаразова ўспаміналa стрыечная сястра Максіма Багдановіча Ганна Кіпрыянаўна Валасовіч-Гразнова. Пачынаючы з 1965 года, яна некалькі разоў наведвала Мінск, які пакінула ў час першай імперыялістычнай вайны ў 1915 годзе. Гасцюючы ў мяне, яна расказала, што ў 1913 годзе жыццё Максіма Багдановіча было пад пагрозаю. Таму з Мінска ў Ніжні Ноўгарад выехала іх бабка, Таццяна Восіпаўна, каб дагледзець хворага.

* * *

Халоднаі ноччу я ў шырокім, цёмным полі
Каля огнішча лёг і сціхнуў у паўсьне.
Агонь усё слабеў... урэшці знік паволі...
І ўраз зрабілося вясёла неяк мне!..
Хай; шэры попел, ты агнішчэ ўсё сабою
Ў нядоўгі час здалеў, як рызаю, пакрыць,—
Я ведаю, што там агонь дрыжыць пад ёю,
Я ведаю, што там чырвоны жар гарыць...
Хай чэрэда гадзін панурых, нудных, шэрых,
Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,
Хаваючы сабой агонь гарачы веры, —
Хай не відаць яго... а ўсё-ж ткі ён не згас!

Пусть [illegible] нудной, серой,
Как пепел, на душу ложится каждый час,
Скрывая [illegible] собой огонь горячей веры, —
Пусть не видать его, — а все-таки он не
угас!

Гэтыя звесткі пацвярджаюць пісьмы самога Максіма. У лісце да рэдакцыі «Нашай нівы» на пачатку 1913 года ён пісаў:

«Не дзівіцеся, што ў мяне літары выходзяць зусім дзіцячыя — пішу лежачы, бо моцна хварэю — інфлюэнца і васпаленне лёгкіх, тэмпература ў мяне падымаецца да 40°, а 39,5° бывае кожны дзень».

Запаленне лёгкіх пры дарэвалюцыйным стане медыцыны цягнулася доўга і часта канчалася смерцю.

Паэту ішоў 22-гі год — пара росквіту духоўнага і фізічнага. А тут — «літары выходзяць зусім дзіцячыя...»

Але і ў такім стане Максім працаваў. Творчая праца была яго жыццём, і паэт не мог яе спыніць. Пакуль ён жыў, ён тварыў. Нездарма стрыечная сястра Максіма Багдановіча Нюта Гапановіч у пісьмах да сястры Веры называла яго «катаржнікам». У пісьме ад 13 лістапада 1913 года яна паведаміла сястры аб тым, што «Каторжник прислал нежное письмо».

У гэты цяжкі для Максіма перыяд жыцця ён рыхтаваў да друку першую і адзіную кнігу сваёй паэзіі «Вянок».

Максім Багдановіч разумеў, што выдаецца кніга з вялікімі цяжкасцямі, бо ў выдавецтве «Наша ніва» не хапае сродкаў на выданне. У лісце ў рэдакцыю пачатку 1913 года ён пісаў:

«Дзякую вам за клопаты аб зборніку. Што да выдання кніжкі, дык бачу, што яно спыняецца галоўным чынам праз недахват грошай, але ніяк не прыдумаю, як вам дапамагчы. Сам не зарабляю, у бацькі прасіць, дык ён многа даць не можа, бо жыве ад 20-га да 20-га, да таго ж вінен шмат каму».

Максім робіць усё, каб садзейнічаць выданню кнігі. Далей ён піша:

«Але вось што: калі я ачуняю, дык я папрабую заняць пад кніжку ў розных сваіх знаёмых грошы. Значыцца, прадасцё колькі сот экзэмпляраў яе, вы мне надашлеце тыя грошы. Другое, вы мне не шліце аўтарскіх экзэмпляраў, я іх куплю і куплю шмат. Калі вам тыя займы здадуцца прыдатнымі, дык напішыце мне».

У пастскрыптуме да пісьма дадае: «Напісаў некалькі вершаў. Ачуняю — надышлю».

А ў лісце ад 27 красавіка 1913 года Максім прапануе рэдакцыі выкарыстоўваць для выдання яго аўтарскі ганарар за работу, выкананую для ўкраінскага выдавецтва.

«Украінцы дасюль не заплацілі мне за пераклад з беларускага на расійскі. Напісаў ім, каб яны выслалі грошы да вас. Ці атрымалі? Гэта на зборнічак».

У час хваробы Максім Багдановіч напісаў эпілог да паэмы «Веранікa» і некалькі вершаў. Да складання свайго зборніка малады паэт ставіўся вельмі сур'ёзна. У пісьме ад кастрычніка — лістапада 1913 года ён пісаў:

«Пытаюць мяне: ці трэба дадаць да зборніка дзе што з ужо надрукаваных вершаў, каторыя ў яго не ўвайшлі? Я, паночкі, калі бачыў два вершы адзінакавай вартасці — друкаваны і недрукаваны — звычайна памяшчаў другі. Калі вам дзе што хацелася б з выкінутага мной памясціць у кніжку — будзь ласка. Але мая думка — выкідайце болі, тады зборнік выйдзе лепі».

«Вянок» выйшаў з друку ў канцы 1913 года. Да гэтага часу Максім ужо ачуняў. Першая сур'ёзная пагроза жыццю паэта мінула.

Максім працягвае вучобу ў юрыдычным ліцэі і напружаную творчую працу. Кнігу сваю падарыў і сваякам, і сябрам.

У Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна захоўваюцца тры экзэмпляры «Вянка» з уласнаручнымі даравальнымі надпісамі Максіма Багдановіча сваім цёткам Магдаліне Ягораўне і Марыі Ягораўне, а таксама таварышу па гімназіі Мікалаю Рафаілавічу Какуеву. У стрыечнай пляменніцы Максіма Багдановіча Наталлі Глебаўны Кунцэвіч, што жыве ў Горкім, захоўваецца экзэмпляр, падараваны маці, Веры Іванаўне Гапановіч (па мужу Кунцэвіч, стрыечнай сястры Багдановіча), таксама з аўтографам паэта.

Экзэмпляры «Вянка», падараваныя Максімам цёткам Магдаліне і Марыі, аддала мне ў рукі таксама Наталля Глебаўна Кунцэвіч.

Падараваў Максім Багдановіч сваю кнігу і стрыечнай сястры Нюце. З Нютай ён сябраваў яшчэ ў дзіцячыя гады, калі жыў у Ніжнім Ноўгарадзе. Пасля перапісваўся, часам наязджаў у Ніжні, прыязджала да дзядзькі Адама ў Яраслаўль і Нюта. Калі выйшаў «Вянок», Нюта была студэнткай Вышэйшых жаночых курсаў у Маскве па аддзяленні матэматыкі і астраноміі. Яна была здольным і цікавым чалавекам. Максім лічыўся з яе думкай.

Гэты экзэмпляр «Вянка» таксама захаваўся ў сям'і Кунцэвічаў. Яго прывёз муж стрыечнай пляменніцы Максіма Багдановіча, горкаўскі паэт і перакладчык з беларускай мовы Аркадзь Бараховіч, і ў час свята беларускай паэзіі 29 жніўня 1981 года ўручыў дырэктару Музея Максіма Багдановіча. Нюце прысвяціў паэт свой рукапісны зборнічак вершаў «Зеленя», перакладзеных спецыяльна для яе самім аўтарам на рускую мову. Гэты рукапіс, атрыманы ад Наталлі Глебаўны, захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна.

Мяне ж асабліва зацікавіў экзэмпляр кнігі з надпісам: «Тёте Магдалине на память от автора. М. Багданович. 19 $\frac{22}{III}$ 14 г.» Зацікавіў тым, што, акрамя аўтографа Максіма Багдановіча, на тытульным лісце гэтых экзэмпляр кнігі змяшчае яшчэ адзін рукапісны алоўкавы тэкст.

Кніга «Вянок» складаецца з некалькіх тэматычных раздзелаў. Ёсць у ёй раздзел «Думы». Адзін з характэрных вершаў яго — «Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі», змешчаны на 64-й старонцы.

**Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі**
**Каля агнішча лёг і сціхнуў у паўсне.**
**Агонь усё слабеў... урэшце знік паволі...**
**І ўраз зрабілася вясёла неяк мне!..**

**Хай шэры попел, ты агнішча ўсё сабою**
**У нядаўні час здалеў, як рызаю, пакрыць,—**
**Я ведаю, што там агонь дрыжыць пад ёю,**
**Я ведаю, што там чырвоны жар гарыць...**

**Хай чарада гадзін панурых, нудных, шэрых,**
**Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,**
**Хаваючы сабой агонь гарачы веры,—**
**Хай не відаць яго... а ўсё ж ткі ён не згас!**

Кніга звёрстана так, што ў большасці тэкст верша займае меншую частку старонкі, кожная старонка мае вялікія палі. І вось на вольнай ад тэксту палосцы, ніжэй верша, хтосьці тонка завостраным простым алоўкам напісаў пераклад на рускую мову апошняй страфы верша М. Багдановіча.

Шмат якія вершы свае Максім пераклаў сам. Большасць перакладаў гэтых зрабіў для Нюты, дачкі Магдаліны Ягораўны. Мог перакласці ён і гэты верш. Але запісаны пераклад не рукою Багдановіча. Самае ж галоўнае — запіс зроблены не пры жыцці Багдановіча, бо ў ім ужыты ўжо новы правапіс.

**Пусть время чередой тяжелой, нудной, серой,**
**Как пепел, на душу ложится каждый час,**
**Скрывая под собой огонь горячей веры,—**
**Пусть не видать его,— а все ж он не угас!**

Хто ж аўтар гэтага перакладу?

Параўноўваючы гэты тэкст з почыркамі сваякоў Максіма Багдановіча па іх пісьмах, што захоўваюцца ў мяне, я ўпэўнілася, што радкі гэтыя запісаны рукою Нюты (Ганны Іванаўны Гапановіч). Яна магла запісаць пераклад самога Багдановіча, але тое, што тэкст напісаны пасля смерці паэта, наводзіць на думку, што страфу магла перакласці і сама Ганна Іванаўна.

Гэты запіс Ганна Іванаўна зрабіла не ў сваім экземпляры, а ў экземпляры сваёй маці. Калі ён зроблены — невядома. Правапіс сведчыць толькі, што пісала яна не раней 1918 года. На гэты час Нюта ўжо страціла мужа на першай імперыялістычнай вайне, выхоўвала дачку Кацю. А можа, і значна пазней, у сталым веку, перачытаўшы напаўзабытыя радкі вершаў, якія ўзнавілі перад вачамі згадкі далёкага юнацтва, яна, задумаўшыся, пачала перакладаць верш з канца.

Так ці іначай, але запіс гэты сведчыць, што Ганна Іванаўна думала пра свайго без пары загінуўшага брата, якога жартам называла калісьці «катаржнікам», перачытвала творы Багдановіча, а магчыма, і спрабавала перакладаць.

●

З часу выдання «Вянка» прайшло шмат гадоў. Даўно збыліся мары паэта аб «залацістым, ясным дні» для свайго народа. Беларуская літаратура вырасла, выйшла на міжнародную арэну. А сціплы зборнічак паэта «Вянок» з кожным годам вабіць да сябе ўсё больш пільную ўвагу чытача. Вабіць сваёю шчырасцю, высокім паэтычным майстэрствам, верай у будучыню і самаадданай творчай працай выдатнага сына беларускага народа ў імя яго светлай будучыні.

Вядомы беларускі паэт Максім Лужанін так ацэньвае гэтую першую кнігу маладога паэта:

«Багдановічаўскі «Вянок» здаецца неперасягнутым узорам цэльнасці лірычнай кнігі. Кніга чытаецца так, як быццам мае яна своеасаблівы лірычны сюжэт. З кожным новым вершам паэт усё глыбей і паўней раскрывае свет, змешчаны ў сабе, свет, які акружае яго рэальна, і свет, што існуе толькі ва ўяўленні».

**Ніна ВАТАЦЫ.**



# АПОШНІ РЭПАРТАЖ З ВОСЕНІ

Мінск чакае сустрэчы з Паэтам. І яна набліжаецца. Застаюцца тыдні — дні — крокі...

Пажухлі жоўтыя, крамяныя, залатыя фарбы верасня: падзьмуў ад ракі рэзкі, халодны вецер — і пачало рассыпацца каштанавае, ліпавае, кляновае лісце на далоні кастрычніка.

І вось канчаецца лістапад... Да сустрэчы застаюцца тыдні — дні — крокі. Можа, толькі адзін крок, за якім адкрыецца зроку шырокая алея, што па прыступках узбягае на пагорак над Свіслаччу, дзе чакае нас Паэт. Дзе чакае нас Максім Багдановіч.

Пасля столькіх расстайных гадоў ён вярнуўся ў горад, дзе нарадзіўся, дзе вымавіў першае слова, дзе ўпершыню ступіў на зямлю, адчуўшы яе пругкасць, яе прыцягальную сілу. На зямлю, якую апяваў гэтак аддана, якую любіў святою сыноўскай любоўю да самага скону ля сіняй ялцінскай бухты....

Любоў — гэта памяць. Далёка, за тысячы вёрст ад Беларусі, паэт песціў у сэрцы светлую надзею вярнуцца на радзіму. Дзесяткі гадоў гучыць усхваляванае слова паэта ў сэрцах мільёнаў людзей. І сёння гучаць яны ў вуснах юнакоў і дзяўчат, гэтак жа закаханых у хараство роднага краю, закаханых у паэзію вечна маладога беларускага песняра...

Максім Багдановіч вярнуўся ў родны горад. Адліты ў бронзе, будзе стаяць ён над Свіслаччу, задуменна ўзірацца ўдалячынь, узрушана ўдыхаючы водар зямлі, услухоўваючыся ў нашы крокі, у нашы галасы.

— Ці бывае шкада, што вобраз, над якім працуеш каля пятнаццаці гадоў, знаходзіць, урэшце, сваё адзінае ўвасабленне — і ўжо нібыта не належыць табе? — пытаюся ў скульптара Сяргея Міхайлавіча Вакара, аўтара помніка.

— Шкада? Не ведаю, не ведаю... Мне радасна, што менавіта мая сустрэча з паэтам наблізіла сустрэчу з ім для кожнага, для ўсіх. Гэта ж не проста мой паэт — гэта Паэт майго народа!

Паэт майго народа... Так! І гэта народ ушаноўвае памяць свайго сына, свайго вялікага паэта. Мінск чакае сустрэчы з Максімам Багдановічам...

**Таіса БОНДАР.**
**Фота М. МІНКОВІЧА.**

# ЛЮБІЎ ЁН СЯСТРУ УКРАІНУ

Як верыў Максім Багдановіч у светлую будучыню свайго народа! Пісаў:

**Беларусь, твой народ дачакаецца**
**Залацістага, яснага дня.**
**Паглядзі, як усход разгараецца,**
**Сколькі ў хмарках залётных агня...**

Ён марыў і верыў, што не толькі беларусы, а і ўсе знядоленыя народы царскай Расіі з цягам часу разарвуць ланцугі рабства і здабудуць свабоду і незалежнасць.

Вялікае значэнне ў вызваленчым руху мела несмяротная паэзія Тараса Шаўчэнкі. Дзякуючы ёй Максім бліжэй спазнаў братні народ. Шаўчэнкаўскае слова заўсёды было для яго ўзорам сапраўды народнай паэзіі. Геніяльнаму Кабзару прысвяціў беларускі паэт два цікавыя артыкулы, напісаныя на рускай мове, у якіх падрабязна разглядаецца паэтычнае майстэрства Тараса Шаўчэнкі і даецца высокая ацэнка яго творчасці.

Свой артыкул «Краса и сила» (Опыт исследования стиха Т. Г. Шевченко), які быў надрукаваны ў другім нумары часопіса «Украинская жизнь» за 1914 год, М. Багдановіч пачынае цудоўнымі, паэтычна ўзнёслымі словамі: «Ёсць зоркі, якія так блізкія адна да адной і так роўна ліюць сваё святло, што здаюцца нам адным непарыўным цэлым. «Двайнымі зоркамі» называюцца гэтыя свяцілы. Іх лёс стаў лёсам музы Шаўчэнкі і ўкраінскай народнай паэзіі: падвойнай зоркай зззяюць яны ў свеце мастацтва і прыгажосці».

Максім Багдановіч ставіў перад сабою даволі цяжкую, але разам з тым высакародную задачу — прааналізаваць вершаваныя творы ўкраінскага песняра. Зрабіўшы падрабязны аналіз рытмікі яго паэзіі, адзначыўшы яе спецыфічныя асаблівасці, ён прыходзіць да высновы, што «ў асобе Шаўчэнкі сусветная літаратура мае паэта з вершам меладычным і прыгожым,— паэта, які харастpresent сваіх твораў будаваў на сродках найбольш тонкіх — асанансах, алітэрацыях, унутраных рыфмах; паэта, які да гэтай прыгажосці названых элементаў верша далучаў яшчэ незвычайную сілу сваіх рытмаў, а таксама арыгінальнасць, жывасць і грацыёзнасць разнастайных метраў». Далей падкрэсліваецца, што ўсё гэта ўзаемна абумоўлівалася і дапаўняла адно другое, ствараючы разам своеасаблівы паэтычны свет, строга вытрыманы і гарманічны мастацкі стыль, які быў «стылем нацыянальна-ўкраінскім, а паэзія Шаўчэнкі — уросшай ва ўкраінскую народную паэзію і дайшоўшай у некаторых сваіх узорах да поўнага атаясамлення з ёю».

Артыкул «Памяти Т. Г. Шевченко» Максім Багдановіч напісаў да стагоддзя з дня нараджэння ўкраінскага паэта і змясціў у сорак шостым нумары яраслаўскай газеты «Голос» за 1914 год, не пабаяўшыся публічна выступіць з артыкулам пра паэта-рэвалюцыянера ў той змрочны час, калі царскія сатрапы рашуча забаранілі ўшаноўваць яго светлую памяць.

Падрабязна прааналізаваўшы творчасць украінскага паэта, ён падкрэсліў, што «Шаўчэнка ва ўкраінскай літаратуры з'яўляецца не тым, што быў Кальцоў у рускай або Бёрнс — у англійскай. Не, ахоп яго паэзіі шмат шырэйшы і ставіць яго на тое месца, якое ў Расіі, напрыклад, займае Пушкін, а ў Польшчы — Міцкевіч». Вось чаму, далей адзначае беларускі паэт, «у асобе Тараса Шаўчэнкі мы шануем найперш паэта, «чый верш быў поўны прыгожай прастаты, паэта, які ў формах строга нацыянальных выявіў агульначалавечы змест, змушаючы чытача перажываць цэлую гаму самых разнастайных пачуццяў, пачынаючы ад палымянага гневу і абурэння і канчаючы пачуццямі любові і ўсёдаравання... Мы шануем яго, нарэшце, як чалавека вялікай ідэйнай цвёрдасці, не зламанай цэлым шэрагам нягод,— як чалавека, які мог з поўным правам сказаць, звяртаючыся да свайго лёсу:

**Мы не лукавили с тобою,**
**Мы прямо шли; и нет у нас**
**Зерна неправды за собою».**

Гэтыя цікавыя і грунтоўныя артыкулы Максіма Багдановіча, прысвечаныя творчасці Т. Р. Шаўчэнкі, не страцілі свайго значэння і па сённяшні дзень. У іх беларускі паэт, нягледзячы на сваю маладосць, праявіў сябе як сур'ёзны і ўдумлівы даследчык паэзіі ўкраінскага генія. Так, напрыклад, Максім Рыльскі ў артыкуле «Тарас Шаўчэнка» адзначаў, што «адным з першых, хто звярнуў увагу на версіфікацыйнае майстэрства і даў удумлівы аналіз формы вершаў Шаўчэнкі, быў беларускі паэт і літаратуразнаўца Максім Багдановіч». На гэта ўказваў і народны паэт Беларусі Якуб Колас. У артыкуле «Выдатнейшы паэт і крытык» ён пісаў: «На маю думку, мала хто з украінскіх і рускіх крытыкаў даў такі тонкі, усебаковы аналіз і ацэнку паэтычнага дару вялікага ўкраінскага Кабзара, як Максім Багдановіч».

Ён вядомы таксама і як цудоўны майстар перакладу твораў украінскага паэта. Яшчэ калі вучыўся ў Яраслаўскім юрыдычным ліцэі (1911—1916 гг.), М. Багдановіч па-майстэрску пераклаў на рускую мову такія выдатныя, сацыяльна завостраныя вершы Шаўчэнкі, як «М. Кастамараву», «У няволі цяжка, хоча й волі», «І неба нямытае, і заспаныя хвалі», «Гатова! Парус распусцілі!», урывак з верша «Доля», якія былі змешчаны ў свой час у перыядычным друку, і ўрыўкі з вершаў «Агні гараць, музыка грае» і «Калі б вы зналі, барчукі», знойдзеныя ў яго архіве. Ён здолеў не толькі дакладна перадаць іх змест, але і захаваць рытміку, мастацкія сродкі, стылёвыя асаблівасці шаўчэнкаўскіх вершаў. Гэтыя «пераклады,— як справядліва адзначаў Якуб Колас,— зроблены з той увагаю, з якою наогул ставіўся Багдановіч да твораў Шаўчэнкі».

Натуральна, што Максім Багдановіч, высока ацэньваючы бессмяротную паэзію ўкраінскага Кабзара, захапляючыся ёю, зведаў на сабе і яе ўплыў. Паэзія Шаўчэнкі ўзбагачала яго духоўна як з ідэйнага, так і з мастацкага боку, выклікала ў душы не толькі боль за несправядлівасць, якую чыніў царызм да працоўнага люду, але і пратэст супраць існуючага ладу. Вось чаму, напрыклад, яго вершы «Краю мой родны, як выкляты богам», «Калісьці летняю рабочаю парой» і іншыя, у якіх падаюцца жудасныя абразкі жыцця людзей працы ва ўмовах царскай Расіі, пераклікаюцца з вядомым шаўчэнкаўскім вершам «І вырас я на чужыне», а паасобныя сюжэтныя дэталі паэм Шаўчэнкі «Кціпароўна», «Пятрусь», «У Вільні, горадзе слаўтым» і іншых (смерць казака ў стэпе, яго адзінокая магіла, зарослая травой і быльнягом, каліна ці таполя — як сімвал суму і адзіноты,— што расце на гэтай магіле) можна сустрэць у паэме Багдановіча «Максім і Магдалена», у ягоных вершах «Над магілай», «Скрылась кветкамі ў полі магіла», «Ой, грымі, грымі» і г. д. У іх шырока выкарыстаны народнапесенныя матывы і рытміка, што асабліва высока цаніў украінскі паэт.

Максіма Багдановіча цікавіла не толькі паэзія вялікага Кабзара. Ён з глыбокай пашанай ставіўся ўвогуле да культуры і літаратуры братняга ўкраінскага народа, захапляўся яго гісторыяй. Аб гэтым сведчаць яго цікавыя гісторыка-этнаграфічныя артыкулы «Украінскае казацтва», «Галіцкая Русь», «Чырвоная Русь», «Угорская Русь», напісаныя ім у 1914 годзе. У іх падаецца шмат гістарычных фактаў з жыцця суседзяў-братоў, гаротны лёс якіх гістарычна цесна зніталаўся з лёсам беларускага народа.

Мікола БАЗАРЭВІЧ.

## НА РЭСПУБЛІКАНСКІМ СВЯЦЕ ПАЭЗІІ, ПРЫСВЕЧАНЫМ МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

● Слова М. Танка пра Багдановіча на ўрачыстым вечары. ● На кніжным кірмашы. Злева направа — Н. Гілевіч, Б. Сцепанюк (Украіна), Б. Спрынчан. ● Свята для дзяцей у парку Чалюскінцаў. Э. Агняцвет, А. Вольскі прымаюць хлеб-соль.







# ПУЛЬС ЧАСУ



ГУТАРКА З МАСТАКОМ

Гэта звычайная майстэрня мастака, у якой нічога не выстаўлена напаказ, спецыяльна для гасцей. Засланая тканай посцілкай кушэтка, пара цвёрдых крэслаў ды нізкі, прадаўгаваты, нічым не накрыты стол, паліцы, збітыя са струганых дошак, шчыльна застаўленыя кнігамі і часопісамі,— вось, па сутнасці, і ўся мэбля. Памяшканне для працы — не больш. Міхаіл Савіцкі прыходзіць сюды на працу. У восем гадзін. Як на прадпрыемства ці ва ўстанову — дакладна, без спазненняў. «Багемны» стыль жыцця яму ніяк не імпануе. Яму чужыя ўсялякая бязладнасць, бессістэмнасць, мітуслівасць, бо з гэтага ўсяго складваецца адзін з найгоршых, з пункту погляду Міхаіла Андрэевіча, недахоп — безадказнасць. Наадварот, не толькі самай важнай чалавечай якасцю, але і свайго роду меркай асабістай каштоўнасці ён лічыць адказнасць за словы, справы, наогул за лінію жыццёвых паводзін.

З пазіцый гэтай адказнасці, як сапраўдны мастак-прапагандыст, Савіцкі ахвотна выкладае свае погляды на мастацтва. Разважае са строгай, лагічнай паслядоўнасцю, нічога не пакідаючы нявысветленым. Так бывае, калі чалавек у чымсьці абсалютна перакананы. Адказваць на пытанні любіць у тэзіснай форме, чым дасягае поўнай яснасці, выключаючы тыя ці іншыя варыянты разумення яго слоў.

У размове ён часцей актыўна штосьці сцвярджае ці адмаўляе. Таму голас яго, звычайна ціхі, раптам набірае прамоўніцкую сілу, і чуюцца ў ім інтанацыі катэгарычныя. Так, катэгарычнасць у значнай ступені ўласцівая яго характару. Але ж яна — родная сястра пераконанасці.

Разважанні па пытаннях самых агульных, традыцыйных гучаць у вуснах Міхаіла Андрэевіча па-новаму, з асаблівымі, толькі яму ўласцівымі адценнямі. І ў творчасці, і ў складзе дум сваіх Савіцкі надзвычай востра і дакладна выяўляе самае актуальнае, тое, што патрабуе асэнсавання. Такое яго мастацтва, што агаляе самы балючы нерв сучаснасці — праблемы вайны і міру, жыцця і смерці, гуманнасці ў супрацьстаянні чалавеканенавісніцтву...

Я расказваю Міхаілу Андрэевічу аб замілаваным водгуку на яго серыю «Лічбы на сэрцы», які напісаў нейкі маленькі школьнік, не пакінуўшы свайго імя. Няўмелым почыркам першакласніка старанна выведзены словы: «Калі б усе людзі на зямлі ўбачылі гэтыя карціны, вайны б ніколі не было». Колькі непасрэднасці і святой веры ў сілу мастацтва!

— Якіх чалавецтва сёння выхавае людзей, такімі яны будуць заўтра,— падтрымлівае размову Міхаіл Андрэевіч.— І ў гэтым — у духоўным стварэнні, а бывае і ў стварэнні новага чалавека — вялікая роля належыць мастацтву. Але каб мастак мог выконваць гэту ролю сваімі творамі, важна акрэсленасць яго грамадзянскай пазіцыі. Без яснасці грамадзянскай пазіцыі не ўяўляю мастака. За што і супраць чаго ён змагаецца? Што сцвярджае і што адмаўляе? Мастацтва не можа і не павінна быць абыякавым да таго, што адбываецца на зямлі. Гэтую ідэю сустракаеш у многіх вялікіх мысліцеляў. Успомніце хоць бы Луначарскага, які гаварыў, што ўсялякае жывое, сапраўды прыгожае мастацтва па сутнасці сваёй — баявое.

Прагрэсіўнае мастацтва заўсёды адстойвала гуманістычныя ідэалы. Гэта яго найвялікшая традыцыя. А цяпер, калі свет пастаўлен на мя-

жу катастрофы, пакуль мы не можам выключыць небяспеку трэцяй сусветнай вайны, гэтыя ідэалы, гэтыя пазіцыі павінны выяўляцца і адстойвацца яшчэ больш актыўна, чым калі-небудзь. Біць у набат, гаварыць на ўвесь голас — абавязак кожнага сумленнага мастака.

Патрэбна, на мой погляд, большая інтэнсіўнасць, магчыма, нават рэзкасць, экспрэсія мастацкіх сродкаў — тое, што мы і назіраем у сучасным прагрэсіўным мастацтве. Таму яно ўсё, ва ўсёй яго змястоўна-мастацкай сутнасці,— нішто іншае, як частка барацьбы за мір на вельмі важным участку: уздзеяння на пачуцці чалавека і праз іх — на фарміраванне яго маралі.

**— А як вы ацэньваеце ролю беларускага мастацтва ў гэтым служэнні справе міру і служэнні на карысць людзей!**

— Перш-наперш скажу, што беларускае мастацтва не стаіць на водшыбе. Яно развіваецца ў агульным рэчышчы, што пракладзена магутнай плынню ўсёй прагрэсіўнай культуры. Канечне, у першую чаргу — нашай, савецкай. Праўда, мае беларускае мастацтва і сваю спецыфіку. Яна — у перавазе грамадзянска-патрыятычнай тэматыкі. Мастацтва непазбежна адлюстроўвае тое, што перажыў народ, увасабляе яго духоўны патэнцыял, што склаўся гістарычна. Беларусь — адна з рэспублік, што найбольш пацярпела ў гады фашысцкага нашэсця, найбольш спазнала на сваім горкім вопыце ўсе жахі вайны. Таму і мастацтва яе не можа не гаварыць на поўным, шырокім дыханні аб Радзіме, аб адданасці ёй, адмаўляючы ідэі заняволення, прыніжэння і гібелі чалавека. У гэтым і значэнне нашага мастацтва, асаблівая яго роля ў агульнай справе.

Але менавіта — у агульнай справе...

**— Трапна выказаўся амерыканскі пісьменнік Піліп Баноскі, выступаючы на трэцяй міжнароднай канферэнцыі пісьменнікаў у Сафіі [яна праходзіла пад дэвізам «Мір — надзея планеты»). Ён гаварыў пра сучасную расстаноўку сіл: сёння — чалавецтва супраць забойцаў. Сярэдзіны, на яго думку, няма, градацый няма. Кожны сумленны мастак цяпер выступае супраць забойцаў...**

— Таму, як ніколі, зараз абсурдна весці гаворку, каб адасобіць ад агульных задач сваю культуру, сваё мастацтва. Кожнае нацыянальнае мастацтва павінна пераадольваць любыя бар'еры паміж народамі — палітычныя, сацыяльныя, культурныя. Толькі мастацтва здольна гаварыць на адзінай інтэрнацыянальнай мове пачуццяў, каб служыць гэтай самай галоўнай, высакароднай і актуальнай мэце. Незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці мастак, які ўсвядоміў сваю адказнасць,— салдат міру.

**— Але пры такой высокай маральнай місіі мастацтва ў нашы дні ўзровень яго павінен быць, як ніколі, высокі. Бясспрэчна, мала каму з мастакоў удаецца падняцца да дасканаласці мастацкай формы мастацтва Адраджэння. А можа гэта тлумачыцца тым, што ў нас псіхалагічна ледзь не з дзяцінства склалася памылковае меркаванне: шэдэўр — значыць, недасяжны!**

— Бачыце, дасяжнасць тут паняцце гістарычнае і адноснае. Як нельга паўтарыць эпоху, так нельга паўтарыць тыя шэдэўры. Але, мяркую, наш час мае і будзе яшчэ мець свае геніяльныя творы. Многае яшчэ не выкрышталізавалася ў патоку сучаснага мастацтва, час не паспеў выставіць свае справядлівыя адзнакі ўсяму, што з'яўляецца сёння.

Не выпадкова і само паняцце «шэдэўр» звычайна стасуецца да створанага не менш чым стагоддзе назад. Але я перакананы, што для нараджэння сучасных шэдэўраў асваенне мастаком практыкі мінулага павінна быць паўсядзённай працай. Ён жа — спадчыннік сусветнай культуры. Спадчына вызначае сучаснасць. Каб паўнацэнна адлюстраваць нашу рэчаіснасць, неабходна карыстацца адкрыццямі ўсіх часоў і народаў. Як у навуцы быў бы немагчымы сучасны ўзровень без паслядоўнага развіцця, без вывучэння і выкарыстання папярэдніх адкрыццяў, так і ў мастацтве. І як вучоны, не дакладна ўзнаўляючы, а працягваючы справу свайго папярэдніка, развівае навуку, так мастацтва не можа не выкарыстоўваць вопыт мінулага. Але не ў плане пераймання, імітацыі, а ў плане развіцця рэалістычнага мастацтва.

**— А што сказаць пра мастацтва не рэалістычнае!**

— Я падкрэсліваю — **рэалістычнага**, бо ўсё астатняе не мае колькі-небудзь надзейных традыцый, на якія можна аперціся. Дый, шчыра кажучы, гэтае «ўсё астатняе» мастацтвам не лічу. На маё перакананне, рэалізм — адзіная форма існавання сапраўднага мастацтва. Паспрабуем разважаць наступным чынам. Хто быў першы сапраўдны рэаліст? Той першабытны мастак, які здолеў цудоўна намаляваць звера на сцяне пячорнага жылля. Відаць, гэтым малюнкам ён хацеў не толькі забяспечыць поспех у паляванні, але і выказаў сваё захапленне прыгажосцю і сілай жывёліны, нарэшце, глыбокую павагу да магутнасці прыроды. Такі «першы рэаліст» быў таленавіты, шчыры. Але вось, дапусцім, суродзічы сталі яго пераймаць, капіраваць, не валодаючы гэтымі якасцямі. За кошт тых ці іншых вытанчаных хітрыкаў яны стараліся праславіцца... Вось самая першапачатковая і гранічна спрошчаная мадэль узнікнення разнастайных падробак пад мастацтва.

**У канчатковым выніку, так: дзе перакананасць, шчырасць, майстэрства — там і рэалізм. І наадварот, дзе няма іх — там няма ні рэалізму, ні мастацтва, а ёсць звычайнае прыстасаванства. Думка не бясспрэчная!**

— Што ж, мастацтва на працягу сваёй гісторыі не раз адыходзіла ад жыцця. Але ніколі пры гэтым яно не станавілася больш высокім, больш дасканалым ці больш патрэбным грамадству. Перыяды ўздыму мастацтва заўсёды звязаны з адлюстраваннем жыцця, чалавечых ідэалаў пэўнага часу. Толькі рэалістычны метад мае такі бязмежна разнастайны, такі багаты арсенал мастацкіх сродкаў, што можа паўнакроўна адлюстраваць жыццё, увасобіць гэтыя ідэалы, стаць памочнікам чалавеку. Чалавек хоча ведаць праўду. Хай часам бязрадасную, нават трагічную. Але імкнучыся да лепшага, ён хацеў бы спазнаць і ўнутраныя прычыны ўзнікнення зла — і ў сабе самім, і ў навакольным жыцці. А гэта найскладаная сфера падуладная толькі рэалістычнаму мастацтву.

**— Але ўзнікненне ўсяго таго, што вы называеце падробкамі пад мастацтва — таго ж абстракцыянізму, «поп-арт», навейшага гіперрэалізму,— абумоўлена з'явамі ідэалагічнымі, узроўнем грамадскай свядомасці...**

— Канечне. Таму не мастак падчас вінаваты ў сваіх блуканнях. Але яны непазбежна — вынік адсутнасці грамадзянскай пазіцыі ці абмежаванасці, непаўнацэннасці гэтай пазіцыі.

**— Прыгадваюцца словы Сікейраса аб рэалізме як аб пазіцыі, у якой служэнне чалавеку — служэнне эстэтычнае, ідэалагічнае, маральнае — выступае ў якасці стрыжня ўсёй творчай актыўнасці мастака.**

— Я яшчэ так разважаю: творы мастацтва цяжка параўнаць з прадуктамі вытворчасці, гэта — вынік, прадукт творчасці, але гэтак жа неабходны дзяржаве, грамадству. Мастаку сацыялістычнага грамадства, натуральна, лягчэй акрэсліць сваю грамадзянскую пазіцыю, бо яна знаходзіцца не ў процiборстве, а ў гармоніі з грамадскімі і з дзяржаўнымі ідэаламі. Яго задача — працаваць так, каб свядомасць грамадзянская стала і свядомасцю эстэтычнай.

**— Як жа варта сучаснаму мастаку разумець свае творчыя, мастацкія задачы!**

— Я мяркую, сучасны мастак павінен спазнаваць і працягваць найперш вечную функцыю мастацтва. Гэтая функцыя, на маю думку, стварэнне другога і самага доўгага жыцця прадметаў, людзей, з'яў. Чалавек надзвычай магутны. Ён можа павярнуць раку, зрабіць мора, расшчапіць атам, паляцець у космас... Але ісце тое, што ў прамым сэнсе чалавеку не падуладна — час. Яго нельга ні ўзяць, ні пакратаць, ні спыніць, ні павярнуць назад, ні паскорыць. Але чалавецтва мае памяць. Мяняюцца пакаленні, і рэальныя калісьці людзі, што ў свой час ашаламілі свет, ператвараюцца ў легенды. Зазначце, яны, такім чынам, працягваюць сваё жыццё ў іншай форме. Легенда — гэта ўжо сфера мастацтва. Мастацтва супрацьстаіць плыні часу. Але мастак дасягае гэтага, калі ён не адыходзіць ад часу, ад сапраўднасці, а працуе на іх. Чым больш поўна ён адлюстраваў свой час — тым больш гарантый, што яго твор стане каштоўнасцю вечнай. Чалавецтва назапашвае вопыт барацьбы дабра і зла, гэтак неабходны для яго нашчадкаў, для будучыні. Вось і мы павінны пакінуць будучыні свой вопыт, сваё разуменне свету...

Мастакі ўсіх эпох усведамлялі гэта. Выкананне такой высокай місіі спараджае прафесійную гордасць. Дык вось, сучаснаму мастаку, які самакрытычна ацэньвае сваю творчасць, варта ўсур'ёз падумаць, ці заслужыў ён права на прафесійную гордасць. Для чалавека любой прафесіі, па-мойму, гэтае пачуццё надзвычай важнае. Яно нараджаецца ад валодання сваёй справай.

**— Нядаўна на VII з'ездзе савецкіх пісьменнікаў шмат гаварылася аб прафесійным майстэрстве, аб грамадзянскай адказнасці. У прынятай з'ездам адозве ўсім пісьменнікам, дзеячам культуры свету ёсць словы, што кожны мастак марыць застацца ва ўдзячнай памяці нашчадкаў. Але гэтае выпрабаванне часам абавязкова ўключае ў сябе пытанне: «А што ты асабіста зрабіў сёння, каб надышоў заўтрашні дзень!» Апрача ўмення ўзяць жыццё са слова, гуку, з каменю мастак мае яшчэ адну сур'ёзную зброю, якую ён можа і павінен выкарыстоўваць у барацьбе супраць ядзернага апакаліпсіса,— аўтарытэт свайго імя, свайго жыццёвага прынцыпу, сваёй грамадзянскай пазіцыі.**

**Пісьменнікі заклапочаны тымі ж праблемамі, што і кожны мастак — пэндзля, разца ці экрана... Відаць, тут ёсць агульнасць не толькі мэт, ідэй, надзей, але і саміх мастацтваў!**

— Глыбока родасныя адносіны мастацтваў нарадзіліся разам з самімі мастацтвамі. Узаемадзейнасць іх ніколі не спынялася, яны маюць агульныя законы развіцця, агульныя прыкметы, якія адрозніваюць усякае мастацтва ад таго, што ім не з'яўляецца. Так, вобразнасць — адзіная ўмова быцця любога твора.

Я шмат думаў пра тое, чаму менавіта такі феномен, як вобраз, вызначае мастацтва. Чаму ўзнік закон вобразнасці? Сфера мастацкай творчасці мае свае асаблівасці ў адрозненне ад іншых сфер. Без чаго яна не можа абысціся? Па-першае, без ведаў. Як і навука. Але ведаў мала, яны адны мастацтва не робяць. Што ж яшчэ патрэбна? Фантазія! Але веды і фантазія — супрацьлегласці. Дык вось, іх дыялектычная адзінства і спарадзіла мастацкі вобраз. У навуцы гэтыя паняцці супрацьдзейнічаюць. У мастацтве яны ўступаюць у згоду. І чым больш цесна — тым лепш.

Розніца мастацтваў — у сродках увасаблення. Прычым, сродкі аднаго мастацтва, вобраз, імі створаны, дапамагаюць знайсці вобраз у іншых сродках, у іншай сістэме. Самы відавочны прыклад дае ўзаемадзеянне літаратурнага твора і кніжнай графікі. Слова дапамагае знайсці, а падчас і дыктуе рытміку, пластыку, колер. Магчыма і адваротнае — малюнак можа выклікаць мастацкае слова. Але часцей, відаць, адбываецца першае — пісьменнік схіляе мастака да творчага выказвання.

**— І вось вы, не будучы графікам, звярнуліся да паэзіі Купалы. Ці не таму гэта здарылася, што вы знайшлі ў ёй сучасны змест!**

— Безумоўна. Наколькі агульначалавечае, наколькі канкрэтна гістарычнае — настолькі і сучаснае. Інакш, мяркую, немагчыма захапіцца працай паводле літаратурнага твора. Зрэшты, тая ж умова, на мой погляд, неабходная ў

працы над любой тэмай. Літаратурны матэрыял становіцца для мастака адэкватным матэрыялу сапраўднага жыцця.

Натхнёнасць, абагульненасць вобразаў купалаўскай паэзіі надзвычай імпануе мастаку. У паэзіі Купалы — глыбокая прастата і яснасць натуральных чалавечых пачуццяў, іх нейкая спрадвечная цэласнасць: мацярынства, каханне, прага справядлівасці, жаданне шчасця, скіраванасць у будучыню... І разуменне гэтых пачуццяў не абмежавана якім-небудзь часам. Пачуцці, якімі аперыруе паэт, адметныя цэласнасцю і чысцінёю: народ як носьбіт добрага пачатку, барацьба як неабходнасць вызвалення ад рабства, шчасце, увасобленае ў радасці стварэння. Тут наша жывая гісторыя і наша сучаснасць.

Але прачытаць Купалу, вядома, можна па-рознаму. Кожны мастак мае права на сваё прачытанне. Для мяне найбліжэй інтанацыі надзеі, веры, актыўнасці ў барацьбе — тое, што складае мажорную, светлую тканіну яго паэзіі. Таму што, па-першае, менавіта гэтая тканіна стварыла Купалу для будучыні. Па-другое, для мяне важныя гэтыя матывы, таму што галоўны змястоўны стрыжань купалаўскай паэзіі бачу ў сцвярджэнні чалавечай і нацыянальнай годнасці. А тут і мая галоўная тэма! У сваіх палотнах я заўсёды хачу сказаць пра годнага, гордага чалавека, які застаецца такім у любых абставінах — і ў горы, і ў радасці, і ў ратнай справе, і ў працы. Так што, працуючы над серыяй паводле паэзіі Купалы, выказваюся не толькі ад яго імя, але і ад сябе. Ды іначай і немагчыма...

**— І гэты цыкл ужо блізкі да завяршэння! Ужо ж усе адзінаццаць палотнаў вырашаны. Не толькі ў агульных рысах...**

— Так, наўрад ці будуць істотныя змены. Дзе-нідзе ўдакладненні, лесіроўкі...

**— А якія вашы творчыя планы, Міхаіл Андрэевіч!**

— Пытанне традыцыйнае. І вельмі складанае для мастака. Бо нельга гаварыць пра тое, што яшчэ не зроблена. Некаторыя задумы я адкладваў на некалькі гадоў. Задумы — не словы. Гэта адначасова і формаўтварэнне. А за гэты працэс нельга паручыцца, у якія тэрміны ён укладзецца...

**— Але ж уражанне, што вы працуеце надзвычай хутка. Над апошняй і вельмі насычанай серыяй вы, здаецца, працавалі менш як два гады. І за гэты ж перыяд вамі былі напісаны іншыя карціны...**

— Таму пішу хутка, што пакуль дэталёва не распрацую задуму, я не распачынаю работу над палатном. Рабоце непасрэдна пэндзлем папярэднічае працаёмкі (і зусім не лёгкі, а вельмі напружаны!) працэс роздуму. І не толькі роздуму. У творчасці немагчыма пераацаніць інтуітыўныя моманты. Аднекуль знутры ўзнікае адчуванне, што пісаць трэба толькі **так**, а не іначай. Але ўзнікае яно, зразумела, не на пустым месцы. Гэты інтуітыўны момант я б вызначыў як дыялектычны скачок: пераход колькасных назапашванняў у новую якасць. Пераход, здавалася б, незалежны ад маіх намаганняў, але падрыхтаваны імі. І вось што цікава — кіруючыся толькі адчуваннем, знаходзіш фармат карціны, прапорцыі, рытмы, колер дзе і колькі ўзяць колеру, а пасля — правярай хоць матэматыкай — гэта правільна! Але інтуіцыя не дае такіх надзейных гарантый, якія забяспечваюць логіка, вопыт, майстэрства. Ніколі не вядома, ці «спрацуе» яна безадмоўна. Я не пачынаю пісаць карціну, пакуль не ўбачу яе ва ўяўленні такой, якой яна павінна быць. Да дэталей. Магчыма, таму і не люблю гаварыць аб творчых планах.

Мяккі летні паўзмрок ужо пракраўся ў майстэрню. Працоўны дзень Міхаіла Андрэевіча закончаны. Развітваючыся, я азіраюся на палатно, што стаіць ля сцяны,— эпілог купалаўскай серыі. У ім вобразы зямныя і ўзнятыя над зямным, жывыя і тыя, што перадаюць нешта агульнае, чаго не ўбачыш у жыцці. Яны і ад рэчаіснасці, і ад мары... Фігуры лётчыка і падлетка-хлапчука акрэсліваюцца на палатне ярка, быццам не хочуць адыходзіць у наступаючую цемру. Раніцой да іх зноў вернецца мастак...

**Гутарку вяла Эма ПУГАЧОВА.**

# У КЛУБ УСЁЙ СЯМ'ЁЙ

Кідкая афіша ля прахадной змусіла спыніцца. Вельмі ж незвычайнае запрашэнне: «Прыходзьце да нас у госці ўсёй сям'ёй...» А ўнізе подпіс: «Савет клуба выхаднога дня».

Спакуслівае запрашэнне. Бадай, варта яго прыняць... Магчыма, і сапраўды ўдасца сямейны адпачынак у нядзелю? А то заседзеліся дома... І не таму, што няма куды пайсці або знікла жаданне пабываць у кіно, тэатры, клубе. Не, вядома. Проста трывожна дзяцей пакінуць дома адных. Без нагляду, чаго добрага, наробяць бяды. Што з іх, свавольнікаў, возьмеш...

І вось у прызначаны час таты і мамы, узяўшы за рукі сваіх улюбёнцаў, паспяшаліся на сямейны вечар. Ішлі з асцярогай: а раптам ашукаюцца ў сваіх чаканнях? Але гаспадары клуба выхаднога дня зрабілі так, каб госці засталіся задаволенымі — і дарослыя, і дзеці. Атмасфера добразычлівасці, весялосці панавала на гэтым вечары.

Нялёгка, вядома, улічыць і задаволіць густы ўсіх — у кожнага яны розныя. Аднаму, скажам, падабаецца паэзія, а іншаму абавязкова падавай шахматы. Таму арганізатары вечара склалі рознабаковую праграму адпачынку. У канцэртна-тэатральнай зале выступілі лепшыя сілы мастацкай самадзейнасці прадпрыемства. Аматары гумару і сатыры сустрэліся з паэтам Міхасём Скрыпкам. Яго вострыя, вясёлыя мініяцюры былі сустрэты шчырымі воплескамі. Ну, а паклоннікі шахмат прынялі ўдзел у сеансе адначасовай гульні, які даў майстар спорту А. Шагаловіч.

Тут жа можна было атрымаць кансультацыю у вопытнага спецыяліста. На пытанні адказваў кандыдат юрыдычных навук Ю. А. Матусевіч. Усцешаны былі і аматары літаратуры — для іх была падрыхтавана выстаўка кніг, што паступілі нядаўна ў бібліятэку.

І малыя тым часам не сумавалі. Для іх праводзіліся гульні, конкурсы. Адным словам, усе засталіся задаволеныя. Таму цяпер, прыкмеціўшы ля прахадной Мінскага камвольнага камбіната аб'яву аб вечары сямейнага адпачынку, ужо ніхто не вагаецца: ісці ці не ісці? Вядома ж, ісці! Тым больш, што Палац культуры тэкстыльшчыкаў, паўнаўладным гаспадаром якога становіцца савет клуба выхаднога дня,— зусім побач, за сотню крокаў ад дому.

Шмат добрых слоў можна сказаць і пра работу Палаца чыгуначнікаў у Мінску. Дні сямейнага адпачынку пад назвай «А без таты і без мамы — гэта што за выхадны», якія праводзяцца тут, заваявалі трывалую папулярнасць у жыхароў сталіцы.

Калектыўны адпачынак у выхадныя дні — адметная рыса сацыялістычнага побыту. Гэта добра разумеюць і актывісты магілёўскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» імя У. І. Леніна. Яны таксама рэгулярна праводзяць святы пад дэвізам: «У Палац культуры — усёй сям'ёй». І кожнае свята не паўтарае папярэдняе. Гаспадары палаца імкнуцца дакладна і загадзя скаардынаваць праграму, добра прадумаць яе, каб кожны наведвальнік мог знайсці сабе занятак даспадобы. Выступленні лектараў чаргуюцца з гутаркамі юрыста, педагога, урача, работніка грамадскага харчавання. Наладжваюцца паказы сучаснага мужчынскага і жаночага адзення, працуюць фотаатэлье, кніжны і сувенірны кіёскі, кафэ. Улічваючы пажаданні гасцей, дэманструюцца кінафільмы, якія спадабаліся. Папулярныя творы савецкіх і замежных аўтараў выконваюць самадзейныя артысты. Такія вечары апошнім часам атрымалі сваю тэматычную скіраванасць. Яны прысвячаюцца важным падзеям у жыцці краіны і калектыву, на іх ушаноўваюцца перадавікі спаборніцтва за датэрміновае выкананне заданняў адзінаццатай пяцігодкі. Гадзіны калектыўнага адпачынку выкарыстоўваюцца і для экскурсій па мясцінах рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы. З раніцы на аўтобусе сем'і адпраўляюцца ў дарогу па вуліцах горада, каб пачуць цікавы расказ аб яго традыцыях, аб людзях, чыімі імёнамі названы вуліцы, як быццам занава перагартаць старонкі летапісу роднага горада Магілёва.

Установы культуры заклікаы стаць сапраўднымі цэнтрамі камуністычнага выхавання, прапаганды рашэнняў XXVI з'езда КПСС, савецкага ладу жыцця. Каб слова партыі не толькі дайшло да свядомасці кожнага чалавека, але і валодала яго сэрцам, трэба ўзнімаць пытанні, якія хвалююць людзей, ярка і таленавіта прапагандаваць высокія маральныя прынцыпы нашага сацыялістычнага грамадства. Многія калектывы культработнікаў спраўляюцца з гэтай пачэснай задачай. Прыклады? Палац культуры калгаса «Чырвоная змена» Любанскага раёна. У хвіліны адпачынку вяскоўцы ахвотна ідуць сюды. Васемнаццаць гурткоў і аб'яднанняў дзейнічае ў палацы. Асабліва вялікую аўдыторыю збіраюць вечары, прысвечаныя вывучэнню рашэнняў XXVI з'езда, перспектывам развіцця нашай краіны ў адзінаццатай пяцігодцы, задач, якія трэба вырашыць калгаснікам.

А вось як прайшоў тэматычны вечар «Шляхі бацькоў — дарогі сыноў» у Абідавіцкім доме культуры Быхаўскага раёна. Прысутныя ў зале, стаіўшы дыханне, слухалі хвалюючы расказ аб баявым і працоўным шляху былога камісара партызанскага атрада Апанаса Сяргеевіча Гонтарава, былога танкіста, а зараз механізатара, кавалера ордэна Леніна Пятра Ільіча Ліскова, партызанкі Соф'і Фамінічны Крамачовай і іншых аднавяскоўцаў, за плячамі якіх слаўны баявы і працоўны шлях. Ім прысвячалі ў гэты вечар вершы і песні, музычныя нумары, ім дало клятву мужнасці і адданасці герачным традыцыям маладое папаўненне гаспадаркі...

Па ініцыятыве культасветработнікаў Залатвянскага сельскага клуба і мясцовай бібліятэкі праводзяцца дні культуры для механізатараў і жывёлаводаў. Актыўна прапагандуюцца дасягненні лепшых: вопыту наватараў прысвячаюцца «календары працоўнай славы», «баявыя лісткі», «маланкі», прымеркаваныя да гэтага дня, са спецыяльнай праграмай выступае агітбрыгада клуба. А святы вясны і працы, першай баразны, ураджаю, пасвячэння ў хлебаробы даўно сталі традыцыйнымі паўсюдна ў рэспубліцы.

Апошні час работнікі культуры вялікае значэнне надаюць клубам і аматарскім аб'яднанням па інтарэсах, якія аб'ядноўваюць жыхароў розных узростаў і прафесій. Большасць з іх «прапісаліся» ў культасветустановах. Праўда, падчас яны тут адчуваюць сябе не асабліва ўтульна: цяперашнія дамы культуры прыстасаваны для правядзення масавых мерапрыемстваў, якія праводзяцца не гэтак і часта. Дарэчы, аналіз, праведзены ў Гродзенскай вобласці, сведчыць: крэслы ў глядзельных залах у сярэднім 3—4 дні на тыдзень пустуюць. А вось пакояў для работы гурткоў, аб'яднанняў яўна не стае. І ўсё ж, як паказвае вопыт, клубы па інтарэсах, не скардзячыся на цяжкія ўмовы, растуць даволі хутка.

Добра зарэкамендаваў сябе клуб маладой сям'і «Іван ды Мар'я» пры Хоцімскім раённым Доме культуры. Ён створан параўнаўча нядаўна, але адразу ж заваяваў вялікую папулярнасць. Тут вядзецца зацікаўленая гутарка, што варта зрабіць, каб стварыць дружную і трывалую сям'ю, пра яе маральнае і фізічнае здароўе.

Клубы, падобныя хоцімскаму, вельмі папу-

лярныя. Яны адчынены ў многіх гарадах і вёсках рэспублікі і носяць прыгожыя, паэтычныя назвы. У Драгічыне маладыя сямейныя пары збіраюцца ў «Рамонку». Разам яны шукаюць адказ на хвалюючыя пытанні: як навучыцца па-сапраўднаму разумець адзін аднаго? Ці можна пазбегнуць духоўнай раз'яднанасці, канфліктаў у паўсядзённым жыцці? Калектыўна абмяркоўваюць складаныя сітуацыі ў сям'і, прымаюць удзел у розных конкурсах — сур'ёзных і жартоўных: хто хутчэй спавіе ляльку, наабірае бульбы, хараша станцуе вальс і г. д.

На пасяджэнні клуба «Я плюс ты — сям'я», створаным пры Палацы культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода, маладыя бацькі прыходзяць са сваімі малымі. Праграмы гэтых сустрэч разнастайныя, пры складанні іх улічваюцца пажаданні аўтазаводцаў.

«Адпачываем у сваім крузе», «Журавачка», «Паўлінка», «Пінчанка» — гаспадынямі гэтых клубаў з'яўляюцца жанчыны. Яны ўмеюць не толькі выдатна працаваць, але і разумна, прыгожа адпачываць. Вось як праходзяць пасяджэнні ў клубе «Васіліса» Палаца культуры хімікаў Светлагорска. На вялізным стале — па-хатняму разліты ў кубкі чай. Утульна пасеўшы ў крэслы, жанчыны слухаюць расказ намесніка старшыні гарвыканкома В. С. Ахлесціна. Ён гаворыць аб перспектывах роднага ім горада, што будзе збудавана, як будзе развівацца служба побыту і г. д.

Такія сустрэчы ля самавара сталі традыцыйнымі. Дэвіз іх — «Сумесна шукаем, знаходзім, спазнаём!»

Што і казаць, добра пасля змены і хатніх турбот адпачыць сярод знаёмых і блізкіх табе людзей: паслухаць любімыя вершы, пагутарыць аб героях раманаў Льва Талстога, абмеркаваць накірункі моды, пагутарыць аб палехскім жывапісе. Усё гэта, безумоўна, цікава, але хацелася надаць рабоце клуба больш глыбокі змест. Як зрабіць, каб вечар, праведзены ў Палацы культуры хімікаў у другую пятніцу кожнага месяца, натхняў на роздум пра час і пра сябе, пра дзяцей, пра свой калектыў? Прыйшлося пашырыць і паглыбіць тэматыку сустрэчы. Нярэдка ў госці прыходзяць партыйныя работнікі, журналісты, кіраўнікі гарадскіх арганізацый. На абмеркаванне клуба сталі выносіцца такія тэмы, як «Сучасны чалавек і яго захапленні», «Становішча жанчын у краінах капіталу» і іншыя.

Савет клуба, у склад якога ўвайшлі самыя аўтарытэтныя прадстаўніцы працоўных калектываў горада, лічыць за свой найпершы абавязак — выхаваць у людзей разумныя духоўныя запатрабаванні, актыўную жыццёвую пазіцыю, навучыць іх добра арыентавацца ў падзеях унутранага і міжнароднага жыцця.

Але ці заўсёды варта пасіўна чакаць, пакуль жыхары мікраёна адгукнуцца на запрашэнне? А што, калі самім зрабіць крок насустрач ім? Пра гэта задумаліся культасветработнікі Гомельскага палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна. Было вырашана частку мерапрыемстваў вынесці «з-пад страхі» свайго цудоўнага будынка і праводзіць іх там, дзе працуюць і жывуць працаўнікі сталёвых магістралей. Цяпер нібы дадатковую нагрузку атрымалі чырвоныя куткі, агітпляцоўкі — яны сталі месцам работы васьмі лекторыяў, многіх факультэтаў народных універсітэтаў.

Работнікі палаца часта бываюць на прадпрыемствах, добра ведаюць становішча спраў, настрой рабочых, іх запатрабаванні. Вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы мерапрыемстваў, выбары тэм для гутарак аказваюць сакратары партыйных арганізацый, актывісты. Мэтаскіравана выкарыстоўваюцца такія формы клубнай работы, якія дадуць найбольшы эфект менавіта ў даным калектыве. Адзін з тэматычных вечароў, напрыклад, быў праведзены ў Гомельскім лакаматыўным дэпо. Гутарка ішла аб павышэнні якасці рамонту. На вечары ўшаноўвалі перадавікоў, настаўнікаў моладзі, пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва. Але ў той жа час быў прад'яўлены і рахунак бракаробам. Яны сталі «героямі» светлавой газеты, «баявых лісткоў», што падрыхтавалі работнікі палаца і актывісты дэпо.

...Што сёння ў клубе? Заходзьце, не пашкадуеце. Вас чакае шмат цікавага, захапляючага. Калі — агаворымся — гаспадарыць тут улюбёныя ў сваю справу энтузіясты, людзі пошуку і ініцыятывы.

**Вальдэмар ПРАЦКАЙЛА.**



# СССР — ФРАНЦЫЯ: ПРАЦЯГ ДЫЯЛОГА НА

**НА ПЫТАННІ НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА АДКАЗВАЕ ЧЛЕН НАЦЫЯНАЛЬНАГА БЮРО РУХУ КАМУНІСТЫЧНАЙ МОЛАДЗІ ФРАНЦЫІ (РКМФ) Дэні МАРЭ.**

**— У міжнародным маладзёжным цэнтры «Юнацтва» на беразе Мінскага мора працаваў улетку XV лагер дружбы савецкай і французскай моладзі. Як дырэктар лагера з французскага боку, ці засталіся вы задаволены вынікамі сустрэчы?**

— Паміж народамі СССР і Францыі існуюць добрыя традыцыі дружбы і супрацоўніцтва, выпрабаваныя самай цяжкаю з войнаў у гісторыі чалавецтва. Але нас знітоўвае не толькі мінулае — нас заклікае будучыня. Вось таму камуністы нашых дзвюх краін надаюць велізарнае значэнне менавіта маладзёжным кантактам.

Лагер дружбы меў ярка выяўленую палітычную афарбоўку. Мы хацелі, каб маладыя французы на свае вочы пабачылі сацыялістычную рэчаіснасць і адказалі на галоўнае пытанне свайго сумлення: у імя якіх ідэалаў варта жыць. Можам сказаць, што мэта гэтая дасягнута. Быць камуністам — значыць быць змагаром, быць гаспадаром свайго лёсу. Такая думка панавала ў часе правядзення дыскусійных клубаў і наведання ВДНГ БССР, сустрэч на прадпрыемствах і размоў у творчых саюзах рэспублікі. Аб гэтым мы расказваем у сваіх «справаздачах аб камандзіроўцы ў СССР». Справа ў тым, што дваццаць тысяч металургаў, шахцёраў, докераў Паўночнага дэпартамента Францыі дапамагалі РКМФ сабраць сродкі на паездку прагрэсіўнай моладзі ў СССР. Тысячы і тысячы людзей падтрымлівалі гэтае мерапрыемства.

**— Скажыце, калі ласка, якое ўражанне пакінула ў вас знаходжанне ў Беларусі?**

— Існуюць дзесяткі класічных прыкладаў, як француз адказвае на пытанне пра розум і пачуцці. Для нашай нацыі гэта штосьці непадзельнае. «Голыя» ідэі, як вядома, кепска засвойваюцца. Да асабістага светапогляду чалавек прыходзіць праз перажыванні, пошукі не толькі розумам, але і сэрцам.

Адзін з дзён удзельнікі лагера правялі на палетках гаспадарак Мінскага раёна, а ўвечары, у часе канцэрта-мітынгу, калі выступалі прадстаўнікі моладзі з так званых «гарачых» кропак планеты — Афганістана, Палесціны, Намібіі, зробленыя сродкі былі пералічаны ў Фонд міру. Гэта ўжо было больш, чым працоўная акцыя — гэта быў асабісты ўчынак кожнага маладога чалавека, які выступае за антыімперыялістычную салідарнасць, мір і прагрэс.

Знаёмціца з вашай працавітай рэспублікай, дзе ў гады Вялікай Айчыннай вайны загінуў кожны чацвёрты жыхар, нельга без глыбокага ўзрушэння. Трагедыя аб'яднала лёс беларускай Хатыні і лёс французскага пасёлка Арадур-сюр-Глан. Наша вялікае жаданне — каб нашы народы ядналі не толькі беды, але і вялікія святы. Адно з такіх свят адбываецца якраз гэтай восенню: праходзяць Дні СССР у Францыі. І ўдвая прыемна для французаў, што правялі незабыўныя дні на беразе Мінскага мора, што ў гэтым традыцыйным дыялогу дружбы вашу краіну прадстаўляе Беларусь са сваёй багатай і самабытнай культурай. Вялікім падарункам для ўсіх нас было не толькі выступленне народнага хору БССР (гэтаму выдатнаму калектыву мы, французы, апладзіравалі стоячы), але і, напрыклад, канцэрты самадзейных калектываў «Чараўніцы» і «Дударыкі». З радасцю сустрэнем прадстаўнікоў вашай багатай талентамі рэспублікі на французскай зямлі.

**— Таварыш Дэні Марэ, дазвольце задаць апошняе пытанне: якая адказнасць, на ваш погляд, маладых, хто прымае сёння эстафету дружбы і супрацоўніцтва нашых народаў?**

— Сустрэчы ў Мінску даюць нам падставу сказаць, што мы добра разумеем адзін аднаго. І не толькі таму, што ў «Юнацтве» працавала шмат высокакваліфікаваных перакладчыкаў, а таму, што мы з савецкай моладдзю гутарым на адной мове — на мове міру і дружбы. Чалавецтву добра вядома, што музы на поўны голас і радасна гавораць толькі тады, калі маўчаць гарматы. У той час, калі натаўскія генералы імкнуцца ператварыць Еўропу ў парахавы склеп, мы павінны змагацца за будучыню. Тут няма альтэрнатывы: тут або мір, або — нічога на зямлі... Няма сёння задачы больш важнай, чым захаванне міру на планеце. І ў шматнацыянальным маршы змагароў за мір мы заўжды будзем крочыць плячом да пляча з савецкім народам, з савецкай моладдзю.

**Інтэрв'ю правяла**
**Ядвіга ЮФЕРАВА.**

● **Інтэрв'ю з кампетэнтным субяседнікам**

● **Лялькі Зінаіды Ляўчэні едуць за мяжу**

● **Знаёмцеся: Раймон Кяно**

# МОВЕ ЎЗАЕМНЫХ СІМПАТЫЙ

## ШТО СКАЖАШ, ЛЯЛЬКА?



Калі б у Беларусі не было сувеніра з лёну (не лічачы, вядома, ткацтва), то яго трэба было б выдумваць. Яно і праўда: з досыць пругкай саломы што хочаш вырабляюць, то чаму нельга з гнуткага, мяккага льнянога валакна? Відаць, гэтая думка і падштурхнула ў свой час работніцу Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў Зінаіду Ляўчэня паспрабаваць свае сілы ў новай галіне мастацкай творчасці. Прайшло зусім няшмат часу, і льняныя лялькі, фігуркі жывёл, жанравыя сцэнкі сталі прадстаўляць нашу рэспубліку на многіх саюзных і замежных выстаўках, аспрэчваючы першынство на ролю беларускага сувеніра нават у саламяных вырабаў. А вось зараз яны ў Францыі...

— У маленстве не было часу лялькамі займацца,— звычайна жартуе Зінаіда Сяргееўна, калі пытаюцца ў яе пра сакрэт такога хуткага поспеху.— Вайна, цяжкія гады пасля вайны... Трэба было памагаць маме гадаваць малодшых. І сама сабе, і меншым лялькі шыла з анучак. Ды, відаць, у маленстве так і не нагулялася, бо во і цяпер з лялькамі не разлучаюся... Ну, а калі сур'ёзна, то захацелася ўнесці і нешта сваё ў беларускі сувенір. А сакрэт поспеху — у фантазіі, без яе нічога не зробіш, цікавай работы не атрымаецца. Хочацца ж, каб кожная лялька была як з казкі, мела сваё аблічча, свой нораў. Толькі тады сувеніры прынясуць сапраўдную радасць і нам, і нашым гасцям.

Відаць, з-за сціпласці майстрыха не гаворыць, што да фантазіі яшчэ патрэбен і талент. А на яго прырода не паскупілася — у гэтым не сумняваешся, гледзячы на творы Зінаіды Сяргееўны. У аснове ўсіх работ — звычайная пасмачка шэрай кудзелі, з якой хіба што трохі нітак можна спрасці. Але спрытныя рукі майстрыхі згінаюць, скручваюць, сплятаюць, перавязваюць гэтую пасмачку — і вось ужо акрэсліваюцца абрысы чалавечай фігуркі. Далей у ход ідуць розныя дадатковыя матэрыялы: кавалачак белай тканіны на галаў, чырвоная нітачка на рукавы і фартушок, стужачка ў касу... Фігуркі набываюць свой асабісты выраз твару, уласны характар і асноўную для сувеніра якасць — ярка выяўленае нацыянальнае аблічча.

Сапраўдны мастак не задавальняецца дасягнутым поспехам. Не спыняе пошукаў і Зінаіда Сяргееўна Ляўчэня. Пераезд у Магілёў, праца на фабрыцы мастацкіх вырабаў з яе багатымі мастацкімі традыцыямі дала новы штуршок для пошукаў. Майстрыха спрабуе спалучыць лён з саломай, якая, можна сказаць, праславіла магілёўскіх майстроў. Вынікі пошуку неаднойчы прыводзілі ў захапленне членаў мастацка-тэхнічнага савета Міністэрства мясцовай прамысловасці, якія кожны месяц разглядаюць новыя ўзоры сувеніраў. Але і гэта — ужо пройдзены этап. Апошні час майстрыха паказвае кампазіцыі, якія на першы погляд могуць уявіцца крокам назад: занадта сціпла, адно валакно, ніякіх каляровых нітак, стужак, саломы. Варта ўважліва прыглядзецца — і пераконваешся, што лён тут не патрабуе аздобы — настолькі дасканала выкарыстаны яго ўласныя якасці. Скручаныя, сплеценыя, звязаныя, сатканыя валаконцы ўтвараюць далікатны і высакародны дэкор, які ў той жа час уяўляецца багатым і нават паліхромным. У такім жа стылі, дарэчы, працуюць і вучаніцы Зінаіды Сяргееўны, якія прадаўжаюць яе справу на Маладзечанскай фабрыцы.

Што ж яшчэ можна зрабіць са звычайнай шэрай пасмачкі лёну? Як быццам болей нічога... Але наўрад ці згодзіцца з гэтым Зінаіда Ляўчэня, нястомная ў сваім жаданні дарыць людзям радасць.

**Я. САХУТА.**
**Фота аўтара.**

**Раймон КЯНО** *Мастацтва паэзіі*

**Шукайце слова адмыслова**
**І на агонь пастаўце слова,**
**Наіўнасці вазьміце лусту,**
**Сыпніце мудрасці па густу,**
**Натрусьце зор з сальнічкі бога**
**На кавал сэрца трапяткога**

**І на канфорцы ўмельства ўраз**
**Пракіпяціце, і не раз,**
**А доўгі час, прытым з імпэтам.**

**Пішыце! Ды спярша якраз**
**Вы нарадзіцеся паэтам!**

**Пераклаў з французскай Рыгор БАРАДУЛІН.**

**У часе дзён СССР у Францыі пакажа сваё мастацтва Дзяржаўны ансамбль танца Беларускай ССР.**



# МАЁ ЖЫЦЦЁ—МАЁ БАГАЦЦЕ



□ У. С. Камароў.

Хімікам ён стаў нечакана для сябе. Дакументы, пасланыя ў прыёмную камісію медінстытута, трапілі чамусьці ва універсітэт. Памылку выпраўляць было позна, а вяртацца дадому ні з чым і траціць год з-за чыёйсьці недарэчнасці яму, тады дваццацічатырохгадоваму хлопцу, які прайшоў вайну, было не з рукі. У такім узросце пара скончыць вучобу і працаваць, а тут — усяго толькі абітурыент. Не, вырашыў, буду здаваць! Фізмат, дык фізмат...

Да свайго здзіўлення, экзамены здаў, хаця і не рыхтаваўся па асобных прадметах, і адразу ж перавёўся на хімфак. Усё ж бліжэй да медыцыны. Аднак згрызота, што здрадзіў запаветнай мары, доўга яшчэ вярэдзіла душу. Тым больш, што планы зрываліся другі раз.

Сваю першую мару ён выношваў гадамі. Ніхто, нават сябры — вясковыя хлапчукі з Княжыцаў — не ведалі, што хоча Валодзька Камароў стаць мастаком. Бачылі, вядома, што ён малюе, і нават здорава, круцілі ў руках прыз, які яму прыслалі з Мінска за трэцяе месца ў рэспубліканскім конкурсе дзіцячага малюнка. Але каб маляванне стала ягонай прафесіяй — не ўяўлялі. Вось трактарыстам — іншая справа! Пра гэта марылі ўсе вясковыя хлапчукі, з зайздрасцю праводзячы гуртам у поле першых механізатараў. Яны былі для іх у такім жа арэоле славы, як і лётчыкі, бо рабілі важную справу ў той даваенны час — аралі поле, сеялі на сталёвых конях. А мастакі?.. Якая з іх карысць? Ва ўсякім выпадку, княжыцкія хлапчукі думалі менавіта так. Валодзька баяўся гаварыць пра свае планы, таму што ведаў: будуць смяяцца. І калі ўсё ж сабраўся з духам і расказаў, што хоча пасля сёмага класа паехаць у Віцебск вучыцца на мастака, іменна так і атрымалася. Павесяліў ён тады сваіх сяброў! Падумаць толькі: Валодзька Камароў — мастак! Пачалі пераконваць, што ўсё гэта несур'ёзна, і ён здаўся.

Ці шкадуе зараз? Уладзімір Сямёнавіч задуменна ўсміхаецца:

— Даўно гэта было... Адбалела. Але,— па-змоўніцку паніжае голас,— прыходзьце дадому, тое-сёе пакажу.

І я прыйшоў. «Тое-сёе» былі карціны. Не, не пакінуў акадэмік Камароў свайго першага захаплення. Піша пейзажы. Праўда, часу на гэта застаецца — толькі ў адпачынак. І заўсёды, едучы на сваю Магілёўшчыну, бярэ эцюднік. Там рэчка яго дзяцінства Лахва. («Як зарасла і змялела! Ці можа маламу здавалася тады такой паўнаводнай і шырокай?») Там кожны пагорак, кожнае дрэва абуджаюць успаміны далёкіх гадоў.

І ён малюе: рэчку, возера, бярозавы гай, лугавіну, каб у кватэру неспакойнага і шумнага горада павезці памяць аб дарагіх сэрцу мясцінах. («Паглядзіш — і быццам на бацькаўшчыне пабываў»).

— А ўвогуле як, падабаецца? — нечакана павярнуўшыся, заклапочана пытаецца ён.

— Падабаецца,— гавару.— Для аматара зусім нават някепска.

— Для аматара... Разумееш, я ж ніколі не бачыў, як сапраўдныя мастакі працуюць. Мне б паглядзець — тады і тэхніку падправіў бы. А так, вядома, аматарства. У жывапісцы не збіраюся.— І, схапіўшы крыху, усміхнуўся: — Так, змена заняткаў. А прафесія ў мяне добрая. Гэта я яшчэ ва універсітэце зразумеў.

Свайму настаўніку — члену-карэспандэнту АН БССР Р. Л. Старобінцу Камароў абавязаны многім, і найперш тым, што ён адкрыў яму вочы на хімію, захапіў, змусіў палюбіць гэтую складаную, поўную загадак і таямніц навуку. Вучні «Фамы няверуючага» Старобінца дзесяткі разоў паўтаралі вопыты, пераправяралі вынікі эксперыментаў. І якасьць гэтая прывілася, хоць у душы злаваліся яны тады на свайго «тырана». Як спатрэбілася потым Камарову гэта патрабавальнасць і бязлітаснасць да самога сябе! Для навуковай работы ў яго, дырэктара Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі Акадэміі навук БССР, на рабоче часу не застаецца — увесь час паглынаюць абавязкі кіраўніка. Штосьці патрэбна дастаць, штосьці арганізаваць, высветліць, камусьці дапамагчы, з кімсьці разабрацца... Глядзіш, і дзень канчаецца. Уласна кажучы, цяпер яму цяжка ў сваім рабочым кабінеце спадзявацца на цішыню творчасці. Толькі дома, увечары аддае навуцы сваё сэрца і думкі.

Больш як 300 навуковых работ, у тым ліку чатыры манаграфіі і 53 аўтарскія пасведчанні на вынаходствы мае У. С. Камароў. Галіна, у якой ён працуе, адна з самых складаных у хіміі — атрыманне новых адсарбентаў і каталізатараў. Адсарбенты — гэта паглынальнікі, а каталізатары — паскаральнікі хімічных рэакцый. Першыя, валодаючы вельмі вялікай паверхняй, служаць для ачысткі розных вадкасцяў і газаў. Другія зрабілі, напрыклад, магчымым сінтэз аміяку і азотнай кіслаты. Без іх нельга цяпер ні перапрацоўваць нафту, ні ажыццяўляць арганічны сінтэз. І колькі чалавек выкарыстоўвае гэтыя працэсы, столькі імкнецца павысіць порыстасць адсарбентаў і каталізатараў, павялічваючы тым самым іх актыўную паверхню. У сваёй лабараторыі Камароў дасягнуў, здаецца, мяжы мініяцюрызацыі пораў: яны сталі суразмерныя з памерам малекул. Больш таго, не ўсякая малекула можа ў іх пранікнуць. А гэта адкрывае захапляючыя перспектывы перад хімічнай прамысловасцю. Бо калі ячэйкі адсарбента здольны змяшчаць малекулы толькі вызначаных памераў, то яны робяцца ідэальным сітам для раздзялення вадкасцяў і газаў. Такія фільтры, ці так званыя «цэаліты», лёгка хаваюць у сваіх «кватэрах», напрыклад, гексан. А вось больш буйныя малекулы бензолу ў «дзверы» не пралазяць.

Сапраўдная рэвалюцыя у высокатэмпературным крэкінзе станучь камароўскія носьбіты для каталізатараў. Прымяніўшы арыгінальную тэхналогію, ён у дванаццаць разоў павялічыў іх ёмістасць і ў 30—40 разоў — удзельную паверхню. Але гэта ўжо прыкладная галіна працы, якая выцякае з велізарных па аб'ёме тэарэтычных доследаў вучонага.

Ім адкрыта новая формула вызначэння ўдзельнай паверхні, знойдзены новы, не вядомы навуцы структурны тып адсарбента. У выніку хімікам стала значна лягчэй падбіраць зыходны матэрыял для эксперыментаў і загадзя вызначаць яго ўласцівасці.

Як і кожны вучоны, ён не ўмее тлумачыць без паперы і алоўка.

— Ведаеш, чаму нельга правільна вызначыць удзельную паверхню па старой формуле, калі поры становяцца надзвычай маленькімі? — хутка пытаецца ён як бы сам у сябе і кіўком запрашае глядзець.—Вось бачыш, якая штука атрымліваецца...

Аловак хутка заслізгаў па паперы, пакідаючы на ёй стройныя шарэнгі малекул, якія акуратна размяшчаліся ў порах адсарбента. Затым з'явілія формулы. Спачатку старая. Затым новая. Апошняя, мабыць, была па-хімічнаму прыгожая, як Афрадыта, і Уладзімір Сямёнавіч, на хвілінку адкінуўшы галаву, палюбаваўся ёю.

Прызнацца, пры ўсёй сімпатыі да новай формулы старая была мне зразумелая не больш. Назіральны Камароў гэта заўважыў і «памякчэў»:

— Мажліва, я тут занадта многа нагаварыў і складана. Пачнём спачатку.

Захапляючыся, быццам настаўнік, асцярожна спрабуючы на гук кожную сваю думку, вёў ён расказ. Для большай даходлівасці малекулы ў яго «гуртаваліся», «лезлі», «спяшаліся», словам, паводзілі сябе, як пасажыры грамадскага транспарту ў гадзіны пік. А ён «кіраваў» імі, намагаючыся ўсяляк аблягчыць іх лёс.

— Ну, як? — са спадзяваннем спытаўся ён, калі закончыў тлумачыць.

— Зразумела,— кіўнуў я.

— Ведаеш, вялікае гэта мастацтва — цікава расказваць пра сваю справу. Я так і не навучыўся. Усё больш з калегамі гутарыш, а мова ў нас іншая,— потым спыніўся, махнуў рукой.— Стараюся, каб разумелі. І як быццам разумеюць. Так мне здаецца.

Неўпрыкмет гаворка пахінулася ў бок ад канкрэтных распрацовак. Загаварылі аб месцы вучонага ў навуцы, аб тым, што патрэбна рабіць кіраўніку, каб людзі працавалі эфектыўна. І я прыгадаў даўнюю размову ў адной з лабараторый інстытута. З крыўдай мне сказалі тады, што была, маўляў, у нас добрая тэма, ды вось Камароў «закрыў» яе. Даводзецца пачынаць з нуля.

Не называючы, дзе гэта было сказана, я нагадаў Уладзіміру Сямёнавічу пра тую крыўду.

— Усё правільна,— усміхнуўся ён.— І крыўдуюць, і прыходзяць прасіць, каб пакінуў тэму ў плане, а я не адступаюся. Калі адчуваю, калі ўпэўнены, што бяруцца не за сваё, не за тое, што патрэбна навуцы,— адхіляю. Бывае, не адразу мяне разумеюць. А потым з цягам часу дзякуюць. Я за тое, каб людзі валодалі патрэбнай эрудыцыяй, больш супастаўлялі, аналізавалі, смялей падступаліся да нязведанага.

І тут жа прывёў прыклад з практыкі сваёй лабараторыі. Іменна дзякуючы кругагляду людзей з'явіўся на свет кіслотна-шчолачны метад атрымання каталізатараў крэкінгу на аснове мінеральнай сыравіны. Вучоныя не пайшлі выпрабаванымі шляхамі, а паставілі эксперымент, у поспех якога амаль ніхто не верыў. І нечакана атрымалі незвычайна актыўны каталізатар. Прынамсі, нечаканасцю гэта было толькі збоку. Камароў з самага пачатку верыў у поспех.

Уво даўно ён не ставіць эксперыментаў сам — на гэта ёсць супрацоўнікі лабараторыі. Але ўся тэарэтычная падрыхтоўка новых цыклаў доследаў, усе новыя задумы нараджаюцца ўвечары ў яго ціхай кватэры. Дарэчы, паводле водгукаў вучняў, падносіць ён іх настолькі тактычна, што неўзабаве, пасля агульнага абмеркавання, кожны лічыць ідэю сваёй.

Ён выхаваў 16 кандыдатаў навук, з якіх 14 працуюць з ім па сённяшні дзень. Такое бывае не часта. Але тлумачэнне гэтаму знайсці лёгка. Прыцягальны ён чалавек, Камароў: просты і адкрыты, злёгку іранічны, па-дырэктарску строгі і, галоўнае, як вучоны — невычэрпны генератар ідэй.

З Уладзімірам Сямёнавічам цікава працаваць, таму што ён абуджае творча думаць, не скоўвае волю сваім аўтарытэтам і заўсёды падтрымлівае арыгінальныя эксперыменты, якімі б нечаканымі, на першы погляд, яны ні былі. Так гавораць яго вучні. І яшчэ з нязменнай цеплынёй дадаюць:

— Ён у нас у разведцы вайну праслужыў. А гэта — ужо характарыстыка. Бо ненадзейныя там не затрымліваліся...

Сапраўды, гэта асобная старонка ягонай біяграфіі, упісаная вогненнымі літарамі. Так ужо атрымалася, што першымі савецкімі салдатамі, якіх убачыў вязень Дубровенскага лагера Валодзя Камароў, былі нашы разведчыкі. І якой жа была яго радасць, калі пасля падрыхтоўкі ў запасным палку яго накіравалі ў разведку.

З 91-й гвардзейскай Духоў-

шчынскай дывізіяй ён прайшоў да Кёнігсберга. Затым армейскі лёс склаўся так, што апынуўся ён у другім палку. Зноў у разведцы, але ўжо артылерыйскай. У гэтым палку і сустрэў Дзень Перамогі. Пасля разам з артылерыстамі прымаў удзел у баях на Далёкім Усходзе.

Гады не сцерлі ў яго памяці начныя рэйды да варожых акопаў.

Асабліва ўрэзалася ў памяць разведка боем — адна з дзвюх, у якіх давялося прыняць удзел. З такіх атак мала хто вяртаўся назад, але — такая суровая праўда вайны — яны былі неабходныя.

Выратавала яго, як ні дзіўна, тое, што бег ён па полі бою адным з першых. І калі шчыльны агонь скасіў амаль усю групу, нырнуў Камароў у невялікую варонку, усяго каля нейкіх паўсотні метраў ад варожых акопаў. Параненых дабівалі нямецкія мінамёты... А побач з ім выбухаў не было: занадта блізка да перадавых пазіцый ён ляжаў. Але затое які дзень давялося яму перажыць!

Ад перажытага нервовага напружання хіліла на сон. (Пазней сам здзіўляўся: як гэта хацелася спаць, калі чуў кожны гук, які далятаў з варожых акопаў). Але ён адчайна плюскаў вачамі, разумеючы, што калі засне, то абавязкова зварухнецца і выдасць сябе. Толькі ўначы ў выратоўнай цемры ўдалося вярнуцца да сваіх.

Запомнілася яму вайна і тымі нямногімі радасцямі, якія яна даравала салдату. Восеньскім днём 1944 года перад імі, разведчыкамі, танцавала і пела армейская самадзейнасць. Не многім выпадаў такі гонар. А тут было за што.

Рыхтавалася наступленне ва Усходняй Прусіі, і камандаванню тэрмінова быў патрэбен «язык». У групу, куды адабралі самых вопытных і смелых разведчыкаў, уключылі і Камарова. Некалькі дзён вывучалі яны подступы да перадавой ворага і, нарэшце, рушылі пад покрывам цемры.

Палоннага захапілі пад раніцу, але, як часта бывала, прарвацца без бою да сваіх не ўдалося. Са стратамі, несучы двух параненых сяброў і «языка», усё ж выбраліся. «Падарунак» для камандавання аказаўся — лепей і не прыдумаеш: штабны унтэр-афіцэр. Ён паведаміў шмат каштоўных звестак. За гэтую разведку Уладзімір Камароў атрымаў свой першы ордэн Славы III ступені.

Сёння пералік узнагарод, званняў і грамадскіх абавязкаў Уладзіміра Сямёнавіча заняў бы добрую старонку.

— Як дакладна называецца гэты савет па Салігорску? — спраўляецца ён па тэлефоне.— Так, запісваю: «...па ўдасканаленні тэхналогіі здабычы, перапрацоўкі калійных...» — І, паклаўшы трубку, сарамліва прызнаецца: — Вось справы якія! Колькасць і тут пераходзіць у «якасць». У стольких саветах прымаю ўдзел, што і не ўспомніш. А, ды што гаварыць!.. Хапіла б часу на галоўнае. Вось другі том па рэгуляванні порыстай структуры неабходна дапісаць. Гэта найпершая мэта. А потым... Потым сур'ёзна патрэбна будзе заняцца сінтэзам аміяку. Велізарная гэта работа! Павялічыць бы яго выхад у два разы — тады, лічы, галоўную справу свайго жыцця і зрабіў.

**Дзмітрый ПАТЫКА.**

# ЛЮДЗІ, ЯК РЭКІ

**Пра Волгу, Дняпро і Іртыш — вялікія водныя артэрыі краіны — складзена шмат цудоўных песень. Іх спяваюць на многіх мовах народаў і народнасцяў, што насяляюць неабсяжныя прасторы Радзімы.**

**Запрашаю цябе, чытач, у завочнае падарожжа па берагах трох славутых рэк Саюза ССР — краіны вечнага і непарушнага братэрства народаў.**

## НА ІРТЫШЫ

У наш час усяму свету вядома адно з найбольш буйных гідратэхнічных збудаванняў—электрастанцыя на сібірскай рацэ Іртыш. А ці ўсе ведаюць, што яе будаўніцтва пачалося суровай і цяжкай зімой 1942 года, калі пад пагрозай было само існаванне Савецкай дзяржавы? На першы погляд факт гэты здаецца неверагодным, фантастычным, ці не праўда?

Але заглянём у газету «Известия», датаваную ліпенем 1943 года, звернемся да апублікаванага там нарыса «На Іртышы». Я расказваў аб тым, што бачыў уласнымі вачамі з палубы парахода, які, напружваючыся, пераадольваў імклівае цячэнне ракі ў адной з самых вузкіх яе мясцін—вышэй горада Усць-Каменагорска. Пасажыры, як звычайна, тоўпіліся ля поручняў палубы, зачаравана глядзелі на шырокія плечы сопак, што ўзнімаліся з халодных глыбінь Іртыша. Былой некранутай цішыні на гэтых, паранейшаму прыгожых берагах ужо не было. Вачам адкрывалася панарама будоўлі, дзе тысячы людзей узводзілі Іртышгэс.

«Учарашні дзікі, некрануты куток,—пісаў я ў нарысе,—сёння пераўтвораны ў прамысловы вузел, які хутка расце. Нібы гіганцкім лязом зрэзаны на правым беразе кавалак сопкі, і прама праз гару з Усць-Каменагорска да Іртышгэсбуда пракладзена вузкакалейная магістраль. У другім месцы вось-вось пачне дзейнічаць электрычная чыгунка. Матавозы ўжо стаяць на рэйках пад дугамі для правадоў...»

Сышоўшы на бераг, я перш за ўсё зацікавіўся Іртышгэсбудам, хоць прыбыў у Усць-Каменагорск з іншым рэдакцыйным заданнем. І вось пра што я даведаўся...

Лютавала сібірская зіма 1942 года, а тут патрэбна было ў самы кароткі тэрмін, да пачатку крыгаходу, ва ўмовах жорсткіх маразоў і зацяжных снегападаў пабудаваць падводную частку падоўжнай перамычкі, якая перасекла б папалам рэчышча Іртыша, іншымі словамі, скласці тысячы кубаметраў зрубаў, устанавіць іх у рацэ, засыпаць глыбамі камяністых парод. Улічыце яшчэ, што ўсё тады даводзілася рабіць уручную, а маладых, моцных мужчынскіх рук не хапала—сібіракі ваявалі на фронце.

На заснежаным стромым беразе збівалі каркасы велізарных зрубаў. Потым іх спускалі з гары, цягнулі далей па лёдзе да палонак, а там ужо запаўнялі грузам і апускалі ў сцюдзёную ваду. Так пасярод паўнаводнай, пакрытай тоўстым пластом лёду ракі быў утвораны суцэльны плот з бярвення, камянёў і шчэбеню, даўжынёй у 240 метраў і шырынёй у 14. Вясной 1943 года тут, у вярхоўях Іртыша, крыгаход набыў нябачаную сілу. Разбушаваўшыся, рака кідала на бераг вялізныя крыгі, штурмавала прыбярэжныя вуліцы Усць-Каменагорска, ломячы на трэскі драўляныя пабудовы, размывала берагі, як пушынкі, раскідвала шматпудовыя бярвенні плытоў. Але колькі ні бушавала стыхія, перамычка, пабудаваная ў тэрмін і трывала, засталася непашкоджанай.

Хто ж яны, жыхары Усць-Каменагорска, Сяміпалацінска, Паўладара, Зайсана, Бухтармы, навакольных гарадоў, пасёлкаў і вёсак, дзякуючы самаадданай працы якіх была дасягнута гэтая перамога? У маіх старых блакнотах і газетных публікацыях захаваліся запісы сустрэч і гутарак з людзьмі, якія зрабілі, здавалася, немагчымае. Вось карэнныя сібіракі—бацька, маці, сыны, дочкі. Усёй сям'ёй адгукнуліся яны на заклік дапамагчы будаўнікам Усць-Каменагорскай гідраэлектрастанцыі. З пачуццём выкананага патрыятычнага абавязку збіраліся яны дадому, да сваіх звыклых спраў. А на змену ім прыбывалі іншыя пасланцы паўночнага і ўсходняга Казахстана. Бачыў я развітанне з будоўляй атрада добраахвотнікаў, які быў узнагароджаны за доблесную працу ганаровым сцягам Іртышгэсбуда. Быццам на парадзе, выстраіўся атрад на іртышскім пароме, у галаве калоны—пасівелы сямідзесяцігадовы калгаснік Апанас Якаўлевіч Кажэўнікаў высока трымае ў мускулістых руках палымнеючы сцяг. У гарадской усць-каменагорскай газеце я прачытаў паэму аб ім, напісаную мясцовым паэтам. Памятаю, у тым і ў іншых будаўнічых атрадах, акрамя казахаў і рускіх, былі ўкраінцы, беларусы і латышы, якія перасяліліся сюды, часова пакінуўшы родныя мясціны, акупіраваныя фашыстамі. Ручайкі з бясконцага патоку бежанцаў, што імкнуўся на ўсход з еўрапейскай часткі краіны, дзе ўжо лютаваў вораг, дабеглі і сюды, у суровы, але гасцінны край.

Успамінаецца цесны драўляны дамок упраўлення будоўлі. Мае субяседнікі—шматвопытныя стваральнікі Дняпроўскай гідраэлектрастанцыі імя Леніна ў горадзе Запарожжы, а таксама іншых выдатных збудаванняў перадваенных гадоў. Галоўны інжынер Іртышгэсбуда Інюшын і яго калегі з болем у сэрцы згадвалі свае тварэнні на рэках, тады захопленых фашыстамі. Але боль гэты перамагала вера ў заўтрашні дзень, у адраджэнне Днепрагэса. На сібірскай рацэ, далёка ад Запарожжа, гэтыя людзі працай сваёй набліжалі дзень адраджэння сваёй магутнай электрастанцыі.

## НА ДНЯПРЫ

Восенню 1944 года па камандзіроўцы «Известий» я накіраваўся ў толькі што вызваленыя ад акупантаў Днепрапятроўскую і Запарожскую вобласці Украіны.

Вецер гнаў густы едкі пыл і абгарэлае лісце па бязлюдных вуліцах і бульварах ранейшага Новага Запарожжа, пабудаванага незадоўга да вайны ля велічнай прыгажуні—плаціны гідраэлектрастанцыі. Паварот, яшчэ паварот—і вачам адкрываецца знаёмая і ў той жа час непазнавальная панарама, якая ўзрушвае да глыбіні душы. І чым яна бліжэй, тым відовішча больш жудаснае: плаціна ўзарвана ў некалькіх месцах, мёртвы шлюз, горы пакарабачанага металу і бетону. Наколькі ахоплівае позірк—руіны будынкаў. Пятляючы паміж імі, наша аўтамашына заязджае ў тунель, доўга і асцярожна рухаемся, пакуль не трапляем на супрацьлеглы бераг Дняпра.

Тут, у адзінай ацалелай хаце, дзе цяпер размясцілася ўпраўленне з ранейшай легендарнай назвай «Днепрабуд», была ў мяне гутарка з галоўным інжынерам Інакенціем Іванавічам Кандалавым. Удзельнік будаўніцтва буйнейшай у Еўропе Дняпроўскай ГЭС, гады вайны ён правёў у эвакуацыі, на Урале, дзе шмат папрацаваў. А вярнуўся ў родныя мясціны ўслед за нашымі воінамі, якія выратавалі плаціну ў Запарожжы ад поўнага знішчэння.

— Мы сабраліся сюды,—расказваў ён,—быццам браты на папялішча роднай хаты. Людзі сталага ўзросту і маладыя. Апошнія пачыналі на гэтых дняпроўскіх стромах студэнтамі-практыкантамі і выпускнікамі вышэйшых навучальных устаноў. У вайну на Іртышы і іншых усходніх будоўлях прайшлі выдатную школу, загартаваліся. Сярод нашых рабочых, інжынераў, тэхнікаў ёсць рускія і ўкраінцы, беларусы і казахі, узбекі і малдаване, пасланцы Урала, Сібіры, Далёкага Усходу.

Зайшла ў нас з Кандалавым размова і аб гідратурбінным цэху Ленінградскага металічнага завода—яго марка стаяла на першай магутнай турбіне Дняпроўскай гідраэлектрастанцыі імя У. І. Леніна. Нават у ваенны час у гэтым цэху не спынялася работа над новымі турбінамі для Днепрагэса, які павінен быў нарадзіцца другі раз.

Потым была сустрэча з Фёдарам Логінавым, пра якога пазней савецкі паэт Яўген Далматоўскі ў сваёй кнізе мемуараў пад назвай «Было» напіша: «Суровы гігант, уладарны і нястомны. Цяпер яму ставяць помнікі і называюць яго імем вуліцы гарадоў, якія ўзніклі каля створаных пад яго кіраўніцтвам электрастанцый».

Фёдар Георгіевіч Логінаў, начальнік Днепрабуда ваеннага часу, быў вядомы і адвагай. У тым жа 1944 годзе, калі фашысты яшчэ трымалі абарону на дняпроўскім востраве Хорціца, што размешчаны насупраць плаціны, ён з невялікай групай смельчакоў—вайскоўцаў і інжынераў—прабраўся ў пацерну плаціны, не баючыся фашысцкага абстрэлу, каб як мага хутчэй і як мага дакладней вызначыць аб'ём разбурэнняў.

— Відовішча было жудаснае,—расказваў Логінаў.—Разбураны былі не толькі агрэгаты, але і будынак самой станцыі, дваццаць шэсць быкоў. Прыкінулі: кошт аднаўлення складзе не менш як пяцьсот мільёнаў рублёў. І як толькі сапёры абясшкодзілі міны, закладзеныя фашыстамі ў плаціну, днепрабудаўцы ўзяліся за справу. Тут кожны быў героем. Разбіраючы бетон

узарваных быкоў плаціны, будаўнікі ўзбіраліся на збудаванні, якія маглі ў любы момант абрушыцца. Над безданню ніжняга б'ефа, высока над абломкамі металаканструкцый, глыбамі бетону яны прывязваліся вяроўкамі да быкоў, спрытна і засяроджана выконвалі добраахвотна ўзятыя на сябе цяжкія і рызыкоўныя абавязкі.

— Запішыце, таварыш карэспандэнт,—папрасіў мяне Фёдар Георгіевіч.—Днепрабудаўцы глыбока ўдзячны ўсім савецкім рэспублікам. Вось зірніце на тэлеграму з Далёкага Усходу, з горада Спаска. Цэментнікі горада вырашылі выпусціць звыш плана тысячы тон цэменту спецыяльна для Днепрабуда. І такія весткі адусюль. Можна не сумнявацца—адновім Днепрагэс...

Пройдуць гады. Усё, аб чым марылася тады, у 44-м годзе, ля ўзарванай плаціны ў Запарожжы, цалкам ажыццявіцца, стане рэальнасцю. Як гэта адбылося, якім бяспрыкладным подзвігам шматмільённага, шматнацыянальнага савецкага народа дасягнута, захапляюча раскажа ў сваёй кнізе «Адраджэнне» Генеральны сакратар ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Леанід Ільіч Брэжнеў. Пасля вайны ён працаваў першым сакратаром Запарожскага абкома партыі і быў непасрэдным удзельнікам гэтага народнага подзвігу. На старонках кнігі Леаніда Ільіча ярка адлюстраваны гэты цуд—інакш такое і не назавеш: ужо ранняй вясной 1947 года адроджаны Днепрагэс даў краіне першы ток. Расказваючы аб гэтай знамянальнай падзеі, Л. І. Брэжнеў успамінае: «Навукі аб аднаўленні разбуранага не існавала, падручнікаў, якія б вучылі, як узнімаць з попелу спаленыя, зруйнаваныя, узарваныя збудаванні, не было...»

## НА ВОЛЗЕ

Нашы з Логінавым сустрэчы працягваліся і на Волзе, дзе ён у пасляваенныя гады ўзначаліў толькі што створанае ўпраўленне Сталінградгідрабуда, а я быў прызначаны спецыяльным карэспандэнтам Усесаюзнага радыё па гэтай будоўлі. Прыбыў я сюды з Беларусі і падтрымліваў кантакты з газетамі і часопісамі роднай рэспублікі.

Даведаўшыся, што я падрыхтаваў для беларускай газеты пахвальныя водгукі гідрабудаўнікоў аб мінскіх самазвалах, Логінаў заўважыў:

— Няма чаго і казаць, на нашых, вельмі складаных прыволжскіх дарогах МАЗы працуюць цудоўна. Добра, што аб гэтай высокай ацэнцы самазвалаў мінчане даведаюцца, як кажуць, з першых рук. Але не менш важна расказаць беларускім чытачам пра людзей, якім даверані мінскія машыны, і, у прыватнасці, аб дапамозе, якую аказваюць гэтыя рабочыя людзі канструктарам МАЗаў. Я раю вам з'ездзіць на правы бераг...

Правабярэжны раён Сталінградбуда—першы і ў той час самы важны—падараваў мне шмат сустрэч. Вядомы экскаватаршчык будоўлі Барысаў—масквіч. Бульдазерыст Апанскі прыехаў з Кабарды. Другі вадзіцель бульдозера Бойчанка—украінец, начальнік Правабярэжнага будраёна інжынер Шыла—мінчанін. Шафёр МАЗа Грыцук нарадзіўся ў беларускім горадзе Пінску. Ад сцен гераічнага Сталінграда пралёг яго франтавы шлях да Мінскай вобласці, дзе ў баі з фашысцкімі карнікамі загінуў родны брат Грыцука Уладзімір, партызан.

Аляксей Грыцук, Юрый Пронін, іншыя вадзіцелі МАЗаў пасябравалі з канструктарамі Мінскага аўтазавода, наладзілі перапіску. З Мінска прыйшло паведамленне: у канструктарскім бюро завода ўсе прапановы шафёраў з волжскіх берагоў заносяцца ў спецыяльны журнал і будуць улічвацца пры наступных серыйных выпусках МАЗаў.

Аднойчы я заспеў Логінава ў яго рабочым кабінеце з малатком і адвёрткай у руках. Ён схіліўся над фанернай скрынкай, аблепленай сургучнымі паштовымі штэмпелямі, і нетаропка, але з вялікай цікаўнасцю адкрываў пасылку.

— Заходзь, заходзь хутчэй,—сустрэў ён мяне весела,—падзівімся разам, што за падарункі прыслалі твае землякі!

У пасылцы аказаліся ўзоры порыстых цвёрдых і напаўцвёрдых тэрмаізаляцыйных пліт.

Трэба было бачыць, як радаваўся гэтаму падарунку з Мінска Логінаў, як ашчадна раскладваў ён іх на пісьмовым стале, з якім энтузіязмам чытаў потым уголас пісьмо кіраўніка лабараторыі Інстытута хіміі Акадэміі навук БССР Фёдара Фёдаравіча Дзербянцова з паведамленнем, што беларускія вучоныя распрацавалі новы метад прамысловага вырабу будаўнічых пліт з ільняной кастрыцы і будуць вельмі ўдзячныя, калі яны, гэтыя пліты, акажуцца патрэбнымі будоўлі на легендарнай зямлі Сталінграда.

Сабраўшыся ля стала Логінава, яго бліжэйшыя памочнікі падзялялі прыўзняты настрой вядомага гідрабудаўніка, радаваліся разам з ім не толькі таму, што атрыманы матэрыял, які хутка знойдзе прымяненне на abліцовачных работах, а яшчэ і з іншай прычыны: беларускі вучоны Дзербянцоў і калектыў, якім ён кіруе, папоўнілі колькасць пасылак, якія ў тыя дні прыбывалі на адрас Сталінградгідрабуда з усіх куткоў краіны. Жыхары Паволжа і Сібіры, масквічы і ленінградцы, машынабудаўнікі Украіны і Урала, нафтавікі Азербайджана і вось цяпер вучоныя Беларусі ўносілі свой уклад ва ўсенародную будоўлю на вялікай Волзе-рацэ.

Прайшлі гады. Новыя, яшчэ больш велічныя гідразбудаванні ўзведзены і ўзводзяцца цяпер у Краіне Саветаў. «Людзі, як рэкі»—ёсць такія словы ў адной з песень. Так, нашы рэкі падобныя да людзей, якія іх пераўтвараюць, яны працуюць на карысць людзей. І ззяюць над рэкамі нязгасныя агні народнага братэрства.

**Аркадзь ЭВЕНТАЎ.**



**У СЯМ'І АДЗІНАЙ, БРАТНЯЙ**

# ЦЮМЕНСКІ МЕРЫДЫЯН

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)

вартаўска распачала бурэнне першай свідравіны вахта А. Лупанава з брыгады майстра М. Мацыгуды — падраздзялення самага маладога ў Сібіры прадпрыемства Беларускага ўпраўлення буравых работ, створанага на базе аб'яднання «Беларусьнафта».

У гэтым упраўленні некалькі падраздзяленняў, а таксама база вытворчага абслугоўвання, вышкамантажны цэх, будаўнічы і іншыя ўчасткі. Яны размешчаны ў Ніжнявартаўску. Некалькі гадзін палёту — і самалёт пераносіць беларускіх нафтавікоў за тысячы кіламетраў ад Гомеля, ад роднай Рэчыцы — ад зямлі, якая дыхае асеннім цяплом, у край суровы — Заходнюю Сібір.

Нялёгка даюцца цюменскія скарбы. Нафтавыя плошчы, выдзеленыя для бурэння Беларускаму ўпраўленню,— сярод непраходных балот, за 80—100 кіламетраў ад Ніжнявартаўска. Толькі з дапамогай магутных верталётаў можна даставіць неабходнае абсталяванне, матэрыялы, вагончыкі для жылля. Іншы раз па метэаўмовах зносіны з Вялікай зямлёй наогул прыпыняюцца. Маразы зімой — 50 градусаў і ніжэй, і нават метал, бывае, не вытрымлівае, становіцца крохкім, нібы шкло. Вось у такіх суровых умовах буравыя брыгады здабываюць «чорнае золата» — неацэнную сыравіну для прамысловасці і транспарту краіны.

Поспехі беларускіх буравікоў добра ведаюць сёння ў Цюменскім краі. Брыгады буравых майстроў М. Мацыгуды, Л. Гусева, Р. Штойкі ў сацыялістычным спаборніцтве сярод родных прадпрыемстваў «Галоўцюменьнафтагазу» неаднаразова выходзілі пераможцамі.

...Пасля напружанай работы на буравой прыемна адпачыць у родных мясцінах разам з сям'ёю, з сябрамі. Вабяць родныя рэкі і азёры, вабяць паходы і турыстычныя паездкі. Нафтавікі наведалі гарады-героі Брэст, Валгаград, Маскву. Многія ў часе водпуску адпачываюць у лепшых здраўніцах краіны. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца прафілакторый «Сонечны бераг» на Дняпры. Для дзяцей нафтавікоў пабудаваны піянерскія лагеры «Космас» і імя М. Казея. У Рэчыцы і Светлагорску выраслі прыгожыя добраўпарадкаваныя жылыя мікрараёны нафтавікоў, якія ўдарнай працаю на радовішчах Беларусі і Заходняй Сібіры памнажаюць гонар і славу першапраходцаў.



□ Радасна вяртацца на адпачынак, паспяхова завяршыўшы чарговую працоўную вахту.



□ На гэтай буравой працуе брыгада Л. Гусева.

□ Падземныя нетры штурмуе брыгада Л. Гусева з Беларускага ўпраўлення буравых работ.

□ Вінтакрылы памочнік даставіў неабходны груз.



□ Тут, непадалёку ад Рэчыцы, размясціўся гарадок нафтавікоў.



□ Беларускія нафтавікі на рыбалцы на рэчцы Таежная.



«РОЗУМ, СУМЛЕННЕ, ВЕРА Ў БУДУЧЫНЮ — ВОСЬ ЗБРОЯ, ЯКУЮ МАЮЦЬ ПРЫХІЛЬНІКІ МІРУ І ЯКОЙ ПАЗБАЎЛЕНЫ ПРЫХІЛЬНІКІ ГОНКІ ЎЗБРАЕННЯЎ І КАНФРАНТАЦЫІ».

Л. І. Брэжнеў.




# АЛЬТЭРНА

Мудрасць мінулага і па-філасофску асэнсаваны вопыт незлічоных бясконцых войнаў, што распальваліся ў розных кутках планеты, сфармулявалі тэзіс — «нават кволы мір усё ж лепей, чым добрая сварка на полі бою». І зусім не выпадкова першым знешнепалітычным актам маладой Савецкай дзяржавы стаў Дэкрэт аб міры, у якім рабочы і сялянскі ўрад заклікаў усе народы і ўрады тэрмінова пачаць «перагаворы аб справядлівым дэмакратычным міры».

Дэкрэт аб міры, прыняты Другім Усерасійскім з'ездам Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў 25—26 кастрычніка (7—8) лістапада 1917 года, па сутнасці, абвясціў прынцып міранага суіснавання адным з асноўных прынцыпаў знешняй палітыкі маладой рэспублікі Саветаў. Ёсць свая сімволіка ў тым, што менавіта гістарычны стрэл «Аўроры» адкрыў перад народамі свету не ўяўную, а рэальную магчымасць вырашаць мірным шляхам адну з самых складаных праблем чалавецтва — праблему вайны і міру.

Дэкрэт аб міры, шмат якія іншыя мірныя савецкія прапановы, што прымаліся ў розны час, калі над чалавецтвам падымаўся дамоклаў меч глабальных ваенных канфліктаў, на жаль, так і не астудзілі гарачыя галовы фарысеяў XX стагоддзя, якіх спараджае і корміць імперыялізм — той самы імперыялізм, што ўзяў на сябе, не маючы на тое ніякіх падстаў, манапольныя правы на ролю «сусветнага жандара» і ўвесь зямны шар пачаў разглядаць у якасці «зоны сваіх асабістых інтарэсаў».

Даволі цікавую інфармацыю да роздуму прапаноўваюць даследчыкі з амерыканскага інстытута Брукінгса: за 30 пасляваенных гадоў (з 1946 па 1975 год) ЗША 71 раз выкарыстоўвалі дэсантныя войскі для дасягнення сваіх знешнепалітычных мэт, і ўсе гэтыя карніцкія экспедыцыі дэманстравалі сваю агрэсіўную мускулатуру зусім не па запрашэнні тых ці іншых нацыянальных урадаў, а супраць іх пажаданняў, парушаючы не толькі суверэнітэт і незалежнасць дзяржаў, але і Статут ААН, асноўныя прынцыпы міжнароднага права.

Падчас ловіш сябе на думцы: войны, аг...

Грандыёзнай дэманстрацыяй пратэсту супраць гонкі ўзбраенняў стаў «Марш міру-81», які прайшоў па дарогах Заходняй Еўропы.

На здымку: удзельнікі маршу на вуліцах Парыжа.







«Не!» — нейтроннай бомбе Рэйгана» напісалі на транспарантах удзельнікі антываеннай дэманстрацыі ў Дортмундзе (ФРГ).




Прыхільнікі міру Англіі пратэстуюць на вуліцах Лондана супраць амерыканскіх планаў узбраенняў.

сіі і тэрарыстычныя акцыі ніколі не канчаюцца — то ў адным, то ў другім рэгіёне планеты падаюць долу людскія галовы пад узмахам нябачанай касы Смерці-вар'яткі, выгадаванай і адмуштраванай манапалістычным капіталам. Вось ён, крывавы ланцужок: узброенае ўмяшанне ў справы Карэі, Лівана, Кубы, Дамініканскай Рэспублікі, Калумбіі, Гватэмалы, Перу, Балівіі, Конга, амаль 12-гадовая вайна ў В'етнаме, Кампучыі, Лаосе... І ўсюды — выбухі, напалм, смерць, гвалт, кроў... Спатрэбіліся манаполіям чужая нафта, уран, каляровыя ме-

# ТЫВА

талы — і ў момант сфераю сваіх «жыццёвых інтарэсаў» ЗША абвясцілі Блізкі Усход, Афрыку, Індыйскі акіян, востраў Дыега-Гарсія, Аман, Кенію, Самалі, Егіпет. Куды далей!

Далей, бадай, — у тупік. І вось у той час, калі на пятай сесіі Вярхоўнага Савета СССР прымаўся Зварот «Да парламентаў і народаў свету» актывізаваць дзеянні ў імя міру і міжнароднай бяспекі, за кулісамі Белага дома пачынала ўжо разыгрывацца чарговая дзея палітычнага вадэвіля пад назваю «Нейтроннае вар'яцтва». Сцэнарый гэтага жудаснага па сваім змесце. вадэвіля быў створаны яшчэ пры былым прэзідэнце ЗША Джымі Картэры, і толькі моцная хваля пратэсту, што пракацілася па Заходняй Еўропе і ўсім свеце, не дала магчымасці «драматычнай трупе Белага дома» вынесці сваю «нейтронную прэм'еру» на суд мільярдаў гледачоў.

Але вось на падмосткі палітычнай сцэны ступіла нага новага гаспадара Белага дома — Рональда Рэйгана, і яму, як чалавеку з багатаю акцёрскай біяграфіяй, ужо на сёмым месяцы прэзідэнцтва падсунулі пад руку ўсё той жа вар'яцкі сцэнарый. І Рэйган, не думаючы, даў згоду, як кажуць тэатралы, «на запуск сцэнарыя ў вытворчасць». А гэта азначае, што на заводскі канвеер запушчана смяротная нейтронная зброя — 380 боегаловак для ракет тыпу «Ланс» і 800 снарадаў для васьміцалёвых гармат.

Свет здзівіла не толькі тое, што дакумент аб поўнамаштабнай вытворчасці самай бесчалавечнай зброі масавага знішчэння быў завізаваны адным росчыркам пяра, а тое, што прэзідэнт паставіў свой подпіс з той лёгкасцю і адвагаю, з якою звычайна робяць свае справы зухаватыя кінагероі з галівудскіх кінабаевікоў.

Чым жа ўсё-ткі кіраваўся прэзідэнт ЗША! Няўжо адной толькі мараю абзавесціся «лаўрамі» прэзідэнта Трумэна, які ў 1945 годзе блаславіў экіпаж самалёта скінуць атамную бомбу на мірную Хірасіму! Дарэчы, у гэтай сувязі прыгадваюцца нават гістарычныя паралелі: і загад Трумэна, і подпіс Рэйгана датаваны адным днём — 6 жніўня, днём, які сусветная грамадскасць прапанавала занесці ў міжнародны каляндар як самую жалобную дату.

«Не!» — нейтроннай смерці».

«Не быць планеце ядзерным палігонам!».

«Спыніць ваенную істэрыю Рэйгана!».

Гэтыя поклічныя словы луналі ўлетку над усёй нашай планетаю. Не сціхаюць яны і сёння.

Разумны свет патрабуе трывалага міру. Свет перакрывае дарогу аматарам гонкі ўзбраенняў і ваенных авантур. Іншага шляху, іншай разумнай альтэрнатывы ў жыхароў Зямлі сёння няма.

«Няхай найвялікшая пашана аддаецца тым, хто прадухіляе войны, хто мудрай парадаю аднаўляе згоду і хто шмат сіл укладае дзеля таго, каб станавіліся непатрэбнымі шматлікія арміі і незлічоныя запасы зброі». Вядомы гуманіст эпохі Адраджэння Эразм Ратэрдамскі выказаў гэтыя словы пяць стагоддзяў назад. Іх актуальнасць адчуваеш і сёння, калі знаёмішся з комплекснай Праграмай міру на 80-я гады, прынятай на XXVI з'ездзе КПСС, Зваротам Вярхоўнага Савета СССР «Да парламентаў і народаў свету», мірнымі ініцыятывамі краін сацыялістычнай садружнасці аб спыненні гонкі ўзбраенняў.

Свет патрабуе міру.

**Іосіф КАЛЮТА.**

У ЗША ўсё больш раскручваецца гіганцкі махавік гонкі ўзбраенняў. Праз сродкі масавай інфармацыі, якія падпарадкаваны ваенна-прамысловаму комплексу, у свядомасць мільёнаў амерыканцаў укараняецца ідэя аб неабходнасці ўзбраенняў, аб шматмільярдных субсідыях Пентагону.









Гэта камівояжоры ад ваеннага бізнесу. На тварах — задаволеныя ўсмешкі: відаць, удалася чарговая здзелка ў гандлі смерцю.

Кантынгенты ўзброеных сіл ЗША складаюць галоўную частку ваеннага блока НАТО. Белы дом прыняў рашэнне аб павелічэнні колькасці амерыканскіх войск у Цэнтральнай Еўропе яшчэ на чвэрць мільёна чалавек.

Высадка чарговых падраздзяленняў амерыканскіх войск у Заходняй Еўропе.






Прэзідэнт ЗША Р. Рэйган прыняў рашэнне аб вытворчасці нейтроннай бомбы — самай жудаснай зброі, якую ведала чалавецтва.




На гэтай карце пазначана, як размяшчаецца ракетна-ядзерная зброя НАТО ў Заходняй Еўропе.



Авіяносец «Німіц». Менавіта такія караблі ЗША нясуць пагрозу краінам раёна Міжземнага мора. Гэта з борта «Німіца» падняліся сцярвятнікі, што ўварваліся ў паветраную прастору Лівіі і напалі на яе самалёты.

ЗАПРАШЭННЕ Ў ГОД 1982

ЗАПРАШЭННЕ Ў ГОД 1982

ЗАПРАШЭННЕ Ў ГОД 1982

ЗАПРАШЭННЕ Ў ГОД 1982

ЗАПРАШЭННЕ Ў ГОД 1982

# ЗАВОЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ЧЫТАЧОЎ

**ЧАРГОВЫ КАЛЯНДАРНЫ ГОД — ГЭТА ЗВЫЧАЙНА НОВЫЯ ЗАДУМЫ І НОВЫЯ ТВОРЧЫЯ ПЛАНЫ. ВОСЬ ЧАМУ НА ФІНІШЫ ПЕРШАГА ГОДА АДЗІНАЦЦАТАЙ ПЯЦІГОДКІ РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ» ЛІЧЫЦЬ СВАІМ АБАВЯЗКАМ ПАЗНАЁМІЦЬ ЧЫТАЧОЎ З РЭДАКЦЫЙНЫМІ ПЛАНАМІ НА НАСТУПНЫ ГОД І АДНАЧАСОВА ЗАПРАСІЦЬ ІХ ВЫКАЗАЦЬ СВАЕ ПРАПАНОВЫ, ЗАЎВАГІ, ПАЖАДАННІ.**

Надыходзячы год будзе асабліва знамянальны: савецкі народ урачыста адзначыць 60-годдзе ўтварэння Саюза ССР. Публіцыстычныя артыкулы, нарысы, фотарэпартажы, паэтычныя цыклы, прысвечаныя непарушнай еднасці народаў-братоў, зоймуць значнае месца на старонках «Беларусі». Дасылайце нам, калі ласка, адрасы дружбы, па якіх варта было б адправіцца ў творчыя камандзіроўкі нашым карэспандэнтам. ______

Змест нашых асноўных публікацый будзе скіраваны на мабілізацыю працоўных калектываў рэспублікі на паспяховае выкананне рашэнняў XXVI з'езда КПСС і XXIX з'езда КПБ, заданняў адзінаццатай пяцігодкі. Савецкая Беларусь ганарыцца тысячамі герояў, правафланговых сацыялістычнага спаборніцтва, якія дасягнулі вышынь майстэрства, духоўнай і грамадзянскай сталасці. Парайце, пра каго з іх вы хацелі б прачытаць у часопісе, чый жыццёвы і працоўны вопыт, на ваш погляд, заслугоўвае таго, каб стаць усеагульным здабыткам. ______

«Дыялогі аб маралі». Пад гэтай рубрыкай ужо трэці год запар «Беларусь» публікуе дыялогі з вядомымі грамадскімі дзеячамі, прадстаўнікамі навукі і мастацтва. Чакаем прапаноў, якія актуальныя праблемы нам варта было б абмеркаваць. Каго вы параіце запрасіць у якасці субяседніка для чарговых «дыялогаў аб маралі»? ______

Алесь Адамовіч, Вячаслаў Адамчык, Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Віталь Вольскі, Ніл Гілевіч, Аляксей Карпюк, Іван Навуменка, Аляксей Пысін, Пімен Панчанка, Іван Шамякін — з творамі гэтых і іншых майстроў слова нашы чытачы пазнаёміліся сёлета. Аддзел літаратуры рыхтуе да друку новыя нізкі вершаў паэтаў Анатоля Грачанікава, Пімена Панчанкі, Васіля Зуёнка, Уладзіміра Скарынкіна, Таісы Бондар, Казіміра Камейшы; творы прозы Васіля Быкава, Янкі Скрыгана, Алеся Савіцкага, Васіля Гігевіча, Алеся Жука, Міхася Даніленкі, Віктара Карамазава і іншых. Творы якіх беларускіх пісьменнікаў і паэтаў вы хацелі б прачытаць на старонках часопіса ў 1982 годзе? ______

Шырокі рэзананс, мяркуючы па вашых допісах, набылі публікацыі аднаго з раздзелаў часопіса, які так і завецца — «Рэзананс». Запрашаем падзяліцца сваімі меркаваннямі, як зрабіць гэты раздзел больш цікавым і змястоўным. ______

Радасцю і неспакоем, гонарам і трывогаю кранае сэрцы пульс планеты Зямля. Наколькі задавальняе вас у часопісе інфармацыйная насычанасць, аналіз асноўных падзей і тэндэнцый міжнароднага жыцця? ______

Назавіце, калі ласка, імёны любімых акцёраў беларускага тэатра і кіно, рэжысёраў, спевакоў, музыкантаў, з якімі вы хацелі б сустрэцца на старонках часопіса. ______

Просім выказацца, наколькі задавальняюць вас нашы традыцыйныя рубрыкі «Вечнае», «Будзень рэспублікі», «Актуальны погляд», «Чалавек і прырода», «Майстры беларускай культуры», «Зямля, адкуль мы родам», «У аб'ектыве — час», «Спартыўны клуб «Стадыён», «Вясёлы калаўрот». ______

**БУДЗЕМ ВЕЛЬМІ ЎДЗЯЧНЫЯ ЎСІМ, ХТО АДГУКНЕЦЦА І ДАШЛЕ Ў РЭДАКЦЫЮ СВАЕ ЗАЎВАГІ, ПАРАДЫ, ПРАПАНОВЫ.**

**ЧАКАЕМ ВАШЫХ ДОПІСАЎ, ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!**

**НАЗАВІЦЕ СВОЙ УЗРОСТ, РОД ЗАНЯТКАЎ, МЕСЦА ЖЫХАРСТВА, А ТАКСАМА, ПАЖАДАНА,— ПРОЗВІШЧА І ІМЯ.**

**ЛІСТЫ З ПАЗНАКАЮ «ЗАВОЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ЧЫТАЧОЎ» ДАСЫЛАЙЦЕ НА АДРАС: 220005, МІНСК-5, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 19. РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ».**

**Рэдакцыйная калегія «Беларусі».**

# АЎТАР ПЕРШАГА БЕЛАРУСКАГА РАМАНА

ЯДВІГІН Ш. НА ЛАГОЙШЧЫНЕ



# АД СТУДЫІ — ДА ОПЕРНАГА ТЭАТРА



□ А. Баначыч — Садко ў аднайменнай оперы М. Рымскага-Корсакава. □ Артысты Вялікага тэатра (А. Баначыч — справа) з кампазітарам С. Рахманінавым. □ А. Баначыч — Хазэ ў оперы Ж. Бізэ «Кармэн».

У адным з пісьмаў Янка Купала ўспамінае: «У перыяд 1904—1906 гг. я пазнаёміўся з Ядвігіным Ш. (жылі мы па суседству). Гэта была для мяне вялікая падзея, бо ўпершыню сутыкнуўся з чалавекам, які не толькі пісьменнік, якога друкуюць, але і піша па-беларуску. З Ядвігіным Ш. я вельмі зблізіўся. Ён шмат расказваў пра незнаёмыя мне да таго часу пісьменніцкія справы і г. д. Чалавек ён быў з вышэйшай адукацыяй (праўда, універсітэта з-за рэвалюцыйных спраў не скончыў), пры тым вельмі цікавы і даступны субяседнік».

На жаль, не ўсе ведаюць пра жыццё і дзейнасць аднаго з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы, які жыў на пераломе двух стагоддзяў, двух сацыяльных эпох. Вучань В. І. Дуніна-Марцінкевіча, ён быў паплечнікам Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, старэйшым сучаснікам Цішкі Гартнага, М. Гарэцкага, З. Бядулі.

Антон Іванавіч Лявіцкі, які пазней выступіў пад псеўданімам «Ядвігін Ш.», нарадзіўся 25 чэрвеня 1868 года ў маёнтку Добасня Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні. Вучыўся ў прыватнай школе, якую стварыла дачка В. Дуніна-Марцінкевіча ў фальварку Люцынка. Відаць, школа дала будучаму пісьменніку не толькі трывалыя веды, але і напрамак, якога ён трымаўся ўсё жыццё,—гуманіста, чалавека прагрэсіўных поглядаў. Нездарма ж за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях ён пазней быў выключаны з Маскоўскага універсітэта, дзе вучыўся на медыцынскім факультэце. Гэта былі 80-я гады—час жорсткай палітычнай рэакцыі, выкліканай забойствам цара Аляксандра II. Трапіўшы ў асяроддзе рэвалюцыйна настроенай моладзі, Антон Лявіцкі адразу стаў на бок тых, хто быў незадаволены існуючым ладам. Студэнцкія хваляванні былі падаўлены, і ў ліку арыштаваных у сакавіку 1890 года апынуўся ў Маскоўскім Бутырскім астрозе і студэнт-медык Лявіцкі. Пасля вызвалення з турмы ён выехаў у фальварак Карпілаўка (цяпер Янушкавіцкі сельсавет Лагойскага раёна), дзе жыла ўжо заўдавелая ягоная маці. Працаваць уладкаваўся ў Радашковічах, памочнікам правізара ў аптэцы. Як згадвае ў сваіх успамінах пра бацьку дачка пісьменніка Ванда, Ядвігін Ш. у 1894 годзе пазнаёміўся там са швачкай Луцыяй Гнатоўскай. Гэтае знаёмства і стала прычынай пераезду пісьменніка ў мястэчка на бойкім віленскім шляху. Але ўжо праз тры гады ён вяртаецца з сям'ёй на сталае жыхарства ў Карпілаўку, дзе садзіць сады, прысады абапал дарог—дэкаратыўныя кусты, дрэвы, будуе альтанкі. Знаёміць сялян з творамі Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча.

Ад былой сядзібы пісьменніка мала што засталося, але яшчэ і зараз гэты куточак захаваў адбітак сваёй колішняй прывабнасці. Вось старыя прысады з ліп, клёнаў і таполяў, яловыя ахоўныя палосы, што некалі атулялі вялікі сад... Усё гэта было некалі пасаджана рукамі чалавека, які па-філасофску разумеў жыццё і хараство прыгожага. Ён так і казаў: «Пасадзіць дрэва—гэта значыць, памножыць хараство». І памнажаў яго як мог: і словам, і справаю.

Карпілаўка ў нейкім сэнсе была канкрэтнай выявай любові Ядвігіна Ш. да роднай прыроды, да свайго краю.

Не раз бывалі тут Янка Купала, Змітрок Бядуля, Уладзіслаў Галубок. У 1916 годзе завітаў сюды і Максім Багдановіч. Усіх уражвала сядзіба Лявіцкага. А Галубок нават зрабіў у 1916 годзе яе замалёўку, якая, на шчасце, уцалела праз дзесяцігоддзі. І мы можам, хоць і фрагментарна, уявіць, як выглядаў пры жыцці пісьменніка адзін з куточкаў яго сядзібы—невялікі пакручасты пагорак пры заездзе ў Карпілаўку. Як відаць з малюнка, увесь яго схіл быў выкладзены вялікімі круглымі камянямі. А між імі, нібы гномікі з калматымі барадамі і вастраверхімі шапачкамі, павытыркаліся маладзенькія елачкі... Вяршыла пагорак грыва бярозавага гаю. Так паведамляе Уладзімір Содаль—даследчык жыцця і творчасці Ядвігіна Ш.

Доўгі час у Карпілаўцы захоўваўся архіў пісьменніка: рукапісы, фотаздымкі, кнігі, тагачасныя газеты, у тым ліку і камплекты «Нашай нівы». На жаль, амаль увесь архіў загінуў.

Ды жыве на Беларусі памяць пра пісьменніка. Жыхары навакольных вёсак ахвотна і шчодра дзеляцца ўспамінамі пра земляка, шчыра зацікаўлены ў тым, каб гэты запаветны куточак быў адноўлены і захаваўся для нашчадкаў як мемарыяльны літаратурны музей ў гонар чалавека, які зычыў свайму народу шчасця, хацеў бачыць свой край вольным. Тым больш, што мастак В. П. Макавец зрабіў рэканструкцыю сядзібы Ядвігіна Ш. (Лявіцкага) паводле шматлікіх успамінаў Зоські Верас (псеўданім беларускай пісьменніцы, вядомай грамадскай і культурнай дзяячкі Людвікі Антонаўны Сівіцкай—Войцік па мужу,—якая сябравала з сям'ёй пісьменніка і жыве зараз у Вільнюсе), а таксама па расказах Марыі Васілевіч і іншых.

Ядвігін Ш. у сваіх творах адлюстраваў пэўны перыяд гістарычнага жыцця беларускага народа. У 1903—1905 гг. ён супрацоўнічаў у польскім і рускім, з 1906 года—у беларускім друку. Раней, у 1891 годзе, пераклаў на беларускую мову апавяданне У. Гаршына «Сігнал», якое было выдадзена асобнай кнігай у 1891 годзе ў Маскве. Драма «Злодзей» (1892 г.), забароненая да пастаноўкі, не збераглася. Прозвішча Ядвігіна Ш. усё часцей з'яўляецца на старонках віленскіх і мінскіх рускіх прагрэсіўных газет. У іх выступае ён з апавяданнямі, публіцыстычнымі артыкуламі і карэспандэнцыямі, знаёміць чытача з беларускім фальклорам, узнімае надзённыя пытанні сацыяльнага становішча сялян. Актыўна ўключаецца ў культурна-асветніцкую работу пасля рэвалюцыі 1905 года, супрацоўнічае ў беларускіх газетах «Наша доля» і «Наша ніва». Вось што ён піша ў нататках «Лісты з дарогі» (1910 г.):

> «Хай кожны, каму дораг свой родны край, загляне ў бліжэйшыя вёскі, загляне пад падгніўшыя стрэхі хатак, хай дзеліцца сваімі думкамі, радамі (парадамі), вестачкамі... Хай кожны святлейшы чалавек ідзе паміж гэтага народу і запальвае паміж яго светач навукі, свядомасці і справядлівасці».

Першае апавяданне на беларускай мове «Суд» Ядвігіна Ш. было змешчана ў «Нашай долі» ў 1906 годзе. Плённымі былі наступныя восем гадоў: напісаны камедыі, байкі, апавяданні («Злодзей», «Сакатушка», «Павук», «Мілка», «Мустафа» і іншыя), а таксама артыкулы і фельетоны. Празаічныя творы, сярод якіх шмат алегорый, увайшлі ў зборнікі «Бярозка» (1912 г.), «Васількі» (1914 г.), выдавалася паэма «Дзед Завала» (1910 г.).

У. Карпаў у кнізе «Крылаты ўзлёт» піша, што Ядвігін Ш. зрабіў аб'ектам сваёй сатыры цёмныя бакі сялянскага побыту, вясковую цемру, забабоннасць, людскую нязгоду, асобныя праявы сацыяльнай несправядлівасці, сялянскую наіўнасць і палітычную бясклапотнасць, паразітычную сутнасць царскіх чыноўнікаў, здраднікаў і адшчапенцаў народа.

На жаль, так і застаўся няскончаным раман «Золата»—адна з першых спроб стварыць эпічны твор у беларускай літаратуры.

Савелій АКУЛІЧ.

---

Увесь творчы шлях Антона Пятровіча Баначыча можна ўмоўна падзяліць на два перыяды. Першы—1900—1921 гады. Бліскучы перыяд жыцця опернага артыста—ад правінцыяльнай сцэны ў Харкаве да саліста-прэм'ера Вялікага тэатра, гастралёра з сусветным імем. І другі перыяд: 1921—1933 гады. Пара дзейнасці як музыканта-арганізатара і педагога. З лістапада 1932 года, з моманту адкрыцця Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага, ён быў у ёй прафесарам і першым загадчыкам кафедры спеваў.

Шмат можна было б расказваць пра артыстычны шлях Баначыча, пра вобразы, створаныя ім на оперных сцэнах краіны: Герман у «Пікавай даме» Чайкоўскага; першае выкананне партый Паола ў «Францэсцы да Рыміні» і Альбера ў «Скупым рыцары» Рахманінава; Садко і Звяздар у операх «Садко» і «Залаты певунік» Рымскага-Корсакава; партыі ў операх Вагнера. Ён спяваў у спектаклях з Ф. Шаляпіным і А. Няждановай.



Але, відаць, найбольш цікавая для нас яго педагагічная дзейнасць у Беларусі.

Адным з вядучых у Мінскім музычным тэхнікуме, які быў адкрыты ў 1924 годзе, было вакальнае аддзяленне. Першымі педагогамі-вакалістамі ў ім былі Л. Баланоўская, А. Бялькевіч-Краўзе і В. Сэлях. У 1925 годзе з Кіеўскай кансерваторыі быў запрошаны ў Мінск саліст Вялікага тэатра В. А. Цвяткоў (1866—1933 гг.). У оперным класе пад яго кіраўніцтвам былі падрыхтаваны опера Ц. Кюі «Сын мандарына» і ўрыўкі з оперы П. Чайкоўскага «Яўгеній Анегін». А калі ў 1928 годзе быў арганізаваны Вышэйшы оперны клас, яго мастацкім кіраўніком быў запрошаны А. П. Баначыч.

Вышэйшы оперны клас у той час, па сутнасці, вырашаў праблему падрыхтоўкі кадраў для будучага опернага тэатра. Акрамя харэаграфічнага класа, пры ім быў створаны студэнцкі сімфанічны аркестр. Пад кіраўніцтвам А. Баначыча ўдасканальвалі сваё майстэрства Л. Александроўская, М. Дзянісаў, І. Балоцін, С. Друкер, У. Каліноўскі, П. Валадзько, Д. Кроз і многія іншыя. Б. Смольскі піша аб гэтым перыядзе: «Увесь свой багаты вопыт А. Баначыч аддаваў падрыхтоўцы маладых спевакоў. Ён чуйна і ўважліва сачыў за прафесійным ростам студэнтаў і ўсяляк дапамагаў ім у авалоданні вакальным і сцэнічным майстэрствам.

Па ініцыятыве А. Баначыча ў оперным класе працавалі вопытныя канцэртмайстры: цудоўныя музыканты Г. Пятроў, Ю. Нікіціна. М. Вастокаў вёў заняткі па сцэнічным майстэрстве. Тут вучылі таксама «мастацтву грыму».

Акрамя рэпетыцый асноўных спектакляў («Русалка» А. Даргамыжскага і «Севільскі цырульнік» Дж. Расіні), вялася вялікая вучэбная работа: ставіліся ўрыўкі з опер розных кампазітараў. А. Баначыч прымаў у рабоце самы актыўны ўдзел не толькі як вакальны кіраўнік, але і як рэжысёр. Д. Кроз згадвае: «Прайшло шмат гадоў, але я і зараз добра памятаю невялічкае памяшканне для заняткаў опернага класа і Антона Пятровіча—рэжысёра. Мне запамятаўся ўрывак з цудоўнай оперы М. Рымскага-Корсакава «Казка пра цара Салтана». Антон Пятровіч яскрава, вобразна «паказваў у тварах» трох сясцёр. У гэтых паказах перад намі відавочна паўставалі характары персанажаў, якіх нам трэба было сыграць. Талентам пераўвасаблення Антон Пятровіч валодаў дасканала. Толькі шмат пазней я зразумела, якім вялікім артыстам быў ён».

За два гады свайго існавання Вышэйшы оперны клас зрабіў вельмі многа. У 1929 годзе яго сіламі была здзейснена пастаноўка оперы А. Даргамыжскага «Русалка», а ў 1930 годзе ўбачыла свет опера Дж. Расіні «Севільскі цырульнік».

Выканаўчае майстэрства студэнтаў настолькі вырасла, што оперны клас быў рэарганізаваны ў Дзяржаўную студыю оперы і балета. Новы творчы калектыў мог на больш высокім узроўні вырашаць складаныя пытанні падрыхтоўкі кадраў спевакоў, стварыў свой рэпертуар, заснаваў балетную трупу, хор. Вакальным кіраўніком опернай студыі быў прызначаны А. П. Баначыч. Дадалося і студыйцаў. Па сутнасці, утварыўся «малы оперны тэатр». Малады калектыў імкнуўся да творчых пошукаў, да рэалістычнага ўвасаблення вобразаў, да стварэння жыццёва праўдзівых і яскравых спектакляў. Усе ўдзельнікі студыі—ад мастацкага кіраўніка да артыстаў хору—жадалі як мага хутчэй паказаць вынікі сваёй працы. Зрэшты, артыстамі былі і ўсе салісты: сёння ты Разіна ці Кармэн, Хазэ ці Фігара, а заўтра, калі не заняты ў сольнай партыі,—артыст хору.

Прэм'ерай у опернай студыі, якая адбылася ў 1930 годзе, стала опера М. Рымскага-Корсакава «Залаты певунік» (вакальны кіраўнік А. Баначыч, дырыжор І. Гітгарц, рэжысёр У. Цезароўскі, мастак В. Памфілаў). Газета «Савецкая Беларусь» пісала аб гэтым спектаклі: «Залаты певунік»—безумоўнае дасягненне, новы і каштоўны ўклад у культурнае будаўніцтва БССР». Спектакль быў добра прыняты слухачамі. Галоўныя партыі выконвалі Т. Нікіціна (Шэмаханская царыца), У. Каліноўскі (Дадон), І. Балоцін (Звяздар), М. Дзянісаў (Амфрон). Неўзабаве была ажыццёўлена пастаноўка і оперы Ж. Бізэ «Кармэн».

За тры гады свайго існавання оперная студыя стала сапраўднай творчай лабараторыяй, дзе выхоўваліся будучыя салісты Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета.

І 23 мая 1933 года адбылося яго ўрачыстае адкрыццё. На прэм'еры быў паказаны лепшы спектакль опернай студыі—«Кармэн».

А. Баначыч не дажыў да гэтай урачыстай хвіліны: 22 сакавіка 1933 года ён памёр у бальніцы ад запалення лёгкіх. Але яго праца, вопыт, майстэрства, перададзенае вучням, працягвала і працягвае жыць, прыносячы радасць людзям. Як адзначалі сучаснікі, амаль уся трупа тагачаснага опернага тэатра складалася з вучняў Антона Пятровіча Баначыча.

Ён быў выдатны дзеяч мастацтва не толькі Савецкай Беларусі, дзе працаваў апошнія чатыры гады свайго жыцця, але і ўсёй нашай краіны. Жыццё яго было прыкладам шчырага служэння опернаму мастацтву, за межамі якога ні ён сам не мог уявіць сябе, ні ўсе тыя, хто ведаў яго.

Леанід ІВАШКОЎ,
дацэнт кафедры спеваў
Беларускай дзяржаўнай
кансерваторыі
імя А. В. Луначарскага.



# ЯНКА КУПАЛА

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ДАВЕДНІК

**АХРЭМЧЫК** Іван Восіпавіч
(1903—1971)—беларускі савецкі жывапісец. Народны мастак БССР (1949). Прафесар (1964). Член КПСС з 1965. Скончыў Вышэйшы мастацка-тэхнічны інстытут у Маскве (1930). Працаваў у галіне партрэта, тэматычнай карціны, пейзажа, манументальнага мастацтва. Адзін з першых адлюстраваў у беларускім жывапісе тэмы сацыялістычнага будаўніцтва, станаўлення Савецкай улады. Асноўныя творы: карціны «Падпісанне маніфеста аб стварэнні БССР» (1929), «II з'езд РСДРП» (1932), «Арганізацыя Савецкай улады ў Гомелі» (1940), «Абаронцы Брэсцкай крэпасці» (1958), «Раніца» (1963) і інш., шэраг партрэтаў дзеячаў беларускай культуры, размалёўка (разам з І. Давідовічам) плафона ў Тэатры юнага гледача ў Мінску і пано ў канферэнц-зале Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі (1956). Быў знаёмы з Я. Купалам. Партрэт Я. Купалы (палатно, алей; ЛМЯнК), напісаны ў 1945—адзін з лепшых партрэтаў паэта; у ім мастак адлюстраваў жыццёвасць і натуральнасць паставы, а таксама псіхалагічны стан паэта, сродкамі кантрастных фарбаў перадаў шчырасць і чалавечую цеплыню. У 1940 стварыў групавы партрэт «Янка Купала і Якуб Колас» (палатно, алей; ЛМЯнК).

**В. ШМАТАЎ.**

**АЎЛАЧЫНСКАЯ** Марыя Дамінікаўна
(1887—1966)—родная сястра Я. Купалы. Нарадзілася ў Юзэфаве. Разам з Я. Купалам жыла ў Косіне, Сеніцы, Прудзішчы, Селішчы, Бараўцах. З дапамогаю брата атрымала хатнюю адукацыю. У 1906 годзе выйшла замуж за І. Аўлачынскага, да 1914-га жыла з сям'ёй маці. Пасля пераезду на хутар Ляўшова (1,5 км ад Акопаў) сустракалася з Я. Купалам у Акопах, прыязджала ў Мінск і Ляўкі, падтрымлівала з ім шчырыя сваяцкія адносіны. Я. Купала дапамагаў Аўлачынскай матэрыяльна, у 1941 годзе перадаў ёй частку грашовай сумы Дзяржаўнай прэміі СССР. Апошняя сустрэча з братам адбылася на пачатку чэрвеня 1941 года, калі ён прыязджаў да яе ў Барысаў перад ад'ездам у Рыгу на І з'езд пісьменнікаў Латвійскай ССР. З 1953 года жыла ў Мінску разам з У. Ф. Луцэвіч. Выступала з успамінамі пра Я. Купалу. Пахавана ў Мінску на могілках па Маскоўскай шашы. Зберагаецца фанаграма ўспамінаў Аўлачынскай пра брата (ЛМЯнК, ф. 1, воп. 5, адз. зах. 7). Факту з жыцця Аўлачынскай і Я. Купалы прысвечана акварэль беларускага мастака А. Волкава «Янка вучыць сваіх сясцёр грамаце».

**Ж. ДАПКЮНАС.**

**БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА**
ў Вільні—суполка, якая выпускала і прадавала беларускія кнігі і календары. Існавала з 1.7.1913 да пачатку 1-й сусветнай вайны (у 1915 выйшла 2 кнігі) і ў 1919—30. Арганізацыйна ўспрыняла традыцыі газеты «Наша ніва» і выдавецтва «Наша хата». З кастрычніка 1913 да 1915 адказным сакратаром таварыства быў Я. Купала. У 1914 надрукавала ў друкарні М. Кухты 13 кніг (агульны тыраж 42 тыс. экз.), у тым ліку творы Я. Коласа, М. Гарэцкага, Ядвігіна Ш., К. Буйло і інш. У зборніку «Апавяданні і легенды вершам» розных аўтараў змешчаны вершы Я. Купалы «Роднае слова», «Шчасце». Найбольш інтэнсіўна працавала ў 1926—28 гадах, калі знаходзілася пад уплывам Беларускай сялянска-рабочай грамады і рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі «Змаганне». Выдала «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры» І. Дварчаніна (1927), у якой змешчаны ўступны артыкул укладальніка пра Я. Купалу, яго паэмы «Курган», «На куццю», «Яна і я», «Безназоўнае» (апошнія дзве ў фрагментах), драматычны абразок «На папасе», скарочаны тэкст камедыі «Паўлінка», многія выдатныя ўзоры грамадзянскай лірыкі. Творы Я. Купалы друкаваліся і ў іншых падручніках, выдадзеных таварыствам. Пасля разгрому грамады і «Змагання» кіраўнічую ролю ў таварыстве захапілі згодніцкія элементы, і яно заняпала.

**А. ЛІС.**

**«БЕЛАРУСКІМ ПАРТЫЗАНАМ»**
— грамадзянска-патрыятычнае пасланне Я. Купалы (1941). Напісана ў першыя дні вайны ў Чарнарэцкім лясніцтве. Упершыню надрукавана ў газеце «Красная звезда» 28.9.1941 года. Зберагаюцца два аўтографы: чарнавы няпоўны і белавы з паметай «Янка Купала. Масква. Чырванарэцкае лясніцтва. 19.IX.41 г.» Верш прасякнуты вераю ў сілу народа, у магутнасць савецкага ладу і ўпэўненасцю ў непазбежным разгроме фашызму, прадаўжае і развівае матывы купалаўскай публіцыстыкі савецкага часу: кліча да змагання і помсты ворагу, выяўляе палымяны савецкі патрыятызм і непахісную стойкасць беларускага народа. Лірычнае «я» паэта пашыраецца ў духу купалаўскай патэтычнай маштабнасці да абсягаў калектыўнага «я» народа, прамаўляецца ад імя народа і Радзімы. Стыль патэтычнай мітынговай прамовы, адозвы («Клічу вас я на пабеду») спалучаецца з інтанацыямі мяккай, сардэчнай гутаркі («Хай вам шчасцем свецяць дні»). Выяўленне пачуццяў вызначаецца пераходамі ад заклiку і праклёну—да просьбы і заклікання, ад абурэння і гневу—да пяшчоты і ласкавасці. Выразная страфічная пабудова з уласцівай ёй вылучанасцю заключнага радка («Каб не ўскрэслі век яны», «Баль спраўляць на іх касцях», «Хай жа гіне ліхадзей!»), метрычныя і інтанацыйныя зрухі вядуць перажыванне ад балючага відовішча фашысцкіх здзекаў да прадбачання светлых дзён адваяванай свабоды («Ваша чыстая дарога // Да свабоды давядзе...»). Прамая экспрэсія ацэначных і ўзмацняльных слоў («гітлерцаў паганых», «чорнай ночай») дапаўняецца таўталогіяй («звер звяроў»), лексічнай кантрастнасцю («ад нечысцяў ачысцім»). Нярэдка гукапісная выразнасць набывае акрэсленую стылістычную функцыю праз гукавую збліжанасць слоў («Рэжце гітлерцаў паганых, // Каб не ўскрэслі век яны») і алітэрацыйную агучанасць радкоў («Так ад нечысцяў ачысцім // Нашы нівы і лясы... І схінуцца, як калісьці, // Для нас нашы каласы»—быццам чуецца шапаценне лісця і каласоў). Выкарыстанне прыёмаў і сродкаў фальклорнай паэтыкі ўзмацняе народнасць верша, памагае з вялікай паэтычнай сілай выявіць свет народа, ускалыхнутага да сваіх спадчынных, адвечных глыбінь ваеннай навалай. Верш «Беларускім партызанам» меў шырокі водгук у савецкіх людзей: у 1942 годзе ў Казані надрукаваны ў выглядзе лістоўкі з паметай «Чырвоным партызанам ад працоўных Татарыі», шмат разоў перадрукоўваўся ў ваенны час, быў лістоўкай і плакатам, перадаваўся па радыё. Я. Купала цалкам уключыў гэты верш у публіцыстычны артыкул «О народной войне», «Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!», 2 страфы ў артыкуле «Кліч да беларускага народа». Матывы і вобразы верша сустракаюцца ў вершах А. Вялюгіна «Стала песня славаю народа», К. Кірэенкі «Песня народа», У. Нядзведскага «Песня Купалы», у лірычным цыкле М. Лужаніна «Па дарогах Купалы» і інш. На аснове верша «Беларускім партызанам» стварыў аднайменную кантату А. Багатыроў, напісалі песні П. Падкавыраў, Р. Пукст, М. Чуркін. Верш пераклалі на рускую мову М. Бэрэндгоф, М. Галодны, В. Уладзіміраў, на ўкраінскую—С. Крыжаніўскі, М. Цярэшчанка, на грузінскую—А. Бегашвілі, на кіргізскую—Ц. Уметаліеў, на латышскую—Ю. Ванаг, на літоўскую—П. Кяйдошус, С. Нагінскас, на ўзбекскую—Міртэмір, на таджыкскую—М. Фархат, на балгарскую—Н. Антонаў, на венгерскую—А. Гідаш, на чэшскую—К. Беднардж.

**В. БЕЧЫК.**

**БЕЛАРУСКІ ТЭАТР ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА**
— Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. Створаны з выпускнікоў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве, адкрыўся ў Віцебску 21.ІІ.1926 года. Называўся Беларускі 2-гі дзяржаўны тэатр (БДТ-2, з 1926); 21.12.1944 прысвоена імя Я. Коласа. У 1977 годзе—званне акадэмічнага. У 1976 годзе ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Тэатр падтрымлівае сталыя кантакты з беларускімі пісьменнікамі, многія творы якіх былі ўпершыню ў ім пастаўлены. Да твораў Я. Купалы тэатр звярнуўся ў 1936 годзе. Рэжысёр П. С. Малчанаў ажыццявіў пастаноўку спектакля пад назвай «Вечар беларускіх вадэвіляў», куды ўвайшлі «Паўлінка» і «Прымакі» Я. Купалы (таксама «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча). У часе падрыхтоўкі на рэпетыцыях прысутнічаў Я. Купала. Па прапанове Малчанава паэт дапоўніў п'есу новай сцэнай, дзе Якім Сарока чытаў Паўлінцы ўрывак з «Песні пра Буравесніка» М. Горкага. У 1937 гэтая сцэна была замацавана ў новым варыянце камедыі. Захаваўся фотаздымак Я. Купалы з трупай тэатра (1936 г.). 13.5.1936 года Я. Купала ў Бабруйску, дзе ў той час гастраляваў тэатр, прысутнічаў на рэпетыцыі і глядзеў эскізы і макеты дэкарацый (мастакі Л. Якуніна і Я. Нікалаеў), праслухаў музыку (кампазітар М. Красеў). Паэт прысутнічаў на прэм'еры 12.6.1936 года ў Бабруйску і выказаў задавальненне. Поспех спектакля ў асноўным быў абумоўлены правільным тлумачэннем купалаўскіх п'ес рэжысёрам, які здолеў убачыць за знешняй камедыйнасцю праўду аб жыцці беларускай дарэвалюцыйнай вёскі. Ролі выконвалі: Ц. Сяргейчык (Сцяпан Крыніцкі), А. Лагоўская (Альжбета), Р. Кашэльнікава (Паўлінка), В. Бялінскі (Пранцысь Пустарэвіч), Л. Мазалеўская (Агата), П. Іваноў (Якім Сарока), В. Тышкевіч (Адольф Быкоўскі). Найбольшай удачай спектакля «Паўлінка» стаў вобраз галоўнай гераіні, створаны Кашэльнікавай. У цэлым спектакль вызначаўся арганічным спалучэннем акцёрскага ансамбля, рэжысуры і мастацкага афармлення. Пасля пастаноўкі «Паўлінкі» былі паказаны «Прымакі». Ролі ў ім выконвалі: П. Малчанаў (Максім Кутас), Т. Бандарчык (Паланея), Я. Буракоў (Мацейка), І. Катовіч (Трахім Сініца), Я. Глебаўская (Даміцэля), А. Буданава (Кацярынка). Сцэнічны жарт Я. Купалы быў аздоблены народнымі песнямі, танцамі, яскравымі мастацкімі знаходкамі. Выканаўцы, адчуўшы камедыйную стыхію п'есы, імправізавалі, што надавала спектаклю лёгкасць, падкрэслівала іранічныя адносіны да персанажаў. Найбольш значнай атрымалася роля Максіма Кутаса. У Айчынную вайну маналог Кутаса ў выкананні Малчанава, а таксама спектакль «Прымакі» ўключыліся ў канцэртную праграму, з якой франтавая брыгада тэатра выступала перад часцямі Чырвонай Арміі. Наступная сустрэча тэатра з творчасцю Я. Купалы адбылася ў 1951 годзе—рэжысёрам А. Б. Скібнеўскім была пастаўлена драма «Раскіданае гняздо». Ролі выконвалі: Ц. Сяргейчык (Лявон Зяблік), А. Лагоўская (Марыля), А. Шэлег (Сымон), Л. Мацісава (Зоська), Л. Гепнер (Данілка), А. Трус (Старац), Б. Левін, М. Федароўскі (Паніч), М. Звездачотаў (Незнаёмы), музыка М. Чуркіна, мастак Нікалаеў, дырыжор Л. Маркевіч. Асноўная ўвага ў спектаклі была звернута на выяўленне сацыяльнай значнасці купалаўскага твора. П. Глебка і А. Кучар у артыкуле «П'еса, прачытаная па-новаму» (зборнік «Янка Купала ў беларускім мастацтве», 1958) адзначалі: «П'еса вырашана тэатрам як народная драма, з вялікай сілай гучаць у спектаклі матывы пратэсту і барацьбы». У 1955 годзе тэатр паказаў спектакль на Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве, дзе ён атрымаў высокую ацэнку.

**Т. ГАРОБЧАНКА.**

**«БЕЛАРУСКАЯ ХАТКА»**
— клуб беларускай тэатральнай і пісьменніцкай інтэлігенцыі, які дзейнічаў у Мінску ў 1917—20 гадах. Вёў культурна-асветніцкую работу сярод беларускага насельніцтва, садзейнічаў стварэнню беларускага савецкага прафесійнага тэатра. Размяшчалася ў розных наёмных памяшканнях: на вул. Захараўскай, 18, потым у будынку на Конскім пляцы (цяпер тралейбуснае дэпо на вул. Варвашэні). У розныя гады ў клубе працавалі Першае беларускае таварыства драмы і камедыі, Мінскае таварыства працаўнікоў мастацтва, Драматычная секцыя беларускай тэатральнай грамады, розныя аматарскія гурткі. Актывістамі клуба былі У. Фальскі, Ядвігін Ш., У. Галубок, Ф. Ждановіч і інш. У «Беларускай хатцы» ўпершыню ў Мінску 24.4.1917 года пастаўлена «Паўлінка» Я. Купалы разам са спектаклем «Рысь» паводле апавядання Э. Ажэшкі «У зімовы вечар». Падрабязных звестак аб пастаноўцы не захавалася. Адзін з гледачоў пісаў, што «публіка Мінска прыняла спектакль вельмі добра. Тэатр быў поўны. Пэўна ж быў ён напоўнены не толькі аднымі свядомымі беларусамі, было больш такіх, якія ішлі праз цікавасць, каб паглядзець, што гэта за яны—беларусы і які іх тэатр. Гутаркі аб беларускім тэатры ў той час было шмат» (Архіў ІМЭФ АН БССР, ф. 7, спр. 5, с. 90—91). Тут жа па аўтарскім рукапісе ўпершыню была падрыхтавана рэжысёрам Ждановічам драма Я. Купалы «Раскіданае гняздо». Прэм'ера адбылася 10.7.1917 года ў гарадскім тэатры. Спектакль быў прыхільна сустрэты гледачамі і крытыкай. У часе нямецкай акупацыі 2.4.1918 года таварыствам драмы і камедыі была пастаўлена «Паўлінка» Я. Купалы (газета «Беларускі шлях», 4.4.1918). Спектакль меў вялікае палітычнае значэнне: дасціпны і просты для разумення, насычаны беларускімі танцамі і песнямі, ён абуджаў грамадзянскія пачуцці. Да ўтварэння Беларускага дзяржаўнага тэатра (тэатр імя Я. Купалы) ў 1920 годзе п'есы Я. Купалы «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» займалі цэнтральнае месца ў рэпертуары розных калектываў, што працавалі ў «Беларускай хатцы».

**С. ПЯТРОВІЧ.**

ВАШЫ ЗНАКАМІТЫЯ... НЕЗНАЁМЦЫ

# ДА ТАЯМНІЦ УСХОДУ

Да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі, як вядома, апрача Горацкага сельгасінстытута, вышэйшых навучальных установаў не было, але таленавітая моладзь з беларускіх мясцін прагна імкнулася да ведаў, да навукі, ехала і ішла вучыцца ва універсітэцкія цэнтры — Маскву, Пецярбург, Кіеў, Вільню... Шмат якія выхадцы з Беларусі сталі вядомымі вучонымі, узбагацілі навуку сваімі працамі ў розных галінах ведаў. Варта прыгадаць імёны астраномаў В. К. Цэраскага, С. Н. Блажко, Г. А. Ціхава, батаніка П. Ф. Гаранінава, кліматолага А. І. Кайгарадава, матэматыка В. П. Ермакова, фізіка А. І. Садоўскага, археолага А. В. Прахава, гісторыкаў Е. Е. Замыслоўскага, А. Л. Пагодзіна і В. І. Семеўскага, металургаў В. К. Мірэцкага і М. К. Куракі, вядомага эпідэміёлага Я. І. Марціноўскага і першую ў Расіі жанчыну доктара медыцынскіх навук В. А. Кашавараву-Рудневу і інш.

Значны след пакінулі выхадцы з Беларусі ў вывучэнні краін Усходу. З былога мястэчка Копысь (зараз гарадскі пасёлак Аршанскага раёна) паходзіць вядомы геадэзіст і географ Міхаіл Паўлавіч Урончанка (1802—1855 гг.). Пасля заканчэння Магілёўскай гімназіі ён паступіў у ваеннае вучылішча, а потым вучыўся ў Маскоўскім і Дэрпцкім універсітэтах. Міхаіл Урончанка здзіўляў сваіх настаўнікаў выдатнымі здольнасцямі, высокай агульнай культураю, дасканала валодаў нямецкай, англійскай, італьянскай, грэчаскай, балгарскай і турэцкай мовамі.

Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, ён праводзіў геадэзічныя работы і вымярэнні на Беларусі і Віленшчыне, а пазней — у Паволжы, на Балканах і іншых мясцінах, дасягаючы па тых ужо часах выключнай дакладнасці вымяральных работ.

У 1833—1835 Урончанка разам са сваім памочнікам робіць падарожжа па Турцыі, якая ў той час была мала вядома рускім людзям. У гэтай краіне яшчэ не было ні дакладных геаграфічных карт, ні сістэматычных апісанняў. У выніку амаль трохгадовых даследаванняў наш зямляк стварыў капітальную працу «Описание Малой Азии в ее нынешнем состоянии» аб'ёмам звыш 600 старонак буйнога фармату.

У сярэдзіне стагоддзя М. П. Урончанка стаў адным з заснавальнікаў Рускага геаграфічнага таварыства. Цяжка перабольшыць ролю гэтага навуковага аб'яднання, бо менавіта яно наладжвала і кіравала экспедыцыямі М. М. Пржавальскага ў Цэнтральную Азію, вывучэннем Далёкага Усходу, амаль фантастычнай даследніцкай дзейнасцю М. М. Міклухі-Маклая ў Новай Гвінеі і шмат якімі іншымі важнымі даследаваннямі.

М. П. Урончанка вядомы таксама як чалавек высокай духоўнай культуры: яго пяру належаць пераклады на рускую мову твораў У. Шэкспіра, Д. Байрана, І. В. Гётэ.

Выдатным спецыялістам па краінах Усходу быў Восіп Міхайлавіч Кавалеўскі (1801—1878 гг.) родам з мястэчка Бераставіца (зараз райцэнтр Гродзенскай вобласці). Яго, студэнта Віленскага універсітэта, за нядобранадзейнасць у 1824 годзе саслалі ў Казань, дзе ён пачаў вывучаць усходнія мовы — татарскую, арабскую, іранскія. Але адно толькі кніжнае вывучэнне не задаволіла маладога даследчыка. У 1827 годзе ён накіроўваецца ў Забайкалле, затым у Манголію, дзе вывучае этнаграфію, гісторыю і мову мангольскага народа, што дапамагае яму стварыць грунтоўныя працы «Гісторыя манголаў», «Мангольска-руска-французскі слоўнік», перакладаць на рускую мову мангольскія рукапісы. У Казань В. М. Кавалеўскі вярнуўся ўжо вядомым спецыялістам па мангольскай і тыбецкай этнаграфіі, гісторыі і мове. У 1839 годзе яго абралі ганаровым членам Азіяцкага таварыства ў Парыжы, а ў 1847 годзе — акадэмікам Пецярбургскай акадэміі навук.

Восіп Міхайлавіч Кавалеўскі пакінуў багатую навуковую спадчыну — друкаваныя працы і рукапісны фонд, які цяпер захоўваецца ў Ленінградзе. Пакінуў наш зямляк і таленавітых вучняў: сярод іх і першы бурацкі вучоны-даследчык Усходу Доржы Банзараў, імя якога носіць сёння Бурацкі педінстытут ва Улан-Удэ.

Шырока вядомым спецыялістам па Блізкім і Сярэднім Усходзе быў і Каятэн Андрэевіч Касовіч (1815—1883 гг.), ураджэнец Полацка. Атрымаўшы пачатковую адукацыю ў родным горадзе, ён пехатою, па прыкладу Міхаіла Ламаносава, накіраваўся ў Віцебск, дзе паступіў у мясцовую гімназію. Тут ён не толькі вучыўся, але і сам даваў урокі лацінскай граматы, зарабляючы на пражытак. Здольнасці маладога гімназіста нельга было не заўважыць, і ў 1832 годзе Касовіча за кошт Беларускай вучэбнай акругі накіроўваюць у Маскоўскі універсітэт, дзе ён авалодаў нямецкай, англійскай, французскай і іспанскай мовамі. Але асабліва цікавіў Каятэна таямнічы Усход. Касовіч вывучае санскрыцкую (старажытную індыйскую), авестыйскую (адну са старажытных іранскіх), а таксама сучасную іранскую мову.

У 1849 годзе К. А. Касовіч атрымаў прызначэнне ў Пецярбург — «для загадвання аддзелам усходніх рукапісаў і кніг у Імператарскай бібліятэцы». У 1851 годзе яго запрасілі ў Англію для расшыфроўкі індыйскіх рукапісаў, што захоўваліся ў Брытанскай бібліятэцы. Неўзабаве К. А. Касовічу было прысвоена ганаровае званне доктара навук, ён быў абраны таксама ганаровым членам Азіяцкага таварыства ў Парыжы, Усходняга таварыства ў Германіі. Будучы ўжо вядомым вучоным, К. А. Касовіч неадноййчы наведваў родныя мясціны на Беларусі.

Спецыялісты па краінах Блізкага Усходу добра ведаюць Барыса Аляксандравіча Тураева (1868—1920 гг.), выдатнага знаўцы гісторыі і культуры Егіпта, Эфіопіі, Аравіі. Будучы вучоны, акадэмік, нарадзіўся ў Навагрудку, дзе прайшло ягонае маленства. Пасля заканчэння Пецярбургскага універсітэта ён вучыўся ў вядомых спецыялістаў па Блізкім Усходзе за мяжой: у Берліне, Парыжы, Лондане, у Італіі. Выключная эрудыцыя дазволіла Тураеву стварыць грунтоўныя працы па гісторыі Егіпта, Эфіопіі, сумежных краін. Барысу Аляксандравічу належыць вядомая грунтоўная праца «История Древнего Востока» ў двух тамах, якая ў свой час не мела сабе роўнай па змесце і глыбіні даследаванняў.

Вядомыя вучоныя, паслядоўнікі Б. А. Тураева ўжо ва ўмовах Савецкай улады прадоўжылі справу свайго настаўніка, асэнсавалі яго ідэі з новых, марксісцка-ленінскіх пазіцый.

Да больш блізкіх часоў адносіцца дзейнасць Аляксандра Адольфавіча Пальмбаха (1897—1963 гг.) — аднаго са стваральнікаў тувінскай пісьменнасці.

Аляксандр Адольфавіч нарадзіўся ў Дрысе (цяпер г. Верхнядзвінск). Мяркуюць, што ягоны дзед, ураджэнец невялікай вёсачкі ля Віцебска, вырас сярод маляўнічых прастораў Беларускага Паазер'я, ведаў шмат беларускіх казак і прымавак, а яго роднай мовай была беларуская. Бацька А. А. Пальмбаха атрымаў адукацыю, стаў правінцыяльным урачом. Аляксандр скончыў гімназію ў Віцебску з залатым медалём, але неўзабаве застаўся без бацькі, спазнаў усе цяжкасці сіроцкага жыцця.

У цяжкія гады грамадзянскай вайны Аляксандр Пальмбах быў на Заходнім фронце, а пасля дэмабілізацыі працаваў настаўнікам у Лёзне. У канцы 1922 года ён выехаў у Маскву, дзе атрымаў пасаду дырэктара школы.

У Маскве на пачатку 20-х гадоў ствараецца Камуністычны універсітэт народаў Усходу, куды і быў накіраваны на працу А. А. Пальмбах. З гэтага часу ягонае жыццё назаўсёды знітавана з Тувою — краем далёкім і невядомым, наогул непісьменным. Але людзі пераконваліся, што будучыня іх народа — у братэрстве з рускім народам. Упершыню з далёкай Тувы ў Маскву, у Камуністычны універсітэт народаў Усходу, прыехалі некалькі маладых навучэнцаў. Сустракаў іх высокі стройны чалавек у армейскай гімнасцёрцы. Гэта і быў А. А. Пальмбах.

Улетку 1930 года Аляксандр Адольфавіч разам з іншымі вучонымі выязджае ў Туву; гэты год і лічыцца годам заснавання тувінскай пісьменнасці. У хуткім часе з'явіліся газеты і літаратурныя творы на тувінскай мове; тувінскі народ змог пазнаёміцца з багатай культурай суседніх народаў, а тувінскія народныя сказы і літаратурныя творы сталі таксама здабыткам народаў СССР.

«Трэба ведаць Туву трыццатых гадоў, яе культуру і побыт, усе гістарычныя ўмовы, каб беспамылкова ацаніць усю велізарную працу, якую выканаў А. А. Пальмбах па стварэнні тувінскай пісьменнасці, па развіцці культуры гэтага невялікага, але на дзіва працавітага народа» — гэтыя радкі я занатаваў з кнігі успамінаў «Александр Пальмбах — писатель и человек», выдадзенай у горадзе Кызыл. У той жа кнізе змешчаны і артыкул вядомага савецкага паэта Сцяпана Шчыпачова, які мае простую і выразную назву — «Имя это не должно быть забыто».

**Вадзім ЖУЧКЕВІЧ,**
**доктар геаграфічных навук,**
**прафесар.**




Мікола ДУБОЎСКІ

# ПАКІНУЛА...

ГУМАРЭСКА



Анціп расплюшчыў вочы. Сонца зазірала ў акно і, здавалася, насміхалася: «Доўга спіш, лайдача!» Пачухаўшы патыліцу, падумаў: «А і сапраўды лайдак! З-за гэтага праклятага балансу не меў часу добрага слова сказаць Анэлі. Ішоў на работу раненька, а вяртаўся, калі яна ўжо спала. Але сёння — усё! Сёння выхадны дзень, трэба перад жонкаю рэабілітавацца: пагаварыць, у шчаку цмокнуць...» Ён уссунуў шлёпанцы і прайшоўся па пакоі. У кватэры цішыня. Зазірнуў на кухню — жонкі там не было... Выйшаў на лесвічную пляцоўку і праз акно агледзеў двор, але і там яе не ўбачыў.

— Дзе ж Анэля? — уголас здзівіўся Анціп.

Вярнуўшыся ў кватэру, пачаў уважліва, як дэтэктыў, усё аглядаць. Каб у магазін пайшла — снеданне на стале стаяла б і запіска ляжала б. Дый гаспадарчая сумка на месцы, на цвіку. Праўда, няма паліто і валізкі, з якою Анэля мінулым летам ездзіла ў дом адпачынку. Адчыніў шуфлядку, дзе ляжалі грошы,— іх таксама не было.

«Пакінула!» — гранатай узарвалася ў галаве здагадка. Анціп кінуўся да тэлефона і пачаў званіць усім знаёмым, спадзеючыся, што можа з іх хто ведае, куды падзелася Анэля. Марная надзея! Зняможаны, Анціп апусціўся на дыван і ашчаперыў ускудлачаную галаву. Успомніліся шматразовыя пагрозы жонкі, што, калі ён не будзе своечасова прыходзіць дадому, яна пакіне яго...

— Вось яна, пакутніца, і выканала сваё абяцанне,— са шчымлівай горыччу казаў сам сабе Анціп.— Што ж рабіць, дзе шукаць?

Калі першая хваля адчаю ўлеглася, Анціп зноў падышоў да тэлефона і набраў лічбу «нуль два».

— Міліцыя? У мяне прапала жонка,— жаласна сказаў ён у трубку.— Як, як кажаце? Спаць?.. Спаць мы леглі разам, а прачнуўся — яе няма... Ды не... Ні ў магазін, ні да знаёмых. Калі б так было, то снеданне на стале стаяла б. Дзверы і вокны?! Не, дзверы і вокны цэлыя, ніхто не ўзламаў, не разбіў. Як прозвішча? Цішкін. А, яе? Цішкіна, Анэля Паўлаўна. Што рабіць?! Ага, разумею: званка чакаць.

Анціп паклаў трубку і пачаў рабіць кругі па кватэры. Усё шпарчэй і шпарчэй.

## З-ПАД КАПЫТА ПЕГАСА

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

### ЦЫРКАВЫ ЎЧЫНАК

...Да Праўды і Дабра,
Як па карнізе,
Заўжды ішоў
І ўсё яшчэ іду.

Сяргей ГРАХОЎСКІ.
«Развітанне з кнігай».

Ах, падсцяліце сена ці травы —
Паэт учынак робіць цыркавы:
Як па карнізе, крочыць да дабра,
Не кожны так патрапіць акрабат.

### АРШЫН І МЕТР

У крытыцы не робіць змен
І ні аршын, і ні бязмен,
Але часамі новым метрам
Не творы мераюць — паветра.

### НА СМЕТНІКУ ПАЭЗІІ

На сметніку паэзіі
Метафар шмат пустых —
Сто год ужо, як звезены
І звалены ў кусты.
«Наватары» прыкмецілі
Увесь гэты утыль
І ўсё, што было змецена,
У свой уткнулі «стыль».
Вось рэбус-верш наватарскі,
Дзе сэнсу — ні на грош.
Вядома, што тавар такі
Шпурнеш адразу ў кош.

### «ДЗЕ Я, ДЗЕ Я?!»

Ён дабраўся да Парнаса,
Рассядлаў свайго Пегаса
І адчуў, што маладзее.
У сябе спытаўся:
— Дзе я?!.
А зязюля на суку:
— Тут, мой мілы, тут! Ку-ку!
Шкода мне цябе да слёз.
Ну няўжо ў цябе склероз,
Што пытаеш: «Дзе я, дзе я?!»
На гары цяпер старэеш.
Падлічы свае ты леты!
Не лічыў, відаць, дагэтуль,
Бо не тыя ўжо гады,
Заяўляць, што малады...

Валянцін ЛУКША

### КАБ ПАСЛЯ «ПА-ЛЮДСКУ» ЖЫЦЬ...

Гул ад рання ў нашым доме,
Быццам разгарнуўся фронт.
Гармідар усім вядомы —
Распачаўся капрамонт

Брыгадзірка прыпыліла
(Не жанчына — калабок!)
Ды пытае:
— Ёсць бялілы, вапна, цэгла і пясок!

— Вапна! Цэгла! Ёсць кватэра!
Трэба вось рамантаваць:
Столь бяліць, мяняць шпалеры,
Вокны, дзверы фарбаваць...

Брыгадзірка не ў гуморы:
— Тут выстрэнчваць не з рукі.
Я, мілок, з рамбудканторы,
А не казачнік які!

Каб зрабілі ўсё па-людску —
Здабывай, што трэба, сам.
Гэткі вузкі у нас выбар,
Што заказчыку й няўцям.

І бялілаў мы не маем,
І няма шпалер у нас.
Ну, а фарба вось якая —
Быццам зарудзелы квас.

Калі хочаш, каб па модзе
Мы зрабілі інтэр'ер,
Рассусольваць, браце, годзе —
Пераходзь да дзейсных мер.

Вось брыгада. Ты павінен
Нам аб'ём работы даць,
А не то на месяц згінем.
Будзеш доўга кукаваць!

...Вось і шастаю ад рання,
Матэр'ялы дастаю.
Шпару ў крамы без снядання:
— Дзе! Калі! І што даюць!

І вастру, вастру абцасы,
Каб «дастаць», «не упусціць».
Ой, схаплю інфаркт дачасна!
Каб пасля... «па-людску»... жыць...

## У ПАЛАТЫ САКРАТА

Давыд НАХАМКЕС

- Аўтара найменш хвалявала пытанне: «Быць або не быць?» Галоўнае — куды збыць?!
- Закон захавання рэчыва парушаецца там, дзе кепска забяспечана ахова.
- Грошы — гэта і хваробы, і лекі.
- Быць разумнейшым за іншых — гэта норма ці паталогія?
- Штодня зранку «запраўляюся». Сцвярджаў: для таго, каб гарэць на рабоце.

Адам РУСАК

### ДВА АБРАЗКІ

#### ВІШНЁВЫЯ КОСТАЧКІ

Ехаў я ў сваю родную вёску Пясочнае, а па дарозе купіў вядро вішань. Зайшла да нас суседка Ганна, убачыла тыя вішні і прыгадала такую гісторыю.

Жыла ў суседняй в[...]ы сям'я: муж — камбайнер, жонка на ферме працавала, дачка — настаўніца. Вечарамі да дачкі хлопец часта прыязджаў на матацыкле: маладым — маладое...

Як і трэба было чакаць, завіталі неўзабаве да дачкі і сваты. Маці даўно чакала такіх гасцей, так што на пачастунак не паскупілася. Былі там і наліўкі, і закусь, і гарэліца.

Дамовіліся пра ўсё са сватамі, тыя паехалі, а гаспадыня давай у хаце прыбіраць. Згрэбла са стала вішнёвыя костачкі з наліўкі і кінула ў карыта курам, а сама пайшла да кабет на лавачку — пахваліцца, што вяселле хутка будзе. Вярнулася і вачам сваім не верыць: усе курачкі ляжаць пасярод двара, выцягнуўшы лапкі. Забедавала гаспадыня: «Гэта ж трэба, няйнакш штучным угнаеннем патруціліся, во і мяшэчак ляжыць каля карыта».

Каб не прапала пер'е, абскубла гаспадыня курак і кінула за плот — заўтра раніцою закапаю. А назаўтра зірк туды — няма. А куды ж яны дзеліся? Можа, тхор паеў? Пайшла

Праз паўгадзіны пазванілі з міліцыі.

— Алё! Так-так, гэта я, Цішкін. Дзе яна? У лазні?! — здзівіўся Анціп і паспешліва перапытаўся: — Чаму ў лазню ходзіць? А я адкуль ведаю! Ну, калі ласка, не злуйцеся! Алё, алё!

Але колькі Анціп ні «алёкаў», толькі кароткія гудкі чуліся з трубкі.

Ён сеў на пуфік ля тэлефона і няўцямна паглядзеў у пакой, дзе стаяла ванна. Раптам яго позірк спыніўся на палічцы, дзе звычайна ляжалі мыла і мачалка. Іх на месцы не было. І тут мільганула здагадка: «Дык гэта ж яна сапраўды пайшла ў лазню! Яна заўсёды, калі я дома, ходзіць туды. Ох, і любіць жа Анэля папарыцца!»

І заспакоены Анціп, смажачы апетытную яечню з салам, прыкідваў ужо, з кім з сябрукоў праз гадзіну «махне» на зялёнае ўлонне...

---

[illegible]леў, а там — ко-ко... Сядзяць [illegible] курачкі на жэрдачцы ды калоцяцца, бедныя, з холаду — ведама, голенькія...

Вось табе і вішнёвыя костачкі з настойкі...

# СУЧАСНАЯ КАРОВА

Нарэшце мінулі экзамены, на руках у нас дыпломы, і мы выбраліся ў родную вёску на адпачынак. Пасля экзаменацыйнай калатнечы і тлуму любая справа ў ахвотку. Шмат работы дома, а яшчэ болей у полі. Гэтак зарастаюць буракі, што ў адным канцы канчаюць палоць, а ў другім зноў пачынаюць. Дапамогшы зранку маці на дзялянцы, мы з Машаю ўпраўляемся па гаспадарцы — насыпа[illegible] зерня курам, намяшалі зе[illegible] парсючку. А тут і каровы, пападнімаўшы хвасты, прыбеглі з поля. Вырашыла Маша сама карову падаіць — узяла ў рукі вядро, ручнік і пакіравалася ў хлеў.

Карова небадлівая, але малака чужым не аддае. Маша да яе і так, і гэтак падступае, а карова — бокам, бокам на другое месца адыходзіць і хвастом балюча сцябае.

Папрасіла Маша, каб я карову за рогі патрымала. Паспрабавала я, ды дзе ты яе ўтрымаеш! Галавою круціць і нагою б'е, усё па даёнцы цаляе.

Паслала мяне Маша па транзістар. Прынесла я, уключылі. Перадавалі оперу. Карова пастаяла, пастаяла, паслухала ды зноў па вядры нагою — бац! Тады знайшла я джаз і ўключыла на ўсю сілу. Карова вылупіла вочы і стала як укапаная. Тым часам Маша яе і падаіла.

— Ты сучасная карова! — паляпала яе Маша па спіне.— Нездарма ж любіш сучасную музыку. Да таго ж маладая, а ўсе маладыя любяць джаз.

Так цэлы месяц і даілі мы карову — пад вясёлую джазавую музыку...

---




**Шашачны аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР Аркадзь РАКІТНІЦКІ**

## ЗАДАЧА ЧЭМПІЁНА СССР

У чацвёртым чэмпіянаце СССР па шашачнай кампазіцыі малады настаўнік з Баранавіч, майстар спорту Іван Стрэльчык па раздзеле задач заваяваў залаты медаль чэмпіёна краіны.

Вось адна з лепшых яго задач, якая атрымала вышэйшую ацэнку, — 9,5 ачка.




Заперці простую.

**ДЛЯ ТЫХ, ХТО ПАЧЫНАЕ,**

прапануем эфектны, але няцяжкі эцюд 18-гадовага камсамольца Віктара Шульгі з вёскі Выгаловічы Мядзельскага раёна.




Выйгрыш.

Прозвішчы аматараў шашак, якія дашлюць правільныя адказы на задачу і эцюд, будуць апублікаваны.

## ПАМЯНЯЛІСЯ РОЛЯМІ

Прыгадваю адзін з даваенных чэмпіянатаў БССР — не вельмі ўдалы для мяне, бо я аказаўся на чацвёртым месцы, прапусціўшы ўперад майстра Ілью Гардона, першаразраднікаў, а зараз вядомых мінскіх майстроў Дзяніса Гардзевіча і Барыса Берлінкова, і вымушаны быў затым гуляць у адборачным турніры, адкуль толькі тры пераможцы траплялі ў наступны чэмпіянат рэспублікі. Маё становішча пасля трох тураў было не вельмі зайздроснае, бо ў «актыве» я меў тры нулі. А гэта ўсё ж не тое, што ў віцябчаніна Ігара Кабакова, які таксама меў тры, але... выйгрышы. Ён і узначаліў табліцу турніра. Таму не скажу, каб я занадта ўзрадаваўся, калі ў парку імя Чалюскінцаў, дзе праходзілі спаборніцтвы, прымацавалі табліцу, якую адразу абступілі шматлікія балельшчыкі. Каб не кідацца ім у вочы, я сціпла прытуліўся ўбаку, адкуль да мяне дайшоў не вельмі ўхвальны каментарый лідэра:

— Заўтра, — з'едліва ўсміхнуўся ён, — сустракаюся з рэкардсменам па нулях. Пастараюся не парушаць яго нулявое шэсце.

Мне нічога не заставалася, як зрабіць доўгую ракіроўку ў напрамку да хаты.

Вечар, палову ночы і раніцу аддаў шліфоўцы дэбюту і схем «Скрыжаванняў», на якіх я, дарэчы, і «пагарэў». Таму мой партнёр чакаў любога, толькі не гэтага, дэбюту.

Партыя праходзіла так: 1. c3—d4 d6—e5 2. b2—c3 e7—d6 3. g3—h4 f8—e7 4. a1—b2 b6—a5 5. a3—b4 e5—f4 6. e3 : g5 h6 : f4 7. b2—a3 c7—b6 8. f2—e3 f6—g5 9. h4 : f6 e7 : g5 10. g1—f2 g5—h4 11. e3 : g5 h4 : f6 12. f2—g3 f6—g5? Тут чорныя «клюнулі» на даволі замаскіраваную камбінацыю. Пасля чаго 13. d4—c5! b6 : b2 14. d2—c3 b2 : d4 15. e1—f2! a5 : c3 16. c1—b2 c3 : e1 17. g3—h4 e1 : g3 18. h2 : e3. Незапланаванае паражэнне гэтак збянтэжыла Кабакова, што ён прайграў яшчэ пяць партый і трывала замацаваўся на апошнім месцы. Мне ж пашанцавала з уздымам правесці ўсе гульні і заняць... першае месца.

Чаго не здараецца ў спаборніцтвах!

## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ АДКАЗЫ

(Гл. «Беларусь» № 7)

Эцюд А. Буткевіча. 1. g3—e1 h2—g1 2. e1—b4 g7—h6 3. b4 : f8 g1—h2 4. f4—g5! h6 : f4 (калі 4... f6 : h4, то 5. f8—c5 h2—e5 6. c5—a7 h4—g3 7. a7—b8 e5—f4 8. b8—a7 і нічыя) 5. f8—h6 f4—g3 6. h6—d2 g3—f2 7. d2—c3 h2—e5 8. c3—e1 і 9. e1—h4 з нічыёй.

Канцоўка В. Свізінскага. 1. f2—e3 g5—h4 2. e3 : g5 h6 : f4 3. c1—d2 a3 : e3 4. d4 : f2 b4 : d2 5. f2—g3! h4 : f2 6. a1—b2 і 7. a5 : g7 з выйгрышам.

## ВІНШУЕМ ПЕРАМОЖЦАЎ!

**Пераможцамі конкурсу рашэнняў па шашках, які праходзіў у гэтым годзе, сталі: А. АКСЮЧЫЦ, А. РАЙКОЎ, Б. ФАРБЕРАЎ, А. ШАРЭНДА (усе з Мінска), А. БЫКАЎ (Вільнюс), П. ШКЛУДАЎ (в. Сувалкава Полацкага раёна), Ю. ПУГАЦЭВІЧ (Маладзечна), А. ПІНСКІ (Дзяржынск), Р. ГОЛІКАЎ (Гомель).**

---

## КРАСВОРД

Склаў Васіль КАСЕНКА



ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 4. Славутая дачка беларускага народа. 7. Месца адпачынку. 8. Від ападкаў. 10. Трапічная расліна. 13. Частка тэлеграфнага апарата. 14. Савецкі мастак. 19. Буйны сібірскі алень. 21. Адзін з герояў Брэсцкай крэпасці. 22. Птушка. 23. Нямецкі пісьменнік. 24. Гераічны рускі крэйсер. 25. Паэма Міхася Чарота. 26. Рака ў Беларусі. 28. Кіраўнік сялянскага руху ў Расіі. 30. Радарная ўстаноўка. 31. Знак паштовай аплаты. 35. Рэдкі радыеактыўны мінерал. 36. Вялікі італьянскі вучоны-атэіст. 37. Хімічны элемент. 39. Матэматычны тэрмін. 40. Дрэва. 42. Карфагенскі палкаводзец.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Птушка. 2. Ніжні слой кары. 3. Устаноўленая плата. 5. Аптычны генератар. 6. Беларускі мастак-графік. 9. Сыравіна для выплаўкі металаў. 11. Апавяданне М. Лынькова. 12. Сталіца саюзнай рэспублікі. 15. Легендарны генерал, ураджэнец Беларусі. 16. Грашовае ўзнагароджанне. 17. Рускі мастак-пейзажыст. 18. Карціна Пікасо. 20. Дзяржава на ўзбярэжжы Міжземнага мора. 22. Матэматычнае злучэнне. 27. Водная магістраль. 29. Князь Старажытнай Русі. 32. Імя гераіні рамана Л. Талстога. 33. Будаўнічы матэрыял. 34. Шырокая дарога. 37. Рыба. 38. Марка тэлевізара. 41. Аповесць М. Гогаля.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 10

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1. Барсук. 4. «Курган». 8. Кубасаў. 9. Лепта. 10. Кажан. 13. Азарт. 15. Ямайка. 17. Кутора. 18. «Барадзіно». 19. Штанга. 20. «Арарат». 22. Рацыя. 26. Палаш. 27. Канон. 28. Казарка. 29. Градус. 30. Разрад.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 2. Рэшта. 3. Клумба. 4. Кракет. 5. Гапак. 6. Яблыня. 7. Канапа. 11. «Маладосць». 12. Харужая. 14. Конкурс. 16. Агама. 17. Канва. 19. Шлюпка. 21. Турнір. 22. Раманс. 23. Ясакар. 24. «Сасна». 25. Камар.



# ГАСПАДЫНЯ КРАНА

■

ДА НАШАЙ ВОКЛАДКІ

**Надзя Зыкун нарадзілася ў 1959 годзе ў гарадскім пасёлку, на месцы якога сёння — малады прыгажун Светлагорск. Тут закончыла васьмігодку, паступіла ў Бабруйскае ГПТВ будаўнікоў № 60 і па размеркаванні была накіравана ў Мінск. І вось чацвёрты год працуе машыністам вежавага крана ва ўпраўленні спецтрэста будмеханізацыі на 1-м участку.**

**Кароткая рабочая біяграфія... Надзя паспела стаць не толькі высокакваліфікаваным спецыялістам, але і набыла аўтарытэт сярод таварышаў. Два гады назад камсамольцы ўчастка абралі яе сваім камсоргам.**

**Заўсёды бадзёрая, вясёлая, яна стараецца паспець усюды: раніцой на будоўлі, увечары сярод сяброў у інтэрнаце. Надзеі Зыкун аказалі высокі гонар — выбаршчыкі Партызанскага раёна абралі яе ў Савет народных дэпутатаў.**

**У дзень дваццацігоддзя Надзеі Зыкун камуністы трэста аднадушна прынялі яе ў сваю вялікую сям'ю.**

**Растуць новыя гмахі і мікрараёны, маладзее наш старажытны Мінск. І ў гэтыя новабудоўлі часцінку працы ўкладае і гаспадыня вежавага крана Надзея Зыкун.**

**І. ПАЎЛАЎ.**

■

# «СПЯВАЙЦЕ, ХЛОПЦЫ, СПЯВАЙЦЕ!..»



«Цякла Песня па сінім моры, пералівалася хваляю быстраю, улівалася ў крынічаньку чыстую, бегла па камянёчках, перасыпалася жоўтым пясочкам, слалася па зялёнай траўцы, па шырокай лаўцы, а як села за стол — зайграла ўсё наўкол...» — вось якая песня ў народа, жывая, падслуханая ў прыроды. Ад лясоў яна, ад лугоў шапаткіх, ад ніў высокіх, ад ірдзяных вышываў на сукнях. З-пад сэрца яна, з таго, што ляжыць на ім,— з радасці ці з жалю, з поспеху ці з няўдачы, са смеху ці са слязы... Колькі песень — столькі адценняў, настрояў, яны, як дзівосныя ўзоры, тканыя стагоддзямі чалавечай душою...

Прыгадваюцца словы з ліста адной пажылой жанчыны: «Адышлі каляды. Часта збіраліся ў Ганны. Слухалі «Песняроў» з магнітафона. Самі зацягвалі «Шчодры вечар». Бы ў маладосць вярталіся...»

Добрая песня заўжды вяртае да роднага, гаючага,— узрушыць, развярэдзіць, апячэ,— такая сіла ў ёй.

Пра гэта ведаюць артысты ансамбля «Песняры», якім кіруе народны артыст БССР Уладзімір Мулявін. Больш як дзесятак гадоў нясуць яны беларускую песню да людзей — і прасвятляе яна, кранаючы сэрца. З ёю прыгажэюць нашы людзі, а ў далёкіх кутках краіны і за яе межамі на канцэртах «Песняроў» людзі горнуцца душою да нашага мілагучнага слова, да народа, ад імя якога пяюць «Песняры», бо здаўна народ наш багаты хлебам сваім, а слаўны — песню, пра якую на дзіва прачула сказаў паэт Генадзь Бураўкін у вершы «Вяртанне песні», прысвечаным ансамблю «Песняры»:

**...Ты ж мая адзіная,**
**Ты ж мая ніўная,**
**Ты ж мая радзінная,**
**Ты ж мая жніўная,**
**Ты ж мая вясельная,**
**Ты ж мая вясенняя,**
**Ты ж мая названая,**
**Ты ж мая нязваная,**
**Да грудзей прытуленая —**
**Матуліна...**
**Спявайце ж, хлопцы,**
**спявайце!..**

**Раіса БАРАВІКОВА.**



По заданню Міністэрства культуры СССР і Таварыства дружбы з замежнымі краінамі для пракату ў васьмідзесяці дзяржавах свету былі зняты лепшыя калектывы краіны, сярод якіх быў і вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры». Фільм здымаўся групай кінематаграфістаў Літоўскай кінастудыі, здымкі праходзілі ў Раўбічах, рэжысёр фільма — Альгіс Шадкадкас. Фота са здымачнай пляцоўкі зрабіў Пётр Кастрама.



Цана 30 кап. Індэкс 74820

«Беларусь», 1981, № 11, 1—36.